**100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі** /Уклад.
**С 81** І. Саверчанка, Зм. Санько. — Мн.: рэдакцыя газеты «Звязда», 1993. —80 с.

Упершыню асобным выданнем выпускаецца папулярна-асветніцкая кніга па гісторыі нашай Бацькаўшчыны ў пытаннях і адказах, разлічаная на шырокая кола чытачоў. Можа быць выкарыстана як дапаможны матэрыял пры вывучэнні гісторыі Беларусі ў навучальных установах краіны.

**С 0503020903** **ББК 63.3 (2 Бел)**

«Няма больш занядбанай дзедзіны ў сьветавой пісьменнасьці, як гісторыя паняволеных народаў», — гэтыя словы Вацлава Ластоўскага, напісаныя шмат гадоў таму, і сёння застаюцца для нас надзённымі. Знаходзячыся паміж суседзяў — учарашніх братоў па «сацыялістычным лагеры», якія шпарка адраджаюць сваю дзяржаўнасць, трывала ўсталёўваюць незалежнасць, — мы востра адчуваем праўдзівасць гэтых словаў ды, прачынаючыся да нацыянальнага жыцця, хочам зразумець сваё месца ў свеце, асэнсаваць, кім мы былі, як сталася, што дайшлі да такога стану, на які шлях нам узбіцца, каб прыйсці да лепшае долі.

Але не так проста паталіць прагу ведаў аб сваёй мінуўшчыне, бо справа іх папулярызацыі, на жаль, у нас вельмі занядбаная. І таму не дзіўна, што «сярэднестатыстычны» беларус ведае з гісторыі каго заўгодна — Дзмітрыя Данскога, Пятра І, Суворава, урэшце Кромвеля, Напалеона, Пілсудскага, толькі не сваіх нацыянальных герояў. Вось для такога беларуса, з абрабаванай памяццю, але з жаданнем далучыцца да сваіх каранёў, і стваралася гэтая кніга.

Прызначэнне і абумовіла выбар жанру — «у пытаннях і адказах». Зразумела, гэтакі падыход у падачы гістарычнага матэрыялу мае свае хібы, найперш фрагментарнасць выкладу і, вядома ж, саступае сістэматычнаму агляду гісторыі, замінае панарамнаму ўспрыманню яе.

Аднак, з другога боку, пэўнасць пытанняў, лаканічнасць і даступнасць адказаў, засяроджанасць на ключавых момантах, падзеях і асобах дае істотныя перавагі такому падыходу, асабліва калі мець на ўвазе непадрыхтаванасць чытача.

Шмат каму, напэўна, будзе нязвыкла сустрэць тут нетрадыцыйныя погляды і на «адзіны старажытнарускі народ», і на ўзнікненне Вялікага Княства Літоўскага, і на «залаты век» у гісторыі нашае дзяржавы, і на вуніі з Польшчай, і на расейскую акупацыю, (вядомую як «уз’яднанне»), і, мабыць, на многае іншае. Ды гэта й не дзіва, бо стэрэатыпы занадта глыбока ўеліся ў нашу свядомасць. Нас столькі гадоў кармілі хлуснёю, што мы і самі ўжо амаль паверылі ў сваю другаснасць, у сваю ніжэйшасць.

Сталася так, што хцівыя суседзі парасцягвалі нашы скарбы, прысвоілі нашы святыні, зрабілі ўсё, каб адбіць нам памяць, а цяпер, пасміхаючыся, часам кажуць: «А хіба ў вас нешта было? Ды каб не мы, вы б дагэтуль у лапцях хадзілі». Кім бы мы былі, «каб не яны», няхай кожны разважыць сам, прачытаўшы кнігу. Урэшце, на гэтае, 101-е, пытанне лепей за ўсё адказаць не словамі, а настойлівай працай па адраджэнні нашае мовы, культуры, гаспадаркі, па ўмацаванні нашае дзяржавы, спадзеючыся перадусім на свае сілы і на свой розум.

Аўтары гэтае кнігі — навукоўцы розных кірункаў. Усіх іх задзіночвае імкненне паказаць праўдзівую гісторыю, з гледзішча інтарэсаў Беларусі, імкненне даць нарэшце народу магчымасць паглядзець на мінуўшчыну не чужымі, да чаго нас доўга прывучалі, а сваімі вачыма.

Лічым сваім абавязкам выказаць шчырую падзяку Яўгену Куліку, Аляксею і Ірыне Марачкіным, Міколу Купаву, Уладзіміру Крукоўскаму, якія ініцыявалі гэтую працу і бескарысліва дапамагалі ў яе ажыццяўленні.

**Іван САВЕРЧАНКА**

**Зьміцер САНЬКО**

# ЗМЕСТ

# 1. Якія старажытныя плямёны былі нашымі продкамі?

Ужо з глыбокай старажытнасці на Беларусі жылі розныя, пераважна індаеўрапейскія, плямёны. У другой палове 1-га тысячагоддзя па Нараджэнні Хрыстовым наш край пачалі засяляць славянскія плямёны, Што спрычынілася да славянізацыі мясцовых балтаў. Славяна-балцкі сінтэз вёў да фармавання старабеларускага этнасу.

Згодна з летапісам і археалагічнымі даследаваннямі паўднёвую і цэнтральную частку Беларусі займалі **драгавічы** (дрыгавічы), Пасожжа — **радзімічы**, Падзвінне і паўночнае Падняпроўе — **крывічы**. Яны складалі саюзы плямёнаў, мелі свае гарады і дзяржавы — княствы. З балцкіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі летапісы захавалі нам назовы **літвы і яцьвезі**, якія жылі на захадзе і паўночным захадзе.



***Жаночыя ўпрыгожанні — скроневыя колцы — крывічанак (вялікае), драгавічанак (злева) і радзімічанак (справа)***

Матэрыяльная і духоўная культура славянскіх плямёнаў — продкаў беларусаў, як сведчыць археалогія, мала розніліся між сабою. Выключэнне складаюць упрыгожанні, асабліва металічныя скроневыя колцы. У драгавічанак гэта былі зярнёныя буйныя пацеркі, у крывічанак — бранзалетападобныя колцы, на Пасожжы насілі колцы сяміпрамянёвыя.

Найважнейшую ролю ў нашай старажытнай мінуўшчыне адыгралі крывічы. Яны ўтварылі першую вядомую з летапісаў беларускую дзяржаву — Полацкае княства. З XIII стагоддзя на авансцэну гісторыі выходзіць Новагародак (Наваградак). Беларусы Панямоння, падпарадкаваўшы суседняе племя літву, заклалі падмурак нашай новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

З умацаваннем дзяржаўных інстытутаў у выніку інтэграцыйных працэсаў да XII стагоддзя плямёнавы падзел на Беларусі ў асноўным знікае. Назовы ж **крывічы (Крывія)**, а пазней **ліцьвіны (Літва)** пачынаюць азначаць дзяржаўную прыналежнасць, з'яўляючыся гістарычнымі этнонімамі беларусаў.

# 2. Калі на беларускай зямлі з'явіліся курганы?

Курганы — гэта земляныя насыпы над старажытнымі магіламі памерлых, звычайна круглыя ў плане, пярэчнікам у сярэдзіне 5—10 метраў, вышынёй. 1—2 метры. Сустракаюцца пераважна скапленнямі. На Беларусі яны з'явіліся на мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да Нараджэння Хрыстова і былі вядомыя пераважна на Падняпроўі і Палессі. У другой палове 1-га тысячагоддзя і на пачатку 2-га тысячагоддзя па Нараджэнні Хрыстовым пад кургановымі насыпамі хавала нябожчыкаў усё славянска-балцкае насельніцтва Беларусі. З умацаваннем хрысціянства звычай насыпання курганоў сярод гараджан знікае ў XI стагоддзі, у сельскай мясцовасці — у XIII—XIV стагоддзях. Паводле дахрысціянскіх веранняў курганы былі дамоўкамі памерлых. Нябожчыкам «на той свет» ставілі посуд з рытуальнай ежай, клалі прылады працы і зброю.



***Крывіцкія курганы на Ушаччыне***

У народзе курганы часцей называюць **капцамі** або **валатоўкамі**. Часам іх памылкова лічаць татарскімі або французскімі ці шведскімі магіламі. Шмат якія паданні гавораць, што ў курганах схаваныя скарбы, але гэта не адпавядае сапраўднасці. Кургановых могільнікаў на Беларусі больш за 6 тысяч. Яны — неацэнныя помнікі археалогіі і таму ахоўваюцца дзяржавай. Іх разбурэнне караецца законам.

# 3. Якіх багоў шанавалі нашыя продкі ў дахрысціянскія часы?

Да прыняцця хрысціянства продкі беларусаў прытрымліваліся паганскіх (язычніцкіх) веранняў, для якіх было характэрнае шматбожжа. Адным з галоўных багоў быў **Пярун** — бог грому і маланкі, дажджу, апякун вайсковай справы і княскай дружыны.. І дагэтуль маланку ў Беларусі называюць перуном. Лічылася, што бог Пярун трымае ў руках каменныя жорны, і, удараючы адным каменем аб другі, выклікае гром і маланку. Старажытныя каменныя сякеры, якія нярэдка выпадкова знаходзілі, называлі перуновымі стрэламі, лічылася, што парашок, нацёрты з іх, дапамагае ад розных хваробаў.

У пэўнай меры праціўнікам Перуна ўяўляўся **Вялес** (Валос), бог жывёлагадоўлі і багацця, уладар замагільнага свету, апякун абрадавай паэзіі і паганскіх святароў-валхвоў. Да культу Вялеса мелі дачыненне і легендарныя асілкі-волаты. Археалагічныя і фальклорныя матэрыялы даюць падставы лічыць, што на тэрыторыі Беларусі Вялес быў галоўным богам. У многіх мясцінах захаваліся прысвечаныя яму велізарныя камяні (пазней іх называлі камянямі-краўцамі, чортавымі камянямі і г. д.). Вялес меў дачыненне і да ўшанавання вытокаў рэк, найбольш цесна з яго культам звязаны р. Вілія (Вялля) і заснаваны на ёй крывічамі горад Вільня.

Богам вясновай урадлівасці і плоднасці, а таксама нябесным вершнікам лічыўся **Ярыла**, які «сумяшчаў» функцыі аграрную і вайсковую. Ёсць падставы лічыць, што Ярыла ўяўляўся ці сынам, ці адной з іпастасяў Перуна. Богам сонца быў **Сотвар**, які ў розных мясцовасцях мог насіць і іншыя імёны. Багіняй дабрабыту і ўрадлівасці, апякункай сямейнага жыцця ў нашых продкаў была **Цёця**, якую



***Невельскі стод. паганскага бога. Двухаблічная выява***

ўяўлялі мажной высокай жанчынай з жытнім вянком на галаве, з хлебам і іншымі пладамі ўраджаю ў руках. Багіняй вясны, дзявочай прыгажосці і кахання была **Лёля** (Ляля), яе ўяўлялі ў выглядзе маладой прывабнай дзяўчыны. З культам Лёлі звязана распаўсюджаная на Палессі назва бусла — «лялека» (згодна з народным павер'ем, бусел прыносіць дзяцей). Богам агню і апекуном кавальства быў **Жыжаль**, богам зімы, марозу і холаду — **Зюзя**. Нязгасны святы агонь называўся **Зніч** (адсюль слова «знічка»). Ранішні і вечаровы заранкі ўвасаблялі адпаведна сёстры **Дзянніца** і **Вечарніца** (Вячорка). Са старажытнай міфалогіі вядомы таксама вобраз далёкага першапродка беларусаў — **Боя** (Бая) з вернымі сабакамі **Стаўры** і **Гаўры**.

# 4. Якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці?

Элементы дзяржаўнай арганізаванасці на Беларусі існавалі задоўга да яе пісьмовай гісторыі. З VI стагоддзя па Нараджэнні Хрыстовым на большую частку нашага краю пачынае пранікаць славянскае насельніцтва. Яго змешванне з мясцовымі балцкімі плямёнамі вяло да фармавання старабеларускага этнасу і своеасаблівай культуры, якую археолагі называюць Банцараўскай (паводле наймення гарадзішча каля вёскі Банцараўшчына пад Менскам). Ёсць шэраг сведчанняў, што нашы продкі ўжо тады мелі пэўныя формы дзяржаўнасці. Пазней, з VIII стагоддзя, з новай хваляй славянізацыі Беларусі, з фармаваннем крывіцкага, драгавіцкага і радзіміцкага плямёнавых саюзаў узнікаюць і дзяржавы. З X стагоддзя на Беларусі найбольш вядомыя — Полацкае, Смаленскае і Тураўскае княствы. Апошнія неўзабаве трапілі ў залежнасць ад Кіева. Полацкае ж княства было цалкам самастойнай старабеларускай дзяржавай, з усімі адпаведнымі атрыбутамі — суверэннай уладай князя і веча, адміністрацыяй, сталіцай, войскам, грашовай сістэмай і г. д. Княства праводзіла і сваю геапалітыку, якая палягала на супрацьстаянні агрэсіі Кіева і ўласнай экспансіі ў бок Балтыйскага мора. Падначаленне Полаччыне цэлага шэрагу прыбалтыйскіх плямёнаў надавала ёй адзнакі імперыі.

# 5. Хто такія Рагвалод і Рагнеда?

Рагвалод — першы беларускі князь, якога прыгадваюць старажытныя летапісы. Ён валадарыў у Полацку ў другой палове X стагоддзя. Пра яго летапіс кажа: «Рагвалод прыйшоў з-за мора», што дае пэўныя падставы лічыць князя выхадцам са Скандынавіі. Ужо пры Рагвалодзе Полацкае княства — моцная ўсходнееўрапейская дзяржава.

У Рагвалода была дачка Рагнеда, ганарлівая і прыгожая князёўна. Так сталася, што да яе адначасова пасваталіся гаспадары суседніх княстваў: Яраполк з Кіева і Уладзімір з Ноўгарада (пазней названы Хрысціцелем). Рагнеда выбрала Яраполка. Абражаны адмовай Уладзімір пайшоў на Полацк вайною. Горад быў спалены, а Рагвалод, ягоная жонка і два сыны забітыя. Рагнеду Уладзімір гвалтам узяў за жонку, даўшы ёй імя Гарыслава.

Праз некаторы час, жывучы пад Кіевам у сяльцы Прадславіне, Рагнеда спрабавала адпомсціць Уладзіміру: «За тое, што бацьку майго забіў, зямлю яго ў палон узяў, а цяпер не любіш ні мяне, ні дзетак нашых!» Але замах быў няўдалы. Раз’юшаны Уладзімір хацеў пакараць княгіню смерцю, але яму перашкодзіў малалетні сын Ізяслаў, які стаў у абарону маці з мечам.

За гэта Рагнеду з сынам выслалі ў Полацкую зямлю. Там для яе збудавалі горад, названы Ізяслаўль (цяпер Заслаўе пад Менскам) — ад імя сына Ізяслава. Менавіта гэты Ізяслаў, заняўшы дзедаў пасад, адрадзіў полацкую княскую дынастыю.

Акрамя Ізяслава Рагнеда нарадзіла Мсціслава (які пазней стаў князем чарнігаўскім), Яраслава Мудрага (князя ноўгарадскага і кіеўскага, заснавальніка роду Яраславічаў), Усевалада і дзвюх дачок — Перадславу (узяла шлюб з чэшскім князем Баляславам III Рудым) і Прэміславу (выйшла замуж за прынца вугорскага Ласла Сара Лысага). Дарэчы, унучкі Рагнеды таксама былі жонкамі еўрапейскіх манархаў: Анастасія — вугорскага караля Андрыя I, Лізавета — караля нарвежскага Гаральда III, а пасля караля дацкага Свена II. Наймалодшая Ганна, стала каралевай Францыі, выйшаўшы замуж за Генрыха I Капета.



***Рагвалод і Рагнеда. Мал. Яўгена Куліка***

У Заслаўі Рагнеда пастрыглася ў манашку пад імем Анастасіі і памерла там у манастыры ў 1000 годзе. Сёння для нас яе імя — сімвал мужнасці і любові да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару.

# 6. Калі прыйшло на Беларусь хрысціянства ?

Першыя хрысціянскія місіянеры з’явіліся на Беларусі, відаць, яшчэ ў IX стагоддзі. Іх станавілася тым больш, чым хутчэй прымалі веру Хрыстову суседнія еўрапейскія народы. Адным з такіх місіянераў быў ісландзец Торвальд Вандроўнік, які ў X стагоддзі прапаведаваў хрысціянскія ідэі ў Полацку і пазней быў пахаваны тут у заснаваным манастыры Іаана Прадцечы.

Хрысціянамі былі нашы славутыя валадары: княгіня Рагнеда (у манастве Анастасія), яе сын Ізяслаў і ўсе наступныя полацкія князі. Хрысціянства ішло на Беларусь як з Захаду (з Рыма), так і з Усходу (з Канстанцінопаля), хоць да сярэдзіны XI стагоддзя істотнай розніцы паміж гэтымі дзвюма плынямі не было.

Каля 992 года была заснаваная Полацкая епархія (у далейшым праваслаўная), на пачатку XI стагоддзя — тураўская (каталіцкая). Першы полацкі епіскап, пра якога згадвае летапіс, быў Міна (1104 год). Але, пэўна ж, былі святары і да яго, у тыя часы, калі полацкі князь Усяслаў Чарадзей збудаваў у нашай старажытнай сталіцы бажніцу Святой Сафіі (1055 год).

Хрысціянства на Беларусь прыйшло ў тым жа часе, як і ў многія іншыя краіны Еўропы (Данію, Швецыю, Нарвегію, Польшчу, Харватыю). Панавальнай жа рэлігіяй яно зрабілася толькі ў канцы XII-XII стагоддзі, бо сутыкнулася на Беларусі з моцнымі паганскімі (язычніцкімі) традыцыямі. Тысячагадовае суіснаванне ў нас паганства і хрысціянства сталася



***Праваслаўная бажніца XVI стагоддзя ў Сынкавічах***

# 7. Ці быў старажытнарускі народ?

Такога народа не было. Яго прыдумалі расейскія гісторыкі. Да тэрмінаў «древнерусскнй народ», «еднный русский народ» яны звярталіся кожнага разу, калі ўзнікала патрэба апраўдаць імперскую палітыку Масквы, што імкнулася ўсякімі шляхамі давесці сваё нібыта гістарычнае права на Беларусь і Украіну.

У мінулыя стагоддзі, апраўдваючы экспансію і панаванне над беларусамі і ўкраінцамі, яны заўзята прапагандавалі канцэпцыю існавання «трех племен единого русского народа — великорусов, малоросов и белорусов».

У савецкія часы, калі беларускі і ўкраінскі народы юрыдычна набылі сваю дзяржаўнасць, гэтая канцэпцыя была прыстасаваная да новых абставінаў. Яна трансфармавалася ў тэзіс пра існаванне «древнерусской народности как колыбель трех братских народов», якія неўзабаве мусілі, паводле камуністычнай дактрыны, зліцца ў «новую общность», што па сутнасці азначала асіміляцыю.

А што ж было ўзапраўды?

Калісьці, з VII—VI стагоддзяў да Нараджэння Хрыстова землі Усходняй Еўропы былі заселеныя рознымі народамі: на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі балты, Украіны — скіфа-сарматы, Расеі (ад Каспія па Волзе да Карэліі) — вугра-фіны.

У VI—VII стагоддзях па Нараджэнні Хрыстовым на гэтыя абшары са сваёй прарадзімы ў Вісла-Одэрскім міжрэччы і заходнім Беларускім Палессі прыйшлі славяне. Вынікам іх змешвання з мясцовым насельніцтвам сталася зараджэнне новых народаў — беларусаў, украінцаў, расейцаў. У залежнасці ад таго, з кім зліваліся славяне, фармаваліся і новыя мовы, традыцыі, менталітэт.

На этнічнай тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Невельшчына і Гарадзеншчына), дрыгавічы (цэнтральная Беларусь і паўночнае Палессе), радзімічы (Магілеўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына), валыняне (Берасцейшчына). Аб'яднаўшыся, крывічы і дрыгавічы ў X стагоддзі стварылі магутную дзяржаву — Полацкае княства, якое стала ядром беларускай нацыі.

Усведамленне старажытнымі беларусамі сваёй адметнасці фіксуецца летапісамі аж з X стагоддзя ў вядомай аповесці пра Рагнеду. А такая характэрная асаблівасць беларускай мовы, як «дзеканне», адзначаецца яшчэ на пачатку X стагоддзя арабскім пісьменнікам Аль-Масуд'і (Абун Хасан Ібн-Хусейн) у слове «эль **людзіна**», якое было саманазвай нашых прашчураў.

Першы вядомы помнік беларускага пісьменства налічвае ўжо болей за 1000 гадоў. Гэта надпіс «Гороушна» на глінянай пасудзіне, знойдзенай археолагамі пад Смаленскам. Таксама X стагоддзем датуецца надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды. Гэта найстаражытнейшыя помнікі пісьменства не толькі на Беларусі, але на ўсім абшары Усходняй Еўропы.

Тое, што некаторымі называецца «Древнерусское государство», строга кажучы, ніколі не існавала. Шматлікія спробы князя Уладзіміра ў канцы X стагоддзя зброяй аб'яднаць усе ўсходнеславянскія землі ўрэшце скончыліся няўдачай. Полацкая зямля ў зацятай барацьбе адстаяла сваю незалежнасць.

# 8. У якім часе Полацкае княства дасягнула найбольшае велічы?



*Полацак у часе Усяслава Чарадзея. Рэканструкцыя*

Часам найвышэйшага ўздыму Полацкага княства сталася XI стагоддзе, калі на чале дзяржавы быў князь Усяслаў Чарадзей (валадарыў з 1044 да 1101 года). Трывалы падмурак гэтага росквіту быў закладзены ягоным бацькам — Брачыславам, які перадаў у спадчыну сыну моцную дзяржаву, што здолела выстаяць у нялёгкім змаганні з Кіевам. Шмат высілкаў прыклаў Усяслаў, каб уладкаваць сваю Бацькаўшчыну. Імпэту князя дзівіліся сучаснікі і нашчадкі. У сваёй сталіцы — Полацку ён пабудаваў новы магутны замак, велічны Сафійскі сабор. У часе княжання Усяслава квітнелі рамёствы і гандаль.

Полацкае княства было марской дзяржавай: пад яго кантролем знаходзіліся землі ўздоўж усёй Дзвіны да Варажскага (Балтыйскага) мора. Тут паўсталі гарады Герсіка і Кукенойс (зараз на тэрыторыі Латвіі) — фарпосты Полацка на шляху да Балтыкі. Полацкая дзяржава была адным з вялікіх і магутных гаспадарстваў ранне-сярэднявечнай Еўропы побач з Польскім каралеўствам, Скандынаўскімі і Ноўгарадскім княствамі.

Усяслава як удалага і таленавітага ваяра паважалі і баяліся суседзі. У славутай рыцарскай песні «Слова пра паход Ігараў» пра яго сказана: «Усяслаў-князь людзям чыніў суды, радзіў князям гарады, а сам уначы ваўком рыскаў, з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя, Хорсу вялікаму шлях перацінаў». Нейкі час Усяслаў з волі простых людзей быў нават кіеўскім князем. Але неўзабаве пакінуў гэты пасад, каб вярнуцца ў Полацак.



*Пярсцёнак-сыгнет князя Усяслава*

Народ лічыў Чарадзея за ваўкалака-пярэваратня. Не толькі таму, што той дзіўным чынам мог схавацца ад ворага і нечакана напасці на яго (як, напрыклад, на Нямізе пад Менскам 3 сакавіка 1067 года), але і таму, што прыязна ставіўся да паганства-язычніцтва. Усяслаў будаваў хрысціянскія бажніцы, але не вынішчаў і паганскіх. Князь шукаў згоду ў веравызнаннях, а праз іх — адзінства народа і дзяржавы. Шматлікія ваенныя паходы Чарадзея на Ноўгарад, Пскоў, Смаленск і г. д. займаюць усяго 18 гадоў з яго амаль 72-гадовага жыцця. Ён прысвяціў сябе не разбурэнню, а стварэнню — умацаванню першай беларускай дзяржавы.

# 9. Хто такая Еўфрасіння Полацкая?

Еўфрасіння Полацкая — наша святая, якую здаўна шануюць як нябесную заступніцу беларускае зямлі. Вечную памяць і любоў народа яна заслужыла сваім ахвярным жыццём, прысвечаным асвеце нашых продкаў.

Яна прыйшла на свет на пачатку XII стагоддзя ў Полацку, у сям'і князя Святаслава-Георгія і даводзілася ўнучкай найславуцейшаму з полацкіх валадароў — Усяславу Чарадзею. Дзяўчынку назвалі старажытным полацкім імем Прадслава. Слава пра розум і прыгажосць полацкай князёўны разнеслася далёка па славянскіх землях. Калі Прадславе споўнілася дванаццаць гадоў (у такім веку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю), у Полацак зачасцілі сваты. Бацькі меркавалі выдаць князёўну замуж за сына нейкага слаўнага сваім багаццем і княжаннем уладара. Аднак Прадслава абрала сабе іншы шлях: вырашыўшы стаць Хрыстовай нявестаю, яна прыйшла ў манастыр і прыняла пострыг пад імем Еўфрасінні.

Спачатку маладая манашка пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Тут яна перапісвала і перакладала з іншых моваў кнігі і, як лічаць некаторыя гісторыкі, вяла Полацкі летапіс. Праз колькі гадоў духоўнага ўдасканалення яна заснавала ў Полацку жаночы, а затым і мужчынскі манастыры. Пры іх Еўфрасіння адчыніла скрыпторыі — майстэрні па перапісванні кніг, а таксама школы, у якіх дзеці авалодвалі граматай, вывучалі гісторыю, грэцкую і лацінскую мовы, спасцігалі навуку красамоўства.

Асветніца збірала вакол сябе таленавітых людзей, і таму яе можна назваць нашай першай мецэнаткаю. На яе заказ полацкі дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, а ювелір Богша (хрысціянскае імя Лазар) стварыў крыж — бясцэнную святыню беларусаў.



*Пячатка Еўфрасінні Полацкай з яе выяваю*



*Еўфрасіння Полацкая. Гравюра XIX стагоддзя са старажытнага абраза*

Унучка Усяслава Чарадзея ўздымала свой голас супраць княжацкіх міжусобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі. Прыклад асветніцы натхняў яе землякоў і наступнікаў Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Сымона Полацкага...

Мошчы святой Еўфрасінні спачываюць у Спасаўскай царкве полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі святкуецца 23 траўня (5 чэрвеня паводле новага стылю).

# 10. Хто такі Кірыла Тураўскі?

Кірыла Тураўскі нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Тураве — адным з найбуйнейшых культурных цэнтраў старажытнай Беларусі — у заможнай сям'і. Дасягнуўшы паўналецця, аддаліўся ў адзін з тураўскіх манастыроў, відаць святога Міколы, і неўзабаве стаў яго парафіяльным святаром. Здольны да кніжнай справы, ён гэтым часам пачаў пісаць малітвы (цыкл на ўсю сядміцу) і творы пра манаства («Слова ўказанне, адкуль жыццё ў людзях бязжэннае», «Аб чыне чарнарызца»). Калі ў 1148 годзе кіеўскім мітрапалітам стаў Клім Смаляціч — ідэйны апанент Кірылы і прыхільнік самастойнасці Кіеўскай мітраполіі, Кірыла вымушаны быў пакінуць манастыр; у гэты час ён замыкаецца ў манастырскай вежы — «стаўпе», робячы подзвіг стаўпніцтва.

Пасля таго як Клім склаў абавязкі мітрапаліта, тураўскія месцічы і князь Юрый запрашаюць Кірылу

на епіскапскую кафедру. У гэты перыяд Кірыла напісаў шэраг пропаведзяў на святы Велікоднага і Пяцідзесятнага цыклаў, а таксама іншыя казанні на хрысціянска-этычныя тэмы, асуджаючы язычніцтва. У канцы 60-х гадоў Кірыла выступіў супраць «смуты» суздальскага ігумена, «ератыка» (арыяніна) Фядорца. Магчыма, да гэтага часу належыць ягоная прыпавесць «Пра душу і цела», а таксама «Слова на Сабор 318 святых айцоў».

На схіле веку Кірыла пакінуў епіскапскую кафедру і пайшоў у Барыса-глебскі манастыр, дзе працягваў літаратурную дзейнасць. Там ён напісаў пасланні да кіева-пячорскага ігумена Васіля. Памёр ён пасля 1184 года.

Хаця пра Тураўскага Залатаслова (як называлі яго сучаснікі) нам вядома няшмат, затое да нас дайшла амаль неверагодная для аўтара XII стагоддзя колькасць ягоных твораў — пропаведзяў, прыпавесцяў, малітваў, павучанняў, канонаў. Яны адлюстроўваюць натуральнае



***Абраз Кірылы Тураўскага***

# 11. Хто такі Клім Смаляціч?

Клім Смаляціч нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Смаленску. У нашую гісторыю ён увайшоў як выдатны пісьменнік, філосаф і царкоўны дзеяч. Ёсць звесткі, што адукацыю Клім атрымаў у Канстанцінопалі. Пэўны час быў манахам Зарубскага манастыра, што пад Кіевам. У 1148 годзе пры падтрымцы князя Ізяслава заняў пасаду мітрапаліта (да 1155 года). Ён падтрымліваў ідэю моцнай Кіеўскай мітраполіі, незалежнай ад канстанцінопальскага патрыярха.

Са спадчыны Кліма да нашага часу дайшоў, на жаль, толькі адзін твор — «Пасланне прасвітару Хаме», які вызначаецца жывым, эмацыянальным выкладаннем думак, насычаны прыпавесцямі, адметнымі каментарамі Бібліі.

Клім быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Ён выдатна ведаў антычную культуру, творы Гамера, Арыстоцеля, Платона, меў глыбокія веды ў багаслоўскай грэцкай і рымскай літаратуры. Летапісец назваў яго кніжнікам і філосафам, якіх не было дагэтуль у нашай зямлі.

Таленавіты пісьменнік і педагог, Клім стаў заснавальнікам цэлай літаратурнай школы. Сярод яго вучняў і паслядоўнікаў — выдатны красамоўца і мастак Аўрам Смаленскі, аўтар шматлікіх духоўных словаў і павучэнняў.

# 12. Ці была на Беларусі мангола-татарская няволя?

Пасля ўтварэння на пачатку XIII стагоддзя Мангольскай дзяржавы ў выніку захопніцкай палітыкі Чынгісхана і ягоных нашчадкаў былі паняволеныя народы Сібіры, Паўночнага Кітая, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Малой Азіі, Блізкага Усходу.

У 1236—1243 гадах былі заваяваныя велізарныя абшары Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку рускія і ўкраінскія княствы, спустошаныя землі Малой Польшчы, Венгрыі, Маравіі, Славакіі, Чэхіі, Букавіны, Малдовы, Румыніі... Мангольскія ханы стварылі адну з найвялікшых імперыяў свету, яны арганізоўвалі ваенныя экспедыцыі ў Егіпет, Паўднёва-Усходнюю Азію, Японію, на востраў Яву...

Беларусь не была паняволеная мангола-татарамі. Захаваліся паданні пра пераможныя бітвы нашых продкаў з імі пад Койданавам у 1 249 годзе,

каля Магільны, над Акунёўкаю, але гэта хутчэй за ўсё легендарныя звесткі, якія трапілі на старонкі летапісаў значна пазней, у XVI стагоддзі. Беларусы змагаліся з татара-мангольскімі набегамі ў 1259, 1275, 1277 гадах. Аднак гэта былі менавіта наезды, уварванні. Беларусь ніколі не падпарадкоўвалася Залатой Ардзе, ніколі не ведала азіяцкай няволі. Тэрміны «мангола-татарскае нашэсце», «мангола-татарскае іга», «дамангольскі перыяд» і г. д. у дачыненні да беларускай гісторыі надуманыя. Тут у адрозненне, скажам, ад рускіх земляў, якія 240 гадоў уваходзілі ў склад Залатой Арды, натуральны працэс гістарычнага развіцця не парушаўся, дзякуючы чаму, напрыклад, яшчэ стагоддзямі жыло веча — інстытут сярэднявечнай дэмакратыі, тым часам як у Маскоўскай дзяржаве ўсталявалася азіяцкая дэспатыя.

У беларускай гісторыі ёсць слаўная старонка, якая да апошняга часу замоўчвалася. Задоўга да хрэстаматыйна вядомай Кулікоўскай бітвы, яшчэ ў 1362 годзе, войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Альгерда — разбіла каля Сініх Водаў войскі трох татарскіх ханаў. У выніку ўкраінскія землі былі вызваленыя ад мангола-татарскай няволі.



***Зброя беларускіх ваяроў XII - ХШ стагоддзяў. Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка***

# 13. Як адбіваліся нашыя продкі ад крыжацкае навалы?

XIII стагоддзе сталася часам сур'ёзных выпрабаванняў для многіх еўрапейскіх народаў і дзяржаў. На славянскія землі з поўдня абрынуліся незлічоныя орды стэпавікоў, а з захаду распачалі экспансію крыжакі.

Гэта былі рыцары з усёй Заходняй Еўропы, якія пасля няўдалых паходаў у Палесціну (з мэтай «вызвалення Божай Дамавіны») імкнуліся захапіць новыя землі. Адным з першых прыняло на сябе іх удар балцкае племя прусаў. І было вынішчана, а рэшта — анямечана. Імкнучыся адсхекчы Полацкае княства ад мора, у 1201 годзе крыжакі ля вусця Дзвіны заснавалі горад Рыгу (дарэчы, паводле В. Ластоўскага, «рыга», або «рыгво», на старабеларускай мове азначае «вусце ракі»). З таго часу пачаўся іх ціск на Полацкую зямлю і іншыя старажытнабеларускія землі. У 1208 годзе яны захапілі полацкі горад Кукенойс — уладанне князя Вячкі, у 1209 — Герсіку, падыходзілі пад сцены Полацка. У адказ полацкі князь Уладзімір знішчаў іхныя ўмацаванні пад Рыгаю і Гольмам. Разам з наўгародцамі палачане білі крыжакоў на Няве ў 1240 годзе, а затым на Чудскім возеры ў 1242 годзе.

Гэтаксама і валадары новай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — ад Міндоўга да Вітаўта мусілі змагацца з крыжакамі. Ледзь не штогод на працягу амаль трох стагоддзяў сутыкаліся ў бітвах беларускія і крыжацкія войскі. Напрыклад, толькі ў часы княжання Альгерда (1341 — 1377) налічваецца блізу сотні набегаў крыжакоў на Беларусь і трыццаці паходаў беларускага войска ў адказ. У некаторых паходах нашае войска налічвала да 30 тыс. вояў.

Асаблівай мужнасцю і ваярскім майстэрствам вылучаўся князь Давыд Гарадзенскі. Шмат гадоў ён паспяхова адбіваў напады і наводзіў жах на крыжакоў і іх памагатых. У 1314 годзе, калі немцы напалі на Навагародак, Давыд з невялікім войскам падпільнаваў іх і ледзь не палову перабіў, захапіўшы паўтары тысячы коней і нарабаванае дабро. Прайшоўшы крыжацкім шляхам ад Навагародка ў адваротным накірунку, гарадзенскі князь знішчыў усе варожыя базы. Тым самым адступленне недабітых рабаўнікоў ператварылася ў панічныя ўцёкі. У 1319 годзе Давыд Гарадзенскі з 800 вершнікамі ўварваўся ў Прусію, захапіў некалькі славутых рыцараў-камтураў разам з іх майном. Неаднойчы ён хадзіў на дапамогу Пскову. У 1322 годзе разам з пскавічамі Давыд разбіў вялікае нямецкае войска. Было знішчана пяць тысяч крыжакоў. Пад час далёкіх паходаў Давыд Гарадзенскі вёў з сабою параўнальна невялікія аддзелы. Так, у паходзе на

Брандэнбург у 1326 годзе ўдзельнічалі 1200 чалавек. Гарадзенцы дайшлі да Франкфурта-на-Одэры. Не могучы перамагчы князя на пабаявішчы, крыжакі нанялі польскага воя Анджэя, які па-здрадніцку забіў Давыда Гарадзенскага нажом у спіну.

У 1410 годзе аб’яднанае войска Вялікага Княства і Польскага Каралеўства дало рашучы бой крыжакам пад Грунвальдам. Гэта была найвялікшая бітва ў тагачаснай Еўропе, дзе сустрэлася блізу 80 тысяч чалавек. Ордэн быў разбіты ўшчэнт. Загінуў і крыжацкі магістр, камтуры, увесь цвет рыцарскага войска. Хоць пэўны час ордэн яшчэ існаваў, толькі аднавіць былую моц крыжакі ўжо не здолелі. З гэтага часу знікла пагроза з іх боку для земляў усяе Усходняй Еўропы.



***Беларускі цяжкаўзброены вер’шнік XIII стагоддзя. Малюнак-рэканструкцыя Уладзіміра Лукашыка***

# 14. Ці праўда, што літоўцы заваёўвалі Беларусь?

Міф пра літоўскую заваёву Беларусі мае даўнюю гісторыю, сягаючы ажно ў XVI стагоддзе. Паводле яго, у сярэдзіне XIII стагоддзя літоўскія князі Эрдзівіл і Мінгайла, пакарыстаўшыся тым, што беларускія землі спустошаныя мангола-татарскім нашэсцем, заваявалі іх. І хоць пазней гістарычная навука высветліла, што не існавала ніякіх ні Эрдзівіла, ні Мінгайлы, як не было і мангола-татарскага нашэсця на Беларусь, але міф пра заваёву літоўцамі нашых земляў застаўся. Некрытычна ўспрыняты шмат якімі даследчыкамі, ён такім чынам замацаваўся ў навуковай літаратуры. Замест Эрдзівіла і Мінгайлы былі знойдзеныя іншыя кандыдаты на ролю заваёўнікаў, у прыватнасці Міндоўг, які і да сённяшняга дня фігуруе ў гэтай ролі.

Найперш трэба ўразумець, што ў значнай ступені гэта адбываецца ад тэрміналагічнай блытаніны ў выніку атаясамлівання старажытнага племя (ці, магчыма, як лічаць некаторыя даследчыкі, саслоўя) **літва** з сучаснай Літвою (Летувою). Узапраўды продкамі сучасных літоўцаў (летувісаў) былі жамойць і аўкштота, якіх даўней беларусы звычайна называлі адным найменнем — жамойты (па назве больш моцнага племя).

Старажытная ж літва жыла на тэрыторыі Беларусі, у раёне верхняга Панямоння: паміж Менскам і Навагародкам з усходу на захад і ад Маладзечна да Слоніма з поўначы на поўдзень. Яна засяляла параўнальна невялікую гістарычную вобласць Беларусі побач з Полацкай, Тураўскай і Навагародскай землямі, заціснутая паміж імі. Такое геаграфічнае становішча летапіснай літвы і вызначыла яе далейшы лёс.




***Месцазнаходжанне летапіснай Літвы:***

1. ***— прыблізныя межы расселення племя,***
2. ***— населеныя пункты з назваю “Літва”***

Паколькі Навагародскае княства к сярэдзіне XIII стагоддзя дасягнула высокага эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця, то яно і ўзяло ў свае рукі справу аб'яднання беларускіх земляў. Аднак на шляху да гэтага была літва, таму заваёва яе і з'явілася першым крокам у ажыццяўленні навагародскай аб'яднаўчай палітыкі. Гэта было зроблена з дапамогаю Міндоўга, які з'явіўся ў Навагародку выгнаны супернікамі са сваіх уладанняў, гэтак званай «літвы Міндоўга» (яна знаходзілася ў раёне сучасных Баранавічаў). Прыязна прыняты ў Навагародку, ён быў ахрышчаны ў 1246 годзе ў праваслаўе і абраны князем. Такім чынам навагародская знаць скарыстала пакрыўджанага сваімі суродзічамі Міндоўга ў якасці наёмніка. Як адзначыў Іпацеўскі летапіс, Міндоўг неўзабаве «зане літву», г. зн. заваяваў яе, што адпавядала стратэгічным мэтам Навагародка.

Аднак у выніку агрэсіі галіцка-валынскіх князёў Навагародку на гэты раз не ўдалося ўтрымаць літву. Яе канчаткова заваяваў у 1263-1264 гадах сын Міндоўга Войшалк сіламі навагародскага і пінскага войска, што і з'явілася адным з першых крокаў на шляху ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага.

Толькі ўлічваючы ўсё адзначанае, і можна вытлумачыць, чаму Навагародак стаўся першай сталіцай Вялікага Княства. Адсюль, з верхняга Панямоння, дзе знаходзілася старажытная Літва, і пайшла назва новай дзяржавы.

Тое, што ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага суправаджалася заваёваю балцкіх плямёнаў (літвы, нальшчанаў, дзяволтвы, а пазней і жамойці), знішчэннем і выгнаннем іх феадалаў, адхіляе пашыранае сцвярджэнне, што ўзнікненне гэтае дзяржавы дыктавалася іх інтарэсамі. Як бачна, якраз наадварот, — яно было ў інтарэсах беларускіх феадалаў, што і характарызуе гэтую дзяржаву як **беларускую**. Нездарма ж далейшае збліжэнне беларускіх земляў у працэсе станаўлення Вялікага Княства ішло мірным шляхам. Адсюль зразумела, чаму ў Вялікім Княстве Літоўскім панавальнае месца заняла беларуская культура, а дзяржаўнай мовай стала беларуская.

Такім чынам, ніякай літоўскай заваёвы Беларусі не было: наадварот, нашы продкі падпарадкавалі старажытную літву, заклаўшы гэтым самым падмурак сваёй новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

# 15. Хто такі Гедзімін?

Гедзімін быў сынам вялікага князя Віценя і ўзышоў на вялікакняскі пасад у 1316 годзе пасля смерці бацькі. Пачатак яго княжання быў азначаны перамогай над крыжакамі пад Жэймамі. Каб супрацьстаяць Ордэну, вялікі князь узводзіць шэраг замкаў на паўночным захадзе Беларусі (у Троках, Вільні, Медніках, Навагародку, Лідзе, Мядзелі). Ён жа пераносіць сталіцу Вялікага Княства з Навагародка ў Вільню — старадаўні цэнтр крывіцкай каланізацыі, які напачатку меў назву Крывіч-горад — і будуе там замак. У 1320 годзе каля Меднікаў Гедзімін на чале беларускага войска зноў разбіў крыжакоў. Але дасягнуць перамогі над Ордэнам, спадзеючыся толькі на зброю, было немагчыма, таму ён актыўна падтрымліваў варожых крыжакам Рыгу, Пскоў і Польшчу.

Шукаў Гедзімін і міжнароднага прызнання Вялікага Княства і з гэтай мэтаю паслаў грамату да папы рымскага Яна XXII, у якой паведамляў, што жадае прыняць хрысціянства паводле заходняга абраду, а таксама ахрысціць паганцаў у сваёй дзяржаве. Але планы Гедзіміна не знайшлі падтрымкі ні сярод праваслаўных, ні сярод прыхільнікаў паганства ў Вялікім Княстве. Акрамя таго, яны не адпавядалі і палітычным інтарэсам Ордэна крыжакоў, бо касавалі



***Вялікі князь Гедзімін. Гравюра XVI стагоддзя***



Пячатка Гедзіміна

«падставу» іхнай экспансіі на ўсход. І вялікі князь мусіў адмовіцца ад сваёй задумы.

Следам за сваімі папярэднікамі Гедзімін працягваў палітыку аб'яднання беларускіх земляў, умацавання нашага гаспадарства. У часы яго валадарання ў склад княства ўвайшлі Менская, Віцебская, Турава-Пінская землі. Палітычная мудрасць Гедзіміна выявілася ў тым, што новым землям ён гарантаваў захаванне традыцыйных законаў — «старыны не рушыць, навіны не ўводзіць».

Загінуў Гедзімін падчас штурму нямецкага замка Баербург у 1 341 годзе.

# 16. Калі распачалося суперніцтва паміж Вільняй і Масквою?

Геапалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы вызначыла характар іх узаемадачыненняў. Да першых канфліктаў паміж Вільняй і Масквою дайшло ў гады княжання Гедзіміна. Вялікае Княства прэтэндавала на лідэрства ва Усходняй Еўропе, на ролю збіральніка ўсходне-славянскіх земляў. Альгерд, падтрымліваючы Цвер, ажыццявіў тры паходы на Маскоўшчыну, даходзіў да самай Масквы; пад пратэктаратам Вітаўта знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

Ужо пасля таго як усе беларускія землі аб'ядналіся ў Вялікім Княстве Літоўскім, Маскоўская дзяржава, выбіўшыся пры падтрымцы залатаардынскіх ханаў у лік першых сярод княстваў Уладзіміра-Суздальскай Русі, пачала актыўна павялічваць свае землі за кошт іншых. Падбіваючы суседнія княствы, пад канецХУ стагоддзя яна ўсутыч падышла да ўсходніх межаў Вялікага Княства. І калі маскоўскі князь Іван III (1462-1505) назваўся «государем всея Руси», ён адкрыта выступіў з тэрытарыяльнымі дамаганнямі да Вільні: абвясціў сваёй вотчынай Полацак, Віцебск, Смаленск ды іншыя беларускія гарады. У 1492 годзе Маскоўская дзяржава парушыла «вечны мір» з Вялікім Княствам і развязала супраць яго вайну. Палітычная праграма так званага «ўз'яднання» спатрэбілася Маскве для апраўдання анексіі беларускіх і ўкраінскіх земляў.

З гэтага часу вызначальным фактарам гістарычных падзей ва Усходняй Еўропе было смяротнае проціборства Масквы і Вільні. Захопніцкія войны маскоўскіх уладароў сталі амаль бесперапыннымі: яны вялісяў 1492—1494, 1500—1503, 1507— 1508, 1512—1522 гадах і г. д. Вільня мусіла тады ўсе намаганні скіроўваць на абарону сваіх межаў. Лінія проціборства паміж Масквой і Вільняй з'яўлялася фактычна лініяй процістаяння розных палітычных сістэм, розных культурных цывілзацый, розных светаў — дэмакратычнага еўрапейскага і дэспатычнага ўсходняга.

# 17. Калі распачалося суперніцтва паміж Вільняй і Масквою?

Дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім была беларуская мова, бо беларускі этнічны элемент панаваў у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Княства, а нашыя землі складалі аснову яго магутнасці. Галоўнае сведчанне дзяржаўнасці беларускае мовы — абслугоўванне ёю патрэбаў дзяржаўнага кіравання. Наша мова мепа для гэтага ўсе неабходныя якасці, найперш пісьмова-літаратурную форму, досыць апрацаваную. Найбольшай дасканаласці яна дасягнула перадусім у сферы справавой пісьменнасці, самай пашыранай, якая якраз і ўжывалася ў дзяржаўным жыцці. На беларускай мове ўбачылі свет усе зводы законаў нашай старажытнай дзяржавы: Вісліцкі статут

***Фрагмент артыкула Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, у якім юрыдычна пацверджана дзяржаўнасць беларускай мовы ін. Гравюра XVI стагоддзя***

1423—1438 гадоў, Судзебнік Казіміра Ягайлавіча 1468 года, Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, Трыбунал 1586 года, а таксама вялікая колькасць дакументаў метрыкі Вялікага Княства — архіва, які налічвае не адну сотню тамоў.

Мова нашых продкаў выконвала дзяржаўную функцыю на ўсёй тэрыторыі гаспадарства, была сродкам зносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў, што жылі тут. Ужыванне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага справаводства было замацаванае заканадаўча: у Статуце Вялікага Княства пра гэта быў спецыяльны артыкул (раздзел 4, артыкул 1).

Праўда, пачынаючы з XVII стагоддзя (з прычыны ўзмацнення польскай экспансіі і пераймання чужой мовы шляхтай у сітуацыі двухмоўя) наша мова пакрысе пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку. Урэшце пастановай Сойму 1696 года статус дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Княства быў замацаваны за польскай мовай.

# 18. Хто такі Альгерд?

Альгерд, сын Гедзіміна, у юнацтве ажаніўся з дачкою віцебскага князя Марыяй Яраслаўнай і два гады пражыў у горадзе Усвяты, а пасля, да 1345 года, у Віцебску. З дапамогаю брата Кейстута, троцкага князя, Альгерд скінуў з велікакняскага пасада Яўнута і сам стаў вялікім князем.

У часе ягонага валадарання да Вялікага Княства Літоўскага былі далучаныя Амсціслаўская, Чарнігаўская, Кіеўская, Падольская, Ноўгарад-Северская, Бранская землі. На гэтыя часы прыпадае і пік крыжацкіх паходаў на Беларускую дзяржаву. З дапамогай Альгерда ў 1 342 годзе Пскоў адбіў крыжацкі набег. Акрамя таго, яшчэ двойчы, у 1348 і 1370 гадах, Альгерд разбіваў крыжакоў на рэках Строве і Рудаве. Адначасова ён паспяхова змагаецца з Польшчай і Уладзімірскім княствам. Беларускія вoi пад Альгердавым кіраўніцтвам даходзілі да Масквы. Яны тройчы разбівалі маскоўскае войска — у 1368, 1370 і 1372 гадах.



*Вялікі князь Альгерд. Гравюра XVI стагоддзя*

Пад час аднаго з паходаў, узяўшы з маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча (пазней названага Данскім) вялікі выкуп — як сведчыць летапіс, «дары многія, незлічона золата, серабра, жэмчугу, сабалёў», сказаў векапомныя словы: «Хоць я з табой і паміры́уся, але хачу яшчэ тую славу сабе ўчыніць, што вялікі князь Альгерд дзіду сваю пад Масквою прыкланіў». І, сеўшы на каня, пад'ехаў да гарадской сцяны і прыставіў да яе дзіду, сімвалізуючы тым поўную перамогу.

Але найбольшага поспеху Альгерд дамогся ў вайне з татарамі. У бітве каля ракі Сінія Воды ў 1362 годзе беларускае войска разбіла орды падольскіх, крымскіх і дунайскіх татараў і вызваліла з-пад іх улады ўкраінскія землі.

Летапісы адзначалі, што гэты князь «не так сілаю, як розумам ваяваў». Вайсковыя і палітычныя заслугі Альгерда прызнавалі і крыжакі, і маскоўцы, і палякі, і татары. Жыццёвы шлях яго скончыўся ў 1377 годзе.

# 19. Хто такія тры віленскія пакутнікі?

У Вільні сярод Базыліянскіх муроў стаіць славутая Свята-Траецкая царква. Яна пабудаваная на тым месцы, дзе калісьці ў старажытнасці была дуброва і дзе ў сярэдзіне XIV стагоддзя (у 1347 годзе) загінулі пакутніцкай смерцю за веру Хрыстову беларусы з дворскай дружыны князя Альгерда легендарныя святыя **Антоній**, **Іаан**, **Яўстахій** (паганскія імёны, якія яны мелі да хрышчэння,— **Круглец, Няжыла і Кумец**). У нішах франтону царквы — іх фрэскі-партрэты з выразам высокай духоўнай вартасці гэтых самаахвярных людзей.



*Рака з мошчамі трох віленскіх пакутнікаў у пячорнай царкве Свята-Духава манастыра ў Вільні. Гравюра XIX стагоддзя*

У 1374 годзе часткі мошчаў віленскіх пакутнікаў былі перанесеныя ў вялікі кафедральны сабор Святой Сафіі ў Канстанцінопалі, дзе яны вельмі шанаваліся. Пазней пільнай увагай да віленскіх пакутнікаў Канстанцінопаль падкрэсліваў незалежнасць нашага праваслаўя ад маскоўскага. Насуперак намаганням дзяржаўна-царкоўных уладаў Маскоўшчыны Візантыя тым самым давала зразумець, што само паняцце праваслаўнай веры значна шырэйшае і больш універсальнае, чым інтарэсы царквы маскоўскай.

Шанаванне памяці трох віленскіх пакутнікаў дазваляе сённяшнім беларусам не забываць пра час і месца росквіту нашай дзяржаўнасці — старажытную Вільню, дзе дагэтуль у скляпеннях Свята-Духава манастыра захоўваюцца мошчы святых.

# 20. Што такое Крэўская вунія?



***Вялікі князь Ягайла***

Крэўская вунія — гэта пагадненне паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам, ажыццёўленае ў 1385 годзе. Паводле ўмоваў Крэўскай вуніі, выгадных і для Беларускага гаспадарства, Польшча ўступала з ім у хаўрус, а яе гаспадаром абвяшчаўся наш вялікі князь.

Пайсці на гэта палякаў прымусілі цяжкія абставіны. Найперш — экспансія з боку немцаў, якія няспынна каланізавалі польскія тэрыторыі. Да сярэдзіны XIV стагоддзя Польшча не толькі страціла Сілезію, Паморʼе ды іншыя землі, была адрэзаная ад мора, але і стаяла перад небяспекай поўнага анямечання. Дый з боку моцнага Беларускага гаспадарства над Польшчай заўсёды вісела пагроза, пацвярджэнне чаму — пераможныя ваенныя паходы Альгерда ў 1 376 годзе і Ягайлы (Якава) у 1383—1384 гадах.

Каб не страціць сваёй дзяржаўнасці і не загінуць цалкам, палякі і вымушаны былі пайсці на хаўрус з Вялікім Княствам. 14 жніўня 1385 года паслы з Польшчы прыехалі ў Крэва (цяпер мястэчка ў Смаргонскім раёне) — рэзідэнцыю нашага вялікага князя і папрасілі яго стаць іхным гаспадаром. Ягайла пагадзіўся. Ён ажаніўся з Ядзвігай і пераехаў у Польшчу, прызначыўшы сваім намеснікам у Вялікім Княстве Скіргайлу (Івана).

Варта зазначыць, што пазней, у XV — XVII стагоддзях, на падставе сфабрыкаванага палякамі дакумента, што выстаўляўся імі як арыгінал Крэўскага пагаднення, у гістарычнай літаратуры (напачатку, вядома, польскай) запанавала процілеглая думка — пра нібыта ўваходжанне Вялікага Княства ў склад Польшчы.

Сфальсіфікаваны тэкст абавязацельства Ягайлы нагадвае акт безагаворачнай капітуляцыі. Недарэчнасць яго відавочная: за гонар ажаніцца з Ядзвігай і насіць тытул караля Польшчы Ягайла нібыта абяцаў аддаць на патрэбы палякаў дзяржаўны скарб Вялікага Княства, заплаціць 200 тысяч флорынаў Вільгельму Аўстрыйскаму за адмову ад шлюбу з Ядзвігай (гэта сума, за якую тады можна было купіць цэлую дзяржаву!) і ўвогуле ліквідаваць Вялікае Княства, далучыўшы яго да Польшчы, і г. д.

Меркаванне пра тое, што вядомы акт Крэўскага пагаднення сфальсіфікаваны, пацвярджаецца далейшым ходам гісторыі. Так, у прывілеі Ягайлы, выдадзеным у 1387 годзе, гаворыцца пра поўную дзяржаўна-палітычную незалежнасць Беларускага гаспадарства. Дый у Востраўскім пагадненні 1392 года і Віленска-Радамскім акце 1401 года, падпісаных неўзабаве пасля Крэўскай вуніі, нічога не сказана пра інкарпарацыю Княства ў склад Польшчы.

Пазней, пад час Люблінскага Сойму 1569 года, нашы паслы шматразова ўказвалі на падробленасць вядомага акта Крэўскага пагаднення, які палякі скарыстоўвалі ў якасці «гістарычнага аргумента» для абгрунтавання сваіх захопніцкіх дамаганняў у пазнейшыя часы.



***Пячатка Ягайлы***

# 21. Дзе падзелася каралеўская карона Вітаўта Вялікага?



***Вялікі князь Вітаўт. Партрэт са старых збораў Нясвіжскага замка***

Менавіта пры вялікім князі Вітаўце (1350—1430) Беларускае гаспадарства стала найбуйнейшай еўрапейскай дзяржавай. Але цяжкі і напружаны быў шлях гарадзенскага князя да вялікага пасаду, славы і велічы. Доўгі час змагаўся ён са сваім стрыечным братам Ягайлам, Альгердавым сынам, які ў 1 382 годзе забіў ягонага бацьку Кейстута. Трапіўшы да Ягайлы ў палон, Вітаўт здолеў уцячы з Крэўскага замка. Хаўруснікам у барацьбе з Ягайлам, які ў 1 38.6 годзе быў абраны польскім каралём, Вітаўт выбраў Ордэн крыжакоў. Урэшце пасля шэрагу палітычных манеўраў ён дамогся свайго і Ягайла мусіў саступіць Вітаўту вялікі пасад з умовай васалітэту.

Як вялікі князь Вітаўт праводзіў самас- тойную палітыку і выношваў задуму стаць каралём. Трагічнае паражэнне ад татараў на Ворскле ў 1399 годзе вымусіла яго, аднак, падпісаць Віленска-Радамскую вунію з Польшчай. Праўда, дзякуючы гэтаму хаўрусу, аб'яднаныя войскі Беларусі і Польшчы пазней, у 1410 годзе, выйгралі вайну з крыжакамі. Пасля гэтай перамогі да Вялікага Княства адышла Жамойць. Найважнейшае значэнне для кансалідацыі беларусаў мела і канчатковае далучэнне ў 1405 годзе Смаленскага княства, ажыццёўленае якраз Вітаўтам.

Пра веліч асобы Вітаўта асабліва сведчаць ягоныя геапалітычныя інтарэсы. У часе яго княжання Беларускае гаспадарства мела трывалыя дыпламатычныя дачыненні літаральна з усімі заходне-еўрапейскімі краінамі, а таксама з Асманскай Турцыяй, Крымскім ханствам і Маскоўшчынай.

Пра многае гаворыць і той факт, што недзе пасля 1410 года наймагутнейшы імператар Святой Рымскай імперыі Жыгімонт і сам папа рымскі Марцін V, шукаючы Вітаўтавай падтрымкі ў змаганні з гусіцкай Чэхіяй, прапанавалі яму каралеўскую карону.

Канчатковае рашэнне каранавацца Вітаўт прыняў на Луцкім з'ездзе 1429 года, куды, дарэчы, на яго запрашэнне прыехаў той жа імператар з жонкаю, кароль Польшчы Ягайла, прадстаўнікі папскага пасада і візантыйскага імператара ды пасольствы іншых дзяржаваў.

Згода Вітаўта прыняць карону з рук імператара сведчыла не толькі пра аўтарытэт нашае дзяржавы і вялікага князя ў Еўропе, але і пра завязванне новага вайскова-палітычнага хаўрусу Вялікага Княства Літоўскага са Святой Рымскай імперыяй. Гэта, натуральна, вельмі напалохала ворагаў Беларусі, найперш польскіх магнатаў, якія як агню баяліся далейшага ўмацавання нашае дзяржавы.

У канцы верасня 1430 года на каранацыю нашага гаспадара ў сталіцу Вялікага Княства з'ехаліся шматлікія госці: вялікі князь маскоўскі, князь мазавецкі, перакопскі хан, валахскі гаспадар, паслы візантыйскага імператара, мітрапаліт Фоцій, магістры прускі і лівонскі ды многія іншыя. Усе цярпліва чакалі, пакуль састарэлы Вітаўт паправіцца ад хваробы і ўстане з ложка. Але лёс распарадзіўся інакш: 27 кастрычніка ён памёр у Троках.

Што ж да кароны, якую везлі з Нямеччыны ў Вільню, то ёсць версія, нібыта палякі, дачуўшыся пра цяжкую хваробу Вітаўта, асмялелі і перахапілі яе па дарозе, абабраўшы пры гэтым да ніткі і імператарскіх паслоў.



***Пячатка Вітаўта Вялікага***

# 22. Адкуль з'явіліся ў нас татары?

Татары пасяліліся ка Беларусі ў канцы XIУ стагоддзя. Гэта былі прыхільнікі хана Тахтамыша, якія мусілі шукаць тут прытулку, уцякаючы з Залатой Арды пасля паражэння ў міжусобнай барацьбе. Дальнабачны палітык, вялікі князь Вітаўт зычліва прыняў іх, узяўшы на вайсковую службу, і выдзеліў землі для вядзення гаспадаркі на Віленшчыне і Меншчыне. Татары пабудавалі хаты, узвялі мячэці. Яны вельмі цанілі Вітаўта за добрае стаўленне да ісламу, называлі яго сваім ханам, спадаром, апірышчам мусульманаў на Захадзе. Беларускія татары на чале з Джалал эд-Дзінам прынялі чынны ўдзел у Грунвальдскай бітве, спрычыніліся да перамогі над крыжакамі.

Колькасць татараў у нашай дзяржаве павялічвалася ў выніку натуральнага прыросту, эміграцыі з Паволжа і Крыма, а таксама за кошт тых крымскіх татараў, якіх бралі ў палон пад час іх набегаў на Беларусь у XV і XVI стагоддзях. Так, у 1506 годзе, калі татарскае войска было разгромленае пад Клецкам, частку палонных пасялілі ў Менску.

Татары, што жылі ў гарадах і мястэчках, займаліся рамёствамі (найбольш гарбарствам, рымарствам, кушнерствам), агародніцтвам, рамізніцтвам, а пазней пракладкай чыгунак.

Ужо на пачатку XVI стагоддзя татары перайшлі на беларускую мову, толькі малітвы засталіся на арабскай і чагатайскай (усходнецюркскай) мовах. Захаваліся святыя для мусульман рукапісныя кнігі — Кур'ан і Хамаіл. Вельмі цікавыя рукапісныя кнігі Аль-Кітабы, напісаныя арабскім пісьмом, але на беларускай гутарковай мове. Гэтыя кнігі надзвычай каштоўныя і для беларусаў. Яны — унікальныя помнікі старадаўняй беларускай мовы, бо арабскі альфабэту адрозненне ад кірыліцы і лацінкі выдатна перадае асаблівасці яе гучання.



***Татарская мячэць у Менску. Здымак 30-х гадоў XX стагоддзя***

За 600 гадоў, якія татары жывуць на гэтай зямлі, яны вельмі многае перанялі ад беларусаў, але і самі зрабілі некаторы ўплыў на іх. Яны перадалі свае навыкі ў конегадоўлі, агародніцтве, гарбарстве. Нямала слоў татарскага паходжання ўжываецца ў беларускай мове.

Татараў мелі ў сваіх радаводах знакамітыя пісьменнікі — Генрык Сянкевіч, Францішак Багушэвіч; татары з паходжання вядомыя філолагі — Антон Мухлінскі, Сцяпан Александровіч.

Сёння на Беларусі жыве больш за 12 тысяч татараў, створана культурна-асветнае згуртаванне «Аль-Кітаб», якое выпускае штоквартальнік «Байрам» (свята). У мястэчку Іўе на Гарадзеншчыне дзейнічае мячэць, на жаль, пакуль што адзіная ў Беларусі.

# 23. Чым вызначыліся беларусы ў бітве пад Дуброўнай?

У пераможнай бітве галоўных сілаў Вялікага Княства Літоўскага ды Польскага Каралеўства з нямецкім Ордэнам 15 ліпеня 1410 года пад Дуброўнай (Грунвальдам) — найбуйнейшай бітве Сярэднявечча, якая прадвызначыла лёс не аднаго еўрапейскага народа, большасць войска Вітаўта складалі беларусы. Паводле тагачаснага храніста Длугаша, на пабаявішчы адважна змагаліся беларускія харугвы: Віленская, Гарадзенская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Пінская, Новагародская, Берасцейская, Ваўкавыская, Драгічынская, Старадубская, Мельніцкая. Вядома ж, сярод іх былі і не названыя хроністам харугвы — Менская, Слуцкая, Варшанская, Амсціслаўская ды іншыя.

Калі да апошняга часу афіцыйнай гістарыяграфіяй лічылася, што адыход харугваў Вялікага Княства з пабаявішча па якой гадзіне сечы быў панічнымі ўцёкамі, дык даследаванні новых дакументаў пераконваюць, што гэта быў запланаваны тактычны



*Дубровенская (Грунвальдская) бітва. Гравюра XVI стагоддзя*

ход Вітаўта, неабходны для размыкання баявых парадкаў цяжкаўзброеных рыцараў ды рассейвання іх па шырокай мясцовасці. Асноўныя сілы Ордэна з левага фланга адразу памкнуліся за «ўцекачамі» і ўвязлі каля абозаў арміі Вялікага Княства. Тым часам на Вітаўтавым крыле да ўступлення палякаў у бітву нямецкіх рыцараў мужна стрымлівалі і амаль цалкам палеглі ў лютай сечы беларускія харугвы былой Смаленскай зямлі — Варшанская, Амсціслаўская і Смаленская (якія ў савецкай гістарычнай літаратуры фігуруюць як «русские смоленские полки»).

Дзякуючы гэтаму ўсё ордэнскае войска неўзабаве было аточана і ў двух вялізных «катлах» дазвання разгромлена хаўруснікамі. Гэтак вырашальнае значэнне для гістарычнай перамогі пад Дуброўнай мелі адмысловы манеўр, бліскуча праведзены вялікім князем Вітаўтам, і мужнасць нашых продкаў. Цана ж гэтае перамогі была надта вялікая: не менш як палова ваяроў, прыведзеных пад Дуброўну Вітаўтам, палегла на пабаявішчы.

## 24. Калі пасяліліся на Беларусі габраі (яўрэі)?

Габраі ўпершыню з’явіліся ў нашым краі яшчэ за часам князя Усяслава. Пазней, у XIV стагоддзі, калі ў Заходняй Еўропе (Нямеччыне, Гішпаніі ды інш.) пачаўся масавы пераслед габраяў, яны знаходзілі прытулак у Вялікім Княстве Літоўскім — краіне, дзе даволі талерантна ставіліся да людзей рознай веры. Іх першыя супольні ўзніклі тут пры канцы XIV стагоддзя ў Берасці і Горадні. З другой паловы XVI стагоддзя, пасля інтэнсіўнай міграцыі з Нямеччыны і Польшчы, габраі пачалі займаць прыкметнае месца ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі.

Пасля анексіі Расеяй нашы землі ўвайшлі ў так званую «мяжу аселасці», па-за якой забараніў габраям сяліцца. Напярэдадні першай сусветнай вайны яны складалі каля 14 працэнтаў усяго насельніцтва Беларусі. Бальшыня іх жыла ў гарадах і мястэчках (нярэдка іх было тут да 50—60 працэнтаў).




*Сінагога ў Менску. Здымак пачатку XX стагоддзя. Цяпер будынак драматычнага тэатра імя М. Горкага*

Беларускія габраі займаліся рамёствамі, гандлем, дробным прадпрымальніцтвам, ліхвярствам. Яны жылі замкнёнымі тэрытарыяльнымі супольнямі — кагаламі. Пасля скасавання ў сярэдзіне мінулага стагоддзя кагальнай сістэмы шмат хто з іх пачаў адмаўляцца ад традыцыяў свайго этнасу, засвойваць дасягненні еўрапейскай культуры. У гэты час узнікла новая габрайская літаратура на мове ідыш (што зазнала, дарэчы, прыкметны ўплыў беларускай мовы).

У 20-х гадах XX стагоддзя гэтая мова была адной з чатырох дзяржаўных моваў БССР. На ідыш выходзілі часопісы і газеты, былі габрайскія аддзелы ў Інстытуце Беларускай культуры і Беларускай Акадэміі навук, у музеях, працавалі тэатры, навучальныя ўстановы.

Пад час другой сусветнай вайны ў выніку фашысцкага генацыду загінула 300 тысяч беларускіх габраяў. Калі ў 1926 годзе яны складалі 8,2 працэнта насельніцтва БССР, дык у 1959 годзе — толькІ 1,8 працэнта. Паводле перапісу 1989 года, у Беларусі налічвалася 112 тысяч габраяў, або трохі болей за 1 працэнт. Апошнім часам павялічылася колькасць габраяў, што эмігруюць з Рэспублікі Беларусь у Ізраіль, ЗША ды іншыя краіны.

Беларускія габраі далі свету выдатных вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, дзяржаўных дзеячаў. Сярод іх — філосаф Саламон Майман (Хейман), гравёр Гершка Ляйбовіч, класік габрайскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорым, стваральнік мовы эсперанта Людвік Заменгаф, мастак Марк Шагал, класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), фізік-тэарэтык Якаў Зяльдовіч, скульптар Заір Азгур, пісьменнік-фантаст Айзек Азімаў, першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман, фізіка-хімік Віталь Гальданскі.

# 25. Хто такі Казімір Ягайлавіч?

З(1440 да 1492) года вялікакняскі пасад займаў Казімір Ягайлавіч (1427—1492), які з 1447 года быў адначасова і каралём польскім. Пасля гібелі ў бітве з туркамі пад Варнай (1444 год) ягонага брата Уладзіслава Казімір стаў адзіным прадаўжальнікам дынастыі Ягайлавічаў.

Час Казіміра — гэта час эвалюцыі дзяржаўнага ладу Вялікага Княства ад неабмежаванай манархіі ўзору Вітаўта да манархіі парламенцкага тыпу. Менавіта пры ім узмацняецца роля Рады ў кіраванні дзяржавай. Паны-рада практычна ажыццяўлялі ўладу, калі віленскі пасад заняў 13-гадовы князь.

Рада выступала таксама як найвышэйшы выканаўчы орган і ў часе працяглых ад’ездаў гаспадара з Княства пасля таго, як ён атрымаў польскую карону. Да заслугаў Казіміра трэба аднесці яго заканатворчую дзейнасць. Пры ім у 1468 годзе быў створаны Судзебнік, які стаў першай спробай кадыфікацыі беларускага права.

У вонкавай палітыцы Казімір імкнуўся да захавання тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы: у 1444 годзе забраў у Польшчы захопленую ёю раней Дарагічынскую зямлю, захаваўу складзе Вялікага Княства Валынь, якой дамагаліся палякі.

Гэты гаспадар змог даволі працяглы час забяспечваць мірнае развіццё краіны. Але сродкі забеспячэння былі не заўсёды прымальныя і перспектыўныя для магутнасці і ўплывовасці Вялікага княства. Калі ў выніку вайны з Тэўтонскім Ордэнам (1456—1466 гады) гэты адвечны супернік быў канчаткова разбіты і перайшоў у васальную залежнасць, то на ўсходзе — супраць маладой Маскоўскай дзяржавы і Крымскага ханства — наш манарх дзейнічаў нерашуча. Паводле дамовы 1449 года паміж Казімірам і Васілём II Вялікае Княства адмаўлялася ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў. Масква ж пасля вызвалення ад мангола-татарскага іга набірала агрэсіўную актыўнасць у заходнім кірунку. Вынікам гэтай актыўнасці сталася змова ў Кіеве супраць Казіміра, выкрытая ў 1481 годзе.

Закончыў жыццё Казімір Ягайлавіч у Горадні ў 1492 годзе. Пахаваны ў Кракаве ў капліцы Святога Крыжа.



***Вялікі князь Казімір. Надмагільная скульптурная выява***

# 26. Што такое магдэбургскае права?

У часы Сярэднявечча беларускія гарады былі цэнтрамі рамяства, гандлю, культуры, адміністрацыі ды абарончымі збудаваннямі. У XIV—XVI стагоддзях многія з іх атрымалі права на самакіраванне, так званае магдэбургскае, або майдэборскае, права (ад назвы нямецкага горада Магдэбург, які здаўна жыў паводле самакіравання).

Прывілеі на самакіраванне, што выдаваліся за подпісам вялікага князя, ні ў якім разе не супярэчылі традыцыйнаму мясцоваму праву, а пазней — беларускім агульназемскім законам і тым больш не адмянялі іх. Яны толькі пашыралі і паглыблялі старасвецкае звычаёвае права, а з часам і агульнадзяржаўнае заканадаўства, улічваючы менавіта спецыфіку гарадскога жыцця. Такім чынам, магдэбургскае права было па сутнасці толькі своеасаблівым адгалінаваннем тагачасных законаў Вялікага Княства. А паколькі не ўсе нашыя гарады жылі паводле самакіравання, то магдэбургскае права можна назваць яшчэ й адметным накірункам тагачаснага беларускага гарадскога права.

Першымі ў Беларусі магдэбургскае права ўвялі Вільня (1387 год) і Берасце. (1 390 год). Пазней, у XV—XVI стагоддзях яго здабылі жыхары Горадні, Слуцка, Полацка, Менска, Навагародка, Слоніма, Магілева, Пінска ды інш.



***Полацкая гарадская пячатка. 1635 год***

Згодна з прывілеем на магдэбургскае права, у горадзе ствараліся органы самакіравання, незалежныя ад ваяводаў і старастаў. Гарадское кіраванне ўзначальваў **войт**, прызначаны вяпікім князем. Разам з ім дзейнічала гарадская **рада**, што складалася з 12—20 мяшчанаў-**радцаў**. Існаваў судовы орган па крымінальных справах — **лава**, куды ўваходзілі лаўнікі пад старшынствам войта. Штодзённымі справамі займаліся **бурмістрм**, выбра- ныя гарадскою радай. Гарадская рада і лава разам складалі **магістрат**.



***Ратуша ў Магілеве, які атрымаў магдэбургскае права ў 1577 годзе***

Мяшчане вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцяў — нарыхтоўкі сена, выдзялення фурманак і інш., якія яны неслі дагэтуль разам з сялянамі воласці, ад суда і ўлады дзяржаўных службовых асобаў. Прадугледжваліся і пэўныя гандлёвыя льготы. Так, мяшчане Вільні, Полацка і некаторых іншых гарадоў магдэбургскім правам вызваляліся ад мыта на тэрыторыі ўсяго Вялікага Княства. Гарады з магдэбургскім правам — Менск, Полацак, Зэльва — у адрозненне ад звычайных гарадоў мелі права лвойчы на год праводзіць міжнародныя кірмашы, прычым прыезджыя купцы (а яны, дарэчы, былі з усяе Еўропы) мусілі прадаваць тавар толькі оптам, ад чаго горад меў значную выгаду.

Гаспадар і урад Вялікага Княства ўсяляк заахвочвалі гарады да самакіравання, бо былі непасрэдна зацікаўленыя ва ўмацаванні іх эканамічнага становішча: чым багацейшы быў горад, тым болей падаткаў ён уносіў у дзяржаўную скарбонку. Апрача таго, жыхары гарадоў з магдэбургіяй узамен на палітычныя і грамадзянскія свабоды ўскладалі на сябе дадатковыя абавязкі, у прыватнасці рамантаваць і паднаўляць за свой кошт абарончыя ўмацаванні.

Магдэбургскае права праіснавала ў нас да канца XVIII стагоддзя і было зліквідаванае пасля анексіі Беларусі Расейскай імперыяй.

# *27. Чым адметнае княжанне Аляксандра?*

Аляксандр з Ягайлавічаў (1461—1506) вызначаўся мяккім характарам, памяркоўнасцю, любіў музыку ды спевы. Вялікакняскі пасад ён заняў у 1492 годзе пасля смерці бацькі, вялікага князя Казіміра. Адразу ж з патрабавання ўрадоўцаў гаспадар мусіў выдаць прывілей, паводле якога абавязваўся весці дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі толькі пасля ўзгаднення з панамі-радай, сваёй воляй нічога не адмяняць, без згоды рады не рабіць прызначэнняў на дзяржаўныя пасады ці змяшчэнняў з іх, распараджацца фінансамі толькі пад яе кантролем. Такім чынам, прывілей 1492 года істотна абмяжоўваў непадзельную ўладу манарха на карысць шляхты.

Пры Аляксандру для Вялікага Княства пачаліся цяжкія абарончыя войны. У 1492—1494 гадах Маскоўшчына заваявала Вяземскае княства, а таксама нашыя землі ў басейне верхняй Акі і Вугры. У 1500—1503 гадах Вялікае Княства страціла 70 воласцяў і 1 9 гарадоў, сярод якіх былі Чарнігаў, Гомель, Бранск, Старадуб, Мцэнск ды іншыя.

Вялікім князем Аляксандрам з дапамогай еліскала смапенскага Язэпа Балгарыновіча, які заняў у 1500 годзе кафедру мітрапаліта, былі зробленыя спробы ўзнавіць у Княстве абвешчаную ў 1439 годзе на Фларэнцыйскім саборы царкоўную вунію, каб прадухіліць канфлікты на рэлігійнай глебе. Аднак гэтыя спробы не мелі поспеху.



***Вялікі князь Аляксандр. Гравюра XVI стагоддзя***

Напрыканцы княжання Аляксандра, 5 жніўня 1506 года, войска Вялікага Княства на чале з Міхалам Глінскім разбіла крымскіх татараў пад Клецкам. Радасную вестку пра слаўную перамогу яшчэ паспелі перадаць вялікаму князю, які ўжо быў пры смерці.

# 28. Хто такі Кастусь Астрожскі?

Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460—1530) — адзін з самых славутых герояў беларускай гісторыі, вялікі абаронца Айчыны. Паходзіў з роду турава-пінскіх князёў, нашчадкі якіх з канца XIV стагоддзя мелі галоўнай рэзідэнцыяй горад Астрог на Валыні. Вайсковую службу пачаў удзелам у барацьбе з крымскімі татарамі ды ў першай вайне Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага Княства Літоўскага. Як найбольш таленавіты вайсковы кіраўнік ва ўзросце 37 гадоў атрымаў чын гетмана найвышэйшага — галоўнага начальніка над войскам дзяржавы — ды неўзабаве здабыў еўрапейскую славу.

У змаганні з крымскімі татарамі і маскоўскімі захопнікамі Астрожскі не меў сабе роўных. Згодна з надпісам на ягоным надмагіллі, гетман 63 разы дамагаўся перамогі над імі. Асабліва слаўнай была перамога над амаль утрая большым маскоўскім войскам пад Воршай 8 верасня 1514 года, якой Астрожскі фактычна ўратаваў краіну ад чужога панавання.

Пра слаўную перамогу даведалася ўся Еўропа. Ёй быў прысвечаны спецыяльны лісток навінаў, выпушчаны ў Нюрнбергу ў 1514 годзе. Аршанская бітва ўвайшла ў еўралейскія хрэстаматыі з ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змагання з намнога лерасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага ўплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік баталіі.

Нястомна рупячыся пра належную абарону Вялікага Княства, найвышэйшы гетман не шкадаваў ні свайго жыцця, ні сродкаў, ды на ўласныя грошы ставіў харугвы вершнікаў. У Еўропе Канстанціна Астрожскага называлі «Ромулам», «Сцыпіёнам», «другім Ганібалам», «князем, найбольш вартым светлай памяці». Гетманства гэтага «брата расіянаў па царкве, але іх страшнага ворага ў полі», стала ўзорам вайсковай чыннасці ў Вялікім Княстве.




***Кастусь Астрожскі. ПартрэтXVI стагоддзя***



***Бітва пад Воршай. Гравюра XVI стагоддзя***

# 29. Хто такі Жыгімонт Стары?

Жыгімонт Стары (1467—1548) — пяты сын Казіміра Ягайлавіча — 12 кастрычніка 1506 года быў абраны вялікім князем літоўскім, а 9 снежня таго ж года — каралём польскім. Мянушку «Стары» атрымаў за тое, што задоўга да смерці хацеў перадаць свайму нашчадку вялікае княжанне. Так, яшчэ ў 1522 годзе паны-рада Вялікага Княства прагаласавалі за ягонага сына, якога таксама звалі Жыгімонтам, як за будучага гаспадара.

Жыгімонта Старога шанавалі як разумнага, разважлівага і памяркоўнага кіраўніка. Ва ўнутранай палітыцы вялікі князь праводзіў лінію на ўраўнаванне ў правах людзей шляхецкага стану незалежна ад этнічнага паходжання і рэлігійнай прыналежнасці. Менавіта пры Жыгімонце быў уведзены ў дзеянне Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года — адзіны агульнагаспадарскі кодэкс законаў, а таксама прыкметна ўзрасла роля Сойму, як найвышэйшага дзяржаўнага органа, што абмяжоўваў уладу манарха.

Па натуры не ваяўнічы, Жыгімонт, аднак, быў вымушаны неаднакроць змагацца з Масквою. Зацяжныя войны паміж Вялікім Княствам і Маскоўскаю дзяржавай 1507—1508, 1512—1522, 1534—1537 гадоў знясільвалі гаспадарства, прыносілі незлічоныя беды ўсяму нашаму народу. Вялікі князь рабіў усё, што мог, для абароны Бацькаўшчыны.




***Вялікі князь Жыгімонт Стары. Тагачасная гравюра***

Жыгімонт Стары быў вядомы як надзвычай адукаваны манарх, шчодры апякун над навукамі. Ён меў у Вільні вялікую бібліятэку, запрашаў да сябе таленавітых скульптараў, архітэктараў, мастакоў, быў вельмі зычлівы да славутага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны.

# 30. У якіх бітвах беларусы перамагалі крымскіх татараў?

Аб’яднаныя пад уладаю Гірэяў крымскія татары з 1474 года пачалі ладзіць наезды на землі Вялікага Княства Літоўскага. Колькасць іх уварванняў часам дасягала ажно двух-трох на год. Абараніць межы дзяржавы ад іх лятучай конніцы было досыць цяжка. Каб хоць нешта супрацьпаставіць наезнікам на поўдні Вялікага Княства, ствараліся палявыя старожы — мабільныя сталыя аддзелы конніцы.

Нягледзячы на тое, што крымскія рабаўнікі ўхіляліся ад бітваў, войска Вялікага Княства шмат разоў даганяла і разбівала іх. Беларускія вершнікі ў складзе харугваў Кастуся Астрожскага неаднаразова грамілі іх ужо ў 1 497 годзе. У 1503 годзе яны ж дамагліся перамогі над татарскімі загонамі каля Давыд-Гарадка.

Першай жа вялікай перамогай над наезнікамі стаў поўны разгром іх 5 жніўня 1506 года пад Клецкам, дзе князь Міхал Глінскі з 6 тысячамі вершнікаў паспалітага рушання з Беларусі паканаў удвая большую арду ды вызваліў 40 тысячаў мясцовых жыхароў, якіх татары вялі ў няволю. Пасля



***Крыж на пабаявішчы пад Клецкам, дзе ў 1506 годзе нашыя продкі разбілі татараў. Гравюра XIX стагоддзя***

гэтага Крым з зацятага ворага Княства на нейкі час зрабіўся ягоным хаўруснікам.

Гетман Астрожскі ў 1508 годзе разбіў крымскіх наезнікаў каля Слуцка, у 1512 годзе ён жа на чале коннага войска на 5 тысячаў бліскуча разграміў 25-тысячную арду пад Вішняўцом на Гарыні, у 1526—1527 гадах біў татараў пад Пінскам і на Украіне каля Альшанкі.

# 31. Хто заснаваў беларускае кнігадрукаванне ?

Гэта зрабіў наш славуты суайчыннік Францішак Скарына. Нарадзіўся ён у Полацку ў сям'і купца пры канцы 80-х гадоў XV стагоддзя. Першапачатковую адукацыю атрымаў у сваім родным горадзе і, відаць, у Вільні. У 1504—1506 гадах вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага ўніверсітэта.

У 1512 годзе ў Падуанскім універсітэце (Паўночная Італія) ён першы сярод усходніх славянаў атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны. Як сведчаць даследчыкі, Ф. Скарына не мог атрымаць годнасць доктара ва ўрачыстай абстаноўцы, бо ў яго нeставала грошай на раскошнае адзенне. Усёй раскошы ён здолеў супрацьпаставіць бліскучы інтэлект, і доктарская ступень была прысуджана яму адзінагалосна. Яго незвычайным розумам і талентам захапляліся сучаснікі.

Як чалавек шматграннага таленту, Ф. Скарына неўзабаве распачаў дзеля асветы свайго народа выдавецкую дзейнасць. 6 жніўня 1517 года ў чэшскай Празе пабачыла свет першая беларуская друкаваная кніга. За тры гады ён выдаў там 23 кнігі Бібліі ў сваім перакладзе на беларускую мову. Вярнуўшыся на радзіму, Ф. Скарына заснаваў у Вільні першую на Беларусі друкарню і выпусціў тут яшчэ дзве кнігі — у 1 522 і 1525 гадах.

Згодна з ацэнкамі спецыялістаў, Скарынавы кнігі ўяўляюць выключную з'яву як паводле колькасці змешчаных у іх гравюраў, так і паводле бездакорнай тэхнікі выканання. Сваёй прыгажосцю і дасканаласцю яны далёка перасягаюць не толькі ранейшыя царкоўнаславянскія выданні, але нават і тагачасныя венецыянскія.

Варта зазначыць, што ў пачатковай гісторыі беларускага кнігадруку годнае месца займаюць і



***Францішак Скарына. Гравюра 1517 года***

імёны віленскіх мяшчанаў Якуба Бабіча і Багдана Онькава, якія фінансавалі грандыёзную выдавецкую дзейнасць Ф. Скарыны.

Такім чынам, беларусы першыя сярод усходнееўрапейскіх народаў атрымалі друкаваную кнігу на роднай мове. Францішак Скарына сваім прыкладам паказаў, як трэба любіць свой народ і шанаваць матчыну мову. Дзякуючы гэтакім волатам духу беларуская культура ўзнялася да еўрапейскіх вышыняў.

# 32. Хто такі Мікола Гусоўскі?

Выдатны беларускі пісьменнік эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі (каля 1470 — 1533) вядомы перш за ўсё сваёю «Песняю пра зубра» («Carmen de Bisontis») — літаратурным шэдэўрам, напісаным на лацінскай мове. У Вялікім Княстве Літоўскім на гэтай мове даўней пісаліся шмат якія дзяржаўныя акты, выкладаліся навукі ў школах, правіліся набажэнствы ў храмах. Нельга было ўявіць адукаванага ліцьвінабеларуса, які б не ведаў лацінскае мовы. Ад часоў Антычнасці і да сярэдзіны XIX стагоддзя лаціна лучыла ўсю адукаваную Еўропу, дзе яна была моваю рэлігіі, школы, навукі і літаратуры. Вось чаму Мікола Гусоўскі, які хацеў уславіць веліч і магутнасць Айчыны перад усім светам, склаў сваю паэму на гэтай мове.

Твор ягонага жыцця — «Песня пра зубра» напісаны ім пад час знаходжання ў складзе пасольскае місіі ад Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў Рыме. Тут, з просьбы папы Рымскага, пад уражаннем бою быкоў, на якім ён прысутнічаў, М. Гусоўскі распачынае пісаць паэму.

Гапоўны герой паэмы, зубр, сімвалізуе сабою ўсё Княства, ягоных жыхароў і зямлю. Вітаўт Вялікі паказаны аўтарам з незвычайным захапленнем і любоўю як увасабленне вайсковай магутнасці і дзяржаўнай велічы Беларускага гаспадарства.

«Песня» была надрукаваная ў 1523 годзе ў Кракаве, дзе паэт правёў апошнія гады перад смерцю. Апрача яе, пяру Гусоўскага належаць вершы «Суцяшэнне» і «Да св. Сэбасцьяна», а таксама паэмы «Новая і славутая перамога наД туркамі», «Жыццё і чыннасць св. Гіяцынта».

М. Гусоўскага часам беспадстаўна прыпісваюць да жамойцкае, украінскае або польскае літаратуры, не ўлічваючы відавочных сведчанняў яго беларускага паходжання ў самой паэме. Зубр, на якога ў маладосці паляваў паэт, не вадзіўся ў стэпах Украіны, арака яго маленства, Дняпро, як вядома, не працякае ні ў Польшчы, ні ў Жамойці. Да таго ж, ідэал паэта — Вітаўт — у палякаў ніколі асабліва не шанаваўся. І нарэшце, самае галоўнае — беларуская ментальнасць, якою прасякнуты твор і якая фіксуецца на ўсіх узроўнях ягонае будовы.

Прызнанне ў свеце паэтычнага таленту аўтара «Песні пра зубра» засведчана міжнароднай арганізацыяй ЮНЕСКО, якая ўкпючыла імя Мікопы Гусоўскага ў спіс найвыдатнейшых дзеячаў славянскага свету. У 1980 годзе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва святкавала 500-гадовы юбілей паэта.


CARMEN
NICOLAI HVSSOVIANI
de statura feritate ac uenatione
Bisontis.

***“Песня пра зубра” Міколы Гусоўскага. Тытульны аркуш. 1523 год***

# *33. Калі была створана першая беларуская канстытуцыя?*

Распрацоўка канстытуцыйнага права ў Беларусі пачалася яшчэ ў XIV стагоддзі ў агульназемскіх і абпасных прывіпеях, апе ў іх былі толькі асобныя нормы, якія забяспечвалі правы шляхты. Зыходным момантам у развіцці канстытуцыйнага права ў нашай дзяржаве паслужыў прывілей вялікага князя Казіміра 1447 года. Наступным этапным дакументам быў прывілей вяпікага князя Аляксандра 1492 года. Апе найбольш поўна канстытуцыйныя нормы былі выкладзеныя ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і асабліва 1588 года.

Статут 1588 года прадугледжваў крымінапьную адказнасць шляхціча за забойства простага чапавека, абвяшчаў ідэю верацярпімасці, забараняў перадачу вольнага чалавека за даўгі або злачынства ў нявопю, абмяжоўваў пакаранне непаўналетніх (да 16 гадоў).

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Гэтая ідэя была накіраваная найперш супраць дэспатызму гаспадара і буйных



***Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, выдадзены ў Вільні ў друкарні Мамонічаў***

феадалаў, яна супрацьпастаўлялася сярэднявечнай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы.

Характэрна, што Статут 1588 года ігнараваў акт Люблінскай вуніі, замацоўваў і юрыдычна афармляў незалежнасць Беларускага гаспадарства. Ён абавязваў урад вярнуць адлучаныя ад Вялікага Княства землі, забараняў прызначаць на дзяржаўныя пасады і надзяляць зямлёю «чужаземцаў і загранічнікаў», у тым ліку і палякаў, захоўваў адасобленасць дзяржаўных устаноў, войска, заканадаўства, эканомікі і фінансаў.

Статут 1588 года быў надрукаваны ў Вільні, у друкарні Мамонічаў, на беларускай мове, а пазней неаднакроць перакладаўся на іншыя еўрапейскія мовы — польскую, нямецкую, украінскую, расейскую. Ён завяршыў кадыфікацыю права ў Вялікім Княстве. Паводле дасканаласці і лагічнай завершанасці яму не было роўных у тагачаснай Еўропе. А абвяшчэнне ідэі верхавенства права ў перыяд феадалізму сведчыла аб зараджэнні новай дзяржаўна-прававой тэорыі.

Наш Статут значна ўплываў на заканатворчасць суседніх народаў: яго выкарыстоўвалі пры кадыфікацыі прускага права, ён быў крыніцаю права ў Польшчы і на Украіне, ужываўся ў судах Латвіі і Эстоніі. Многія артыкулы Статута без зменаў перайшлі ў расейскае Саборнае ўлажэнне.

Усё гэта сведчыць пра высокі ўзровень развіцця юрыдычнай думкі і дзяржаўных інстытутаў Беларусі ў яе «залатую пару».

# 34. Што такое паны-рада?

Паны-рада — гэта найвышэйшы орган дзяржаўнага кіравання Вялікага Княства Літоўскага, які вырашаў галоўныя пытанні ўнутранай і замежнай палітыкі гаспадарства, адыгрываў значную ролю ў абранні вялікага князя, абароне дзяржавы, падрыхтоўцы законапраектаў.

У склад Рады ўваходзілі: **ваяводы** (кіраўнікі адміністрацыі тэрытарыяльных адзінак — ваяводстваў), **кашталяны** (каменданты замкаў і адначасова адміністратары зямельных уладанняў вялікага князя), **маршалак земскі** (старшыня на паседжаннях Рады і Сойму), **маршалак дворны** (начальнік шляхты, што служыла пры двары вялікага князя), **найвышэйшы гетман** (галоўны начальнік узброеных сілаў), **канцлер** (кіраўнік дзяржаўнай канцылярыі), **земскі падскарбі** (міністр фінансаў).

Сярод радных паноў былі магнаты са знакамітых вялікакняскіх родаў — Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Гаштаўтаў, Храптовічаў, Глінскіх, Глябовічаў, Гальшанскіх, Забярэзінскіх, Іллінічаў, Кязгайлаў, Кішак, Няміраў, Осцікаў, Астрожскіх, Пацаў, Солтанаў, Багавіцінавічаў.

З канца XV стагоддзя роля Рады ў агульнадзяржаўным жыцці ўсё больш узрастала — з дарадчага органа пры гаспадары яна паступова ператварылася ў самастойны орган улады. Аб'яднаўшы свае намаганні, паны-рада з часам дамагліся абмежавання ўлады вялікага князя. Так, у 1492 годзе вялікі князь Аляксандр мусіў выдаць прывілей, які істотна абмежаваў ягоныя правы як ва ўнутраных, так і ў замежных справах: прынцыповыя пытанні дзяржаўнай палітыкі ён не меў права развязваць без згоды Рады.

На працягу ўсяго часу свайго існавання Рада мела выключна важнае значэнне ў палітычным, эканамічным і духоўным жыцці Вялікага Княства.

# 35. Што такое Вялікае Княства Літоўскае?

Вялікае Княства Літоўскае — гэта сярэднявечная Беларуская дзяржава, што паўстала ў XIII—XIV стагоддзях на эканамічным і культурным грунце старадаўніх княстваў — Полацкага, Турава-Пінскага ды Смаленскага ў выніку збірання ў XIII стагоддзі Навагародкам вакол сябе суседніх земляў, у тым ліку і тых, што засялялі плямёны літва, латыголь, яцвязь і інш.

Азначэнне гэтай дзяржавы як беларускай мае пад сабою дастатковыя падставы: утварэнне яе дыктавалася інтарэсамі беларускіх феадалаў, беларускія землі складалі аснову эканамічнай і вайсковай магутнасці Княства, панавальнае месца ў ім заняла беларуская мова і культура, а дзяржаўнае заканадаўства развівалася з традыцыйнага беларускага права.

У сваім развіцці Вялікае Княства прайшло тры асноўныя этапы: станаўлення і ўмацавання — XIII—XIV стагоддзі; росквіту і найвышэйшай магутнасці — XV — першая палова XVII стагоддзя; паступовага аслаблення і заняпаду — другая палова XVII — канец XVIII стагоддзя.




***Вільня — сталіца нашае старадаўняе дзяржавы. Гравюра XVI стагоддзя***

Пачатковы этап станаўлення новай Беларускай дзяржавы характарызаваўся моцнымі цэнтралізацыйнымі тэндэнцыямі Новагародка, ягонай зацятай барацьбой з Жамойцяй, Галіцка-Валынскай зямлёю, а гэтаксама з крыжакамі — Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі. І далей Вялікае Княства няспынна імкнулася да пашырэння сваіх межаў шляхам прамых заваёваў у часы Альгерда (1345—1377) і Вітаўта (1392—1430). Абшары Беларускага гаспадарства павялічваліся і шляхам мірнага пераходу пад ягоную юрысдыкцыю суседніх дзяржаваў, яскравы прыклад чаго — добраахвотнае далучэнне да Княства ў 1559—1560 гадах Інфлянтаў, якія шукалі паратунку ад Маскоўшчыны.

Экспансіяніцкая палітыка Вялікага Княства, уваходжанне ў яго склад велізарных абшараў Усходняй Еўропы надавалі нашай дзяржаве характар імперыі. Асабліва гэта датычыць часоў Вітаўта, калі ўлада манарха была неабмежаванай, межы гасадарства сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, а пад яго пратэктаратам знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

Дый пазней Княства абвяшчала свае прэтэнзіі на першынства ў славянскім свеце не толькі ў ім, напрыклад у перыяд княжання Сцяпана Батуры, калі нават паўстаў план крыжовага паходу «праз Маскву на Турэччыну».

Але сказанае, вядома, менш за ўсё датычыць другой паловы XVII—XVIII стагоддзяў, калі Вялікае Княства перажывала глыбокі заняпад і паступова страчвала свае землі. Урэшце, пры канцы XVIII стагоддзя яно ўвогуле было зліквідавана.

Палітычны лад Беларускага гаспадарства, які, вядома, зазнаваў эвалюцыю, у перыяд росквіту вызначаўся наяўнасцю найвышэйшага заканадаўчага органа — Гапоўнага З'езда (Сойму), дэпутаты якога абіраліся на павятовых сойміках шляхты. Дастаткова моцнай і дасканалай з'яўлялася выканаўчая ўлада Княства на чале з вялікім князем. На чале гарадоў, якія мелі самакіраванне, гэтак званае магдэбургскае права, стаялі войты, прызначаныя манархам. Справаводства ва ўсіх дзяржаўных установах Княства вялося на беларускай мове, як таго і патрабаваў Статут.



***Дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня». Малюнак 1575 года***




*Вялікае Княства Літоўскае часоў Вітаўта на палітычнай карце Еўропы*

На ўсіх землях гаспадарства пачынаючы з XV стагоддзя дзейнічаў адзіны, агульнапрыняты збор законаў, уносіць змены ў які мясцован адміністрацыі не дазвалялася. Існавала цвёрдая грашова-фінансавая і падаткавая сістэма. Усе ўласнікі Княства — землеўладальнікі, арандатары, мытнікі. ды іншыя, цэнтралізавана ўносілі падаткі ў агульную гаспадарскую скарбонку. Сабраныя грошы скарыстоўваліся на рэчпаспалітыя патрэбы: пераважна на ўтрыманне адміністрацыйнага і судовага апарату ды вайсковыя справы. У нашай дзяржаве дзейнічалі адзіныя прынцыпы судовага і адміністрацыйнага ўпарадкавання; быў прыняты агульны парадак прызначэння кіраўнікоў земляў, ваяводстваў і паветаў, якія мелі роўныя правы і абавязкі; паўсюль існавалі аднолькавыя правілы выбараў на сонмікі і Галоўны З'езд; манархам вызначаўся адзіны для ўсіх парадак і нават адны і тыя ж дні правядзення павятовых шляхецкіх соймікаў; нарэшце, існавала адзінае войска і адзіныя вайсковыя законы.

Усялякія сепаратысцкія памкненні далучаных да Княства земляў, ваяводстваў, паветаў ці проста асобных моцных феадалаў лічыліся парушэннем законаў Княства, дзяржаўным злачынствам і таму жорстка пераследаваліся.

Своеасаблівым феадальны «федэралізм» у Вялікім Княстве меў месца толькі пачатку ўваходжання новых земляў у склад гаспадарства, у пэўны «пераходны перыяд», калі далучаныя абшары «асвойваліся». Але ён, як правіла, з часам разбураўся пад націскам агульнай унітарнай тэндэнцыі, што панавала ў Беларускай дзяржаве, асабліва з канца XIV стагоддзя, калі Вітаўт на працягу 1392 — 1396 гадоў дарэшты зліквідаваў сістэму мясцовага (удзельнага) княжання. З другой паловы XV стагоддзя цэнтралізацыйныя працэсы яшчэ больш паскорыліся, бо набылі вагу агульнагаспадарскія законы.

Беларускай дзяржаве быў уласцівы адносна дэмакратычны лад, найвышэйшы ў Еўропе ўзровень развіцця тэорыі права дасканаласць судовай практыкі, непасрэднымі вынікамі чаго сталіся — адсутнасць жорсткай тыраніі, усталяванне абмежаванай манархіі, урадавая абарона грамадзянскіх правоў і свабодаў, набліжэнне да рэлігійнай і этнічна-культурнай цярпімасці ды інш.




***Кодэкс артыкулаў, паодле якіх дзейнічаў найвышэйшы апеляцыйны суд вялікага Княства (Вільня, 1586)***

Гэтыя рысы даўняй Беларускай дзяржавы прыкметна адрознівалі яе ад суседняй Маскоўшчыны, дзе панавала жорсткая таталітарная сістэма, дэспатызм дзяржаўных структураў, поўная грамадзянская неабароненасць асобы, адсутнасць элементарных палітычных свабодаў.

Такім чынам Вялікае Княства Літоўскае — гэта (спецыфічнае дзяржаўнае ўтварэнне, што існавала ў XIII—XVIII стагоддзях у геаграфічным цэнтры Еўропы, пераемніцай якога — пасля працяглага знаходжання нашых земляў у складзе Расейскай імперыі — была Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, у пэўнай меры ўтвораная ў 1919 — 1920 гадах Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, і, урэшце, сёння пераемніцай гістарычных і культурных традыцый Вялікага Княства з'яўляецца суверэнная Рэспубліка Беларусь.

# *36. Чаму на Беларусі маскоўскага цара Івана IV называюць Жахлівым?*

Маскоўскі цар Іван IV (1530—1584) увайшоў у беларускую гісторыю як захопнік і кат: распачаўшы вайну супраць Вялікага Княства, у 1563 годзе захапіў Полацак, у якім чыніў жудасныя забойствы, дзесяткі тысяч людзей выводзіў у няволю, рассылаў па Беларусі карныя аддзелы для расправы над простым людам. За 16 гадоў панавання ягоных ваяводаў на Полаччыне край гэты настолькі здзічэў і абязлюдзеў, што на аднаўленне яго давялося браць людзей з ншых мясцінаў Беларусі.

Не менш крыві ліў Іван IV і ў сваёй дзяржаве, дзе гады апрычніны сталіся сапраўднай вакханаліяй садызму. Прыкладам, у Ноўгарадзе Вялікім узімку 1570 года апрычнікі больш за месяц забівалі па 500—1000 чалавек штодзённа. Ды вось жа дзіва: у памяць свайго народа каранаваны маньяк увайшоў як жорсткі, але справядлівы суддзя, «грозный царь Иван Васильевич». Спрыялі гэтаму асаблівасці расейскага нацыянальнага характару, прынамсі манархісцкія ілюзіі. Адсюль — апалогія тыранства, ідэалізацыя гэтага цара ў расейскай гістарычнай літаратуры.

На Беларусі ж успрыманне Івана IV адпавядала ягоным чорным справам. Тут, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, дзе хадзілі жудасныя чуткі пра яго неверагодную лютасць, маскоўскі цар быў не «грозны», а жахлівы. У ангельскую мову ён так і ўвайшоў як **John Terrible**, у нямецкую — як **Iwan der Schrekliche**. І ў беларускай гісторыі гэта **Іван Жахлівы**.




***Заходнееўрапейская карыкатура 1581 года, на якой Іван IV паказаны як усходні дэспат. Злева і справа — царскія каты, а за імі — натоўпы мужчын, жанчын і дзяцей, асуджаных на смерць***

# *37. Што такое Люблінская вунія?*

Люблінская вунія — гэта часовы вайскова-палітычны хаўрус, падпісаны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам улетку 1569 года на Сойме ў Любліне. Урад Княства, якое ў гэтым часе вяло цяжкую вайну з Масковіяй, мусіў падпісаць ганебнае пагадненне з Польшчаю ўзамен на вайскову́ю дапамогу.

Заключны Акт Люблінскага Сойму, у аснову якога быў пакладзены праект польскіх паслоў, а не той, што прапаноўвалі дэлегаты Вялікага Княства, прадугледжваў, як таго дамагаліся палякі, зліццё дзвюх дзяржаваў у адзінае цэлае, забараняў правядзенне ў Княстве асобных Соймаў, ліквідоўваў вялікакняскі Статут, адмяняў звычайны парадак абрання вялікага князя, дазваляў палякам свабодна набываць землі і даставаць усякія пасады на абшарах Беларускага гаспадарства. Адным словам, «Акт аб вуніі» ў прапанаванай палякамі рэдакцыі рыхтаваў глебу для інкарпарацыі, г. зн. поўнага ўваходжання Вялікага Княства ў склад Польскага Каралеўства.

І хоць нашы паслы змушаныя былі супроць свайго жадання падпісаць гэты акт, мары палякаў засталіся тады нязздзейсненымі. Дзякуючы цвёрдай палітычнай лініі найвышэйшых урадоўцаў Княства, найперш Астафея Валовіча, Яна Хадкевіча, Лева Сапегі, аніякага паяднання ў сапраўднасці не адбылося.

У 1576 годзе новы вялікі князь Сцяпан Батура сваім першым Прывілеем ад 8 ліпеня цалкам адмяніў усе пастановы Люблінскага Сойму, што прыніжалі годнасць Беларускага гаспадарства. У гэтым Прывілеі падкрэслівалася поўная незалежнасць Вялікага Княства ад Польшчы, здымаліся абмежаванні з дзейнасці вяліка-княскага Статута. З загаду С. Батуры была ўтворана спецыяльная дзяржаўная камісія, якая ўдакладніла межы між дзвюма дзяржавамі. Акрамя таго, праз два гады Вальны Сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўрадоўцамі Княства «статутавыя паправы», якія ўзнаўлялі надзвычай важныя нормы дзяржаўнага і судова-працэсуальнага права, адмененыя Люблінскім Соймам.

У Статуце 1588 года ўжо цалкам гарантавалася абсалютная эканамічная, дзяржаўна-палітычная і культурная незалежнасць Вялікага Княства ад суседніх гаспадарстваў. Усім іншаземцам, у тым ліку палякам, забаранялася набываць (купляць або атрымліваць як узнагароду ад вялікага князя) зямельныя надзелы, замкі ды маёнткі, а гэтаксама свецкія і царкоўныя пасады на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства. Статус дзяржаўнай юрыдычна замацоўваўся за беларускай мовай.

Як бачна, Вялікае Княства Літоўскае не было зліквідаванае ў 1569 годзе і не перастала існаваць як самастойная дзяржава, хоць таго, вядома, надзвычай хацелася польскім магнатам.

Болей за тое, у перыяд княжання С. Батуры (1576—1586 гады) Вялікае Княства перажыло перыяд новага ўздыму, красамоўнае пацверджанне чаго — пераможнае завяршэнне ў 1582 годзе 20-гадовай Полацка-Інфлянцкай вайны з Масковіяй і вяртанне ўсходніх беларускіх земляў.

# 38. Што такое Рэч Паспалітая?

Тэрмін «рэч паспалітая» з яўляецца літаральным перакладам з лаціны res publica і азначае наогул усялякую агульную справу, дзяржаву, ці гаспадарства.

Нашы продкі, як сведчаць гістарычныя крыніцы, карысталіся тэрмінам «рэч паспалітая» — у дакументах на беларускай мове і тэрмінам «res publica» — у дакументах на лаціне на працягу амаль усяго існавання Вялікага Княства Літоўскага (ад XIV да канца XVIII стагоддзя), прычым задоўгада 1569 года, натуральна ўжываючы яго як сінонім свайго гаспадарства, сваёй дзяржавы. Спашлемся на аўтарытэтную крыніцу першан паловы XVI стагоддзя — Статут 1529 года, дзе словазпучэнне «рэч паспалітая» скрозь ужываецца ў значэнні «гаспадарства», «дзяржава», «краіна», напрыклад: у 10-м артыкуле раздзела I, 6-м артыкуле раздзела III, 2-м артыкуле раздзела IV. Тое ж паўтараецца і ў шматлікіх артыкупах Статутаў 1566 і 1588 гадоў.

Папякі гэтаксама здаўна карысталіся тэрмінам «рэч паспалітая» («rzecz pospolita») і да Люблінскага Сойму ўжывалі яго выкпючна як сінонім свайго гаспадарства, сваёй дзяржавы — Польскага Каралеўства. Аднак у 1569 годзе, у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны момант, яны абвясцілі, што Вялікае Княства Літоўскае зліквідоўваецца яксамастойнаядзяржава, уключаецца ў скпад Польшчы і, такім чынам, утвараецца адна «рэч паспалітая» (дзяржава) — Польскае Каралеўства, што й было зафіксавана імі ў Заключным Акце Люблінскага Сойму. З таго моманту яны заўсёды пачалі гэтак гаварыць і пісаць, прызнаючы топькі адну «рэч паспалітую» — Польскую дзяржаву.

Нашыя продкі так ніколі не лічыпі. І так сапраўды ніколі не было. А тое, што Вялікае Княства Літоўскае заставалася юрыдычна незалежнай дзяржавай — Беларускай рэчай паспалітай да 3 траўня 1791 года і нават пазней — доказ тэндэнцыйнасці польскай гістарычнан навукі. Да канца XVIII стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічаў свабодны, выбарны заканадаўчы орган — Галоўны З'езд (Вальны Сойм); працаваў юрыдычна незапежны ўрад і мясцовая адміністрацыя; была свая ўстанова замежных спраў — Дзяржаўная Канцылярыя; існавала самастойная фінансавая і эканамічная палітыка; уласная дзяржаўная скарбонка; асобныя карныя структуры і вайсковыя фармаванні; свая сістэма ганаровых званняў і пасадаў. А галоўнае, тут дзейнічалі ўласныя законы, сабраныя ў Статуце, якія якраз былі юрыдычным падмуркам незалежнага Беларускага гаспадарства.

Такім чынам, аніякага новага дзяржаўнага ўтварэння, што нібыта ўзнікла ў 1569 уключаючы беларускія й польскія землі, не было. І да 1569 года і пасля яго існавалі дзве незалежныя дзяржавы — Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае, якія сапраўды мелі шчыпьныя палітычныя кантакты, што выяўлялася пераважна ў дзвюх сферах: па-першае, спалучэнне ў адной асобе гаспадара Беларускай дзяржавы, які тытулаваўся «вялікім князем», і гаспадара Польшчы, які тытулаваўся «каралём»; па-другое, правядзенне агульных вальных Соймаў, паспы на якія выбіраліся асобна (на агульназемскіх Соймах Вялікага Княства і Польшчы), па чарзе то ў адным, то ў другім гаспадарстве.

Вялікае Княства Літоўскае і Польшча нярэдка аб'ядноўвалі свае намаганні з мэтай сумесных ваенных дзеянняў — абароны ад варожых нападаў ці здзяйснення буйнамаштабных кампаніяў, як, да прыкладу, супольных паходаў на Маскоўшчыну ў 1609—1611 гадах і ў 1617—1618 гадах.

Часам дзве суседнія дзяржавы ўзгадняпі і свае знешнепалітычныя дзеянні, вырашапі агульныя дыпламатычныя задачы.

Але палітычныя, вайсковыя і дыпламатычныя хаўрусы зусім не азначаюць, што нейкае з гаспадарстваў у выніку перастае існаваць. На працягу доўгага часу блізкія ўзаемныя стасункі былі ў аднолькавай ступені вельмі выгадныя абедзвюм дзяржавам.

Менавіта вайскова-палітычны хаўрус «абодвух народаў», іх «агульныя справы» ў XVII—XVIII стагоддзях сапраўды называліся «рэчай паспалітай абодвух наро- даў», што і дало падставы пазнейшым гісторыкам гаварыць пра існаванне нібыта адзінай дзяржавы. Але гэтае сцверджанне не адпавядае гістарычным рэапіям. Што ж да магчымасці ўжывання словазлучэння «рэч паспалітая» (у сэнсе «дзяржава», «гаспадарства») сёння, то, каб пазбегнуць тэрмінапагічнай блытаніны і нарэшце захаваць навуковы падыход да гістарычных з'яваў, варта было б пісаць: Польская рэч паспалітая як сінонім Польскага Каралеўства і Беларуская рэч паспалітая як сінонім Вялікага Кнаства Літоўскага.

# 39. Якое месца ў нашай гісторыі займае Сцяпан Батура?



***Вялікі князь Сцяпан Батура. Гравюра XVI стагоддзя***

Сцяпан Батура (1533—1586) — увайшоў у беларускую гісторыю як адзін з самых моцных і дзейных вялікіх князёў. Паходзіў ён з роду Баторыяў Шомлё і быў сынам трансільванскага (ці, як казалі тады, сямігародскага) ваяводы. У 1571 годзе Батуру абралі князем Трансільваніі (цяпер тэрыторыя Румыніі). У 1576 годзе Сцяпан Батура каранаваўся ў Вільні на вялікага князя. У беларускай гісторыі Сцяпан Батура ўславіўся перадусім як палкаводзец. Войска пад яго кіраўніцтвам правяло шэраг паспяховых аперацый па вызваленні земляў Беларусі, захопленых Маскоўшчынай на пачатку Інфлянцкай вайны. У 1579 годзе быў вызвалены Полацк, які 16 гадоў знаходзіўся пад акупацыяй.

Вядомы Сцяпан Батура і як рэфарматар, тонкі дыпламат ды мецэнат навукі. Яго дбаннем у 1581 годзе быў утвораны, а з 1582 года пачаў дзейнічаць так званы Галоўны трыбунал — найвышэйшы апеляцыйны суд Вялікага Княства Літоўскага. Пад час княжання Сцяпана Батуры, у 1579 годзе, была заснаваная Віленская акадэмія, а праз год — Полацкі калегіум. Пасля смерці Івана IV Жахлівага Сцяпан Батура выношваў планы авалодання Маскоўскай дзяржавай і рыхтаваў буйны паход «праз Маскву на Турэччыну». Але гэтыяпланы засталіся нязДзейсненымі, бо неўзабаве ён памёр.

# 40. За што шануюць Сымона Буднага ў свеце?

Сымон Будны (каля 1530—1593) — выдатны дзеяч беларускай Рэфармацыі, таленавіты пісьменнік, педагог і філосаф, багаслоў і прапаведнік, імя якога ў XVI стагоддзі было шырока вядомае ў Англіі, Нямеччыне, Італіі ды іншых краінах Заходняй Еўропы.



***Сымон Будны. Шаржаваны партрэт XVI стагоддзя***

С. Будны быў надзвычай адукаваным чалавекам. Апрача роднай беларускай мовы, ён выдатна валодаў класічнай лацінай, іўрытам, а гэтаксама грэцкай, стараславянскай, польскай ды іншымі мовамі, што дазваляла яму паглыбляць свае веды ў антычных культурах, аналізаваць дасягненні Сярэднявечча, без цяжкасцяў знаёміцца з творамі Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра, Жана Кальвіна і іншых заходнееўрапейскіх філосафаў і пісьменнікаў.

На працягу амаль 30-гадовай творчай дзейнасці з-пад пяра нашага славутага асветніка выйшлі кнігі «Катэхізіс», «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (Нясвіж, 1562), «Аб галоўных артыкулах хрысціянскай веры» (Лоск, 1576), зборнік «Аб свецкай уладзе» (Лоск, 1583), пераклады Бібліі (1570, 1572, 1574), Апокрыфаў (1570) ды іншыя.

Асабліва шырокі розгалас у свеце атрымаў ягоны пераклад Новага Запавету 1574 года. І гэта не выпадкова: ніхто з тагачасных еўрапейскіх перакладчыкаў новазапаветных твораў не рабіў дагэтуль такой велізарнай тэксталагічнай працы, як С. Будны. Дзякуючы фенаменальным аналітычным здольнасцям беларускага асветніка, ягонаму таленту, шырокай эрудыцыі, дасканаламу веданню старажытных моваў, навукова-крытычны ўзровень выдання Новага Запавета 1574 года стаўся, бадай, самым высокім сярод усіх вядомых на той час у Еўропе.

Творы Буднага мелі вялікую папулярнасць, зразумела, і сярод жыхароў Беларусі. Ягоныя казанні з ахвотаю слухалі мяшчане Вільні, Клецка, Нясвіжа, Холхава, Заслаўя, Лоска, Любчы, Полацка, Вішнева...

Таямніца гэтакай папулярнасці твораў С. Буднага — найперш у іх гуманістычнай скіраванасці. Наш асветнік выступаў за вызваленне чалавечага духу, за свабодную стваральную працу. Ён заклікаў усіх грамадзян паважаць дзяржаўныя законы, шанаваць бацькоўскую зямлю і матчыну мову, сумленна выконваць свае абавязкі, урэшце, жыць паводле Божых запаведзяў.

Як гуманіст і прыхільнік разняволення чалаавека, Будны крытыкаваў тыранію, адмаўляў цэнзуру, абураўся фактамі фізічнай расправы над іншадумцамі.

З'яўляючыся прыхільнікам грамадзянскага міру і сацыяльнай гармоніі, асветнік паўстаў супроць досыць магутнага ў XVI стагоддзі руху анархістаў, разбуральных ідэяў тагачасных камуністаў — Пётры Гоняда, Якуба з Калінаўкі, Яна Немаеўскага і іншых, што патрабавалі зліквідацыі ўрада, суда, войска, усіх дзяржаўных інстытутаў, існаванне якіх, паводле іх сцвярджэння, нібыта супярэчыла Божай навуцы, сапраўднаму хрысціянскаму жыццю.

Сацыяльна-палітычныя і прававыя ідэі С. Буднага паўплывалі на вядомых юрыстаў, тагачасных дзяржаўных дзеячаў — Астафея Валовіча і Лева Сапегу, якія вызначалі дактрыну Статута 1588 года.



КАТИХИЗІСЪ.
ТО ЕСТЪ,
НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАНЬСКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРОСТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУСКОГО, ВЪ ПЫТАНІЯХЪ И Ѡ КАЗѢХЪ СЪБРАНЯ.

Ѡ ПЕРЪВЯГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
Петра посланія Зачало ѯ.
Готови присно къ ѿвѣту всякому въпрошяющему вы, слово ѿ вяшемъ уповянія съ кротостію и стряхо, совѣсть имяще благу и прочяя.

***Тытульны аркуш «Катэхізіса» Сымона Буднага***

У многім дзякуючы С. Буднаму ў Статуце знайшлі адлюстраванне ідэі аб прэзумпцыі невінаватасці, царкоўна-рэлігійнай талеранцыі і вяршэнстве законаў.

Сёння Бонскі ўніверсітэт у Нямеччыне рыхтуе факсімільнае выданне «Катэхізіса» Сымона Буднага, прымеркаванае да 400-х угодкаў таленавітага сына беларускай зямлі. Ягонае імя ўключана ў каляндар міжнародных датаў славутых дзеячаў славянскай культуры ЮНЕСКО.

# 41. Хто такі Васіль Цяпінскі?

Васіль Цяпінскі (Амельяновіч) (каля 1530—1600 гг.) — славуты дзеяч беларускай Рэфармацыі. Нарадзіўся ён у месцы Цяпіна (цяпер Чашніцкі раён). У 60-х гадах XVI стагоддзя мужны шляхціч узельнічаў у ваенных паходах на Масоўшчыну пад харугвамі аршанскага старасты Філона Кміты і падканцлера Астафея Валовіча. Аднак сваё прызванне ён знайшоў не на вайсковай службе, а на ніве асветы і культурнай чыннасці.

Зблізіўшыся з высокаадукаванымі людзьмі таго часу — С. Будным, К. Астрожскім (сынам гетмана Астрожскага) ды іншымі, В. Цяпінскі апынуўся ў цэнтры палемічнай барацьбы, што вялася паміж прадстаўнікамі розных культурна-гістарычных і рэлігійных плыняў.

Паводле сваіх поглядаў В. Цяпінскі быў трыхільнікам арыянства, г. зн. выступаў супраць вучэння аб Тройцы. Асветнік гэтаксама не прымаў дактрыны анархістаў, што заклікалі да зліквідавання ўсіх гаспадарскіх структураў. На вядомым Лоскім сінодзе 1578 года ён востра палемізаваў з лідэрамі тагачасных «камуністаў» — Аляксандрам Вітрэлінам і Марцінам Чаховіцам, баронячы ўрад ад іхных нападак і прапануючы памяркоўны шлях удасканалення грамадства.




***Партрэт Васіля Цяпінскага. Паводле гравюры XVI стагоддзя***

Галоўная ж заслуга В. Цяпінскага перад гісторыяй і беларускім народам у тым, што ён на поўны голас заявіў пра неабходнасць развіцця навукі, літаратуры, культуры на матчынай мове, заклікаў пашыраць на ёй Слова Божае. Ахвяруючы ўласнымі сродкамі, ён распачынае пераклад Апостальскага Пісьма, закладвае друкарню і выдае ў ёй кнігі Новага Запавету.

З творчай спадчыны В. Цяпінскага, на жаль, захавалася няшмат: няпоўны пераклад Новага Запавету з рукапіснай «Прадмоваю» і Каментарамі, а гэтаксама адна старонка «Катэхізіса, або Сумы навукі для дзетак».

Не ўсё задуманае ўдалося яму здзейсніць. Але ягоныя высакародныя намеры, ягоная грандыёзная праграма асветы паспалітага люду ўражвае і выклікае пачуццё павагі й гонару за нашага самаахвярнага прашчура, які глядзеў на некалькі стагоддзяў наперад, усвядоміўшы ролю роднае мовы ў яднанні суайчыннікаў, росквіце нацыі.

# 42. Адкуль і калі прыйшла каталіцкая вера на Беларусь?

Паколькі канчатковы падзел хрысціянства на каталіцтва і праваслаўе адбыўся ў 1054 годзе, а аформіўсяў 1204 годзе, то для ранейшага часу больш правільным будзе ўжыванне тэрмінаў «усходні, або візантыйскі, абрад» (пазней — праваслаўе) і «заходні, або рымскі, абрад» (пазней — каталіцызм).

Гістарычныя крыніцы не даюць адназначнага адказу на пытанне: адкуль і калі было прынятае хрысціянства на Беларусі? У Полацкім княстве ўсходні абрад хутчэй за ўсё быў пераняты непасрэдна з Візантыі і можа нават раней, чым у Кіеве. Ёсць шэраг падстаў, каб сцвярджаць, што адначасова і паралельна ў нас пашыралася і хрысціянства заходняга абраду. Вялікую ролю ў гэтым напачатку адыгралі заходнія місіянеры. Найбольш вядомы з першых прапаведнікаў Слова Божага — святы Бруна Баніфацый, забіты мясцовымі паганцамі ў 1009 годзе недзе на тэрыторыі Беларусі. Каля 1010 года тураўскі князь Святаполк разам са сваімі падданымі прыняў хрост паводле заходняга абраду ад нямецкага біскупа Рэйнберна. Пазней Тураўскае біскупства згадваецца пад 1105 годам у Кіева-Пячорскім патэрыку. Як паказваюць матэрыялы раскопак і архіўныя крыніцы, «лацінскія бажніцы» існавалі ў XII стагоддзі ў Полацку і Смаленску. З канца таго ж стагоддзя на тэрыторыю Полацкага княства пашырыўся ўплыў створанага ў 1188 годзе Лівонскага біскупства. У першай палове XIII стагоддзя на полацкіх землях дзейнічала Русінскае біскупства, уключанае ў 1255 годзе ў новастворaную Рыжскую мітраполію.



***Касцёлы Святой Ганны / бернардынцаў у Вільні. Гравюра XIX стагоддзя***

У XI—XIV стагоддзях у пашырэнні заходняга абраду на нашых землях прыкметную ролю адыгралі гандлёвыя і культурныя дачыненні з краінамі Заходняе Еўропы, асабліва германскімі, кантакты з Нямецкім і Лівонскім ордэнамі. З другой паловы XIII стагоддзя за духоўны ўплыў на беларускія землі пачаў змагацца і польскі касцёл. Аднак першая ягоная спроба дамагчыся пратэктарату над нашым рэлігійным жыццём скончылася няўдачаю. У год каранацыі новагародскага князя Міндоўга, у 1252 годзе, адбылося прызначэнне каталіцкага біскупа для ўсяе тэрыторыі, падпарадкаванай князю. На гэтую пасаду спачатку быў кансекраваны польскі дамініканец Віт. Але з нейкіх прычынаў Віт не быў дапушчаны да кіравання дыэцэзгяй; паводле некаторых звестак, ён нават быў паранены і выгнаны.

Першым афіцыйным і законным біскупам Вялікага Княства Літоўскага стаў у 1252 годзе немец Хрыстыян. Праз колькі гадоў беларускае біскупства было пераўтворана ў арцыбіскупства з непасрэдным падпарадкаваннем папскаму пасаду. Таму заснаванае пазней, у 1387 годзе, Ягайлам Віленскае біскупства нельга лічыць першым на тэрыторыі Княства, бо легітымнасць папярэдняга, закладзенага Міндоўгзм, пацвярджаецца лістом папы Вітаўту, у жім узнаўляецца даўні прывілей, дадзены Міндоўгу на непасрэднае падпарадкаванне папскаму пасаду. Барацьба за аўтаномію нацыянальнага касцёла ад польскага працягвалася і пасля Вітаўта. Беларуская шляхта дамаглася перавагі: з першых 18 біскупаў толькі тры — першы, трэці і чацвёрты былі палякі, астатнія — беларусы. Толькі паступова польскі ўплыў пачаў узмацняцца, асабліва пасля катастрафічных войнаў з Масковіяй у XVII стагоддзі.

# 43. Хто такі Астафей Валовіч?

Астафей Валовіч (каля 1520—1587) — выдатны палітычны дзеяч эпохі Адраджэння, які нарадзіўся на Гарадзеншчыне. Ён адыграў выключную ролю ў гісторыі нашага гаспадарства. На працягу жыцця Валовіч займаў галоўныя пасады ва ўрадзе Вялікага Княства: найвышэйшага пісара, маршалка дворнага, земскага падскарбія (1561—1566), падканцлера (1566—1579), канцлера (1579—1584), троцкага кашталяна (1569—1579), віленскага кашталяна (з 1579) і, нарэшце, віленскага ваяводы (1584—1587). Ён належаў да эліты тагачаснага беларускага грамадства.

Неардынарны талент Астафея Валовіча выявіўся ў часе падрыхтоўкі і рэдагавання другога Статута Вялікага Княства 1566 года. Ён прыклаў неверагодна шмат сілаў, каб і ў законах і ў жыцці адстаяць незалежнасць Беларусі пасля падпісання ганебнай Люблінскай уніі 1569 года. Як земскі падскарбій Валовіч кіраваў найскладанейшай, але надзвычай неабходнай гаспадарству зямельнай рэформай сярэдзіны XVI стагоддзя. Узначальваючы Дзяржаўную канцылярыю, ён праявіў выдатныя дыпламатычныя здольнасці, праводзячы замежную палітыку Беларускага гаспадарства, накіраваную на ўмацаванне нашае старажытнае дзяржавы.

А. Валовіч вызначаўся асабістай мужнасцю. Ён быў сярод тых людзей, хто пад сваімі харугвамі вёў беларускае рыцарства да перамогі над Масковіяй у часы надзвычай цяжкай Полацка-Інфлянцкай вайны.

Да таго ж А. Валовіч быў шчодрым мецэнатам. Усведамляючыролю асветы, пашырэння навукі, ён увесь час дбаў пра развіццё друкарняў, ахвяраваў шмат сродкаў на выданне кніг, утрыманне школаў і навучанне дзяцей. Высокаадукаваны чалавек, А. Валовіч выдатна ўсведамляў, што без асветы, без клопату пра моладзь нацыя не мае будучыні.



***Астафей Валовіч. Малюнак XVI стагоддзя***

# 44. Хто такі Леў Сапега?

Леў Сапега (1557—1633) — зорка тэршай велічыні на небасхіле палітычнай гісторыі Беларусі. Ён нарадзіўся ў маёнтку Астроўна на.Віцебшчыне ў шляхецкай сям'і. Л. Сапега атрымаў бліскучую адукацыю — спачатку ў Нясвіжскай пратэстанцкай школе, а затым у Ляйпцыгскім універсітэце; свабодна валодаў пяццю мовамі.

Па вяртанні з Нямеччыны Л. Сапега быў заўважаны Сцяпанам Батурам і прыняты на службу да вялікага князя. У 1579—1582 гадах ён ваяваў супраць маскоўцаў на чале харугвы.

У 1584 годзе Л. Сапега ўзначаліў надзвычай адказнае пасольства ў Маскву, у часе якога выявіў неардынарныя дыпламатычныя здольнасці, дамогшыся падпісання вельмі выгаднага для Беларусі «вечнага міру», за што і быў у 1585 годзе прызначаны на пасаду падканцлера.

Як падканцлер, а з 1589 года як канцлер Л. Сапега кіраваў замежнай палітыкай Беларускага гаспадарства і прыкметна ўплываў на ўнутранае жыццё краіны. Першарадная заслуга Л. Сапегі ў тым, што ён падрыхтаваў і дамогся зацвярджэння Статута 1588 года, які гарантаваў эканамічную, палітычную ды культурную незалежнасць Вялікага Княства ад суседніх Польшчы і Масковіі. Істотна й тое, што ён ужо

тады з'яўляўся прыхільнікам не абагоўленай манархіі, а моцнай дэмакратычнай, прававой дзяржавы, дзе, паводле ягоных слоў, «павінны панаваць законы, а не асобы».

Л. Сапега адыграў вырашальную ролю ў часе буйных ваенных кампаніяў на ўсходзе ў 1609—1611 і 1617—1618 гадах. Дзякуючы ягонай асабістай мужнасці і палітычнаму таленту Беларускае гаспадарства тады прыкметна пашырыла свае межы, вярнуўшы назад нашыя старадаўнія землі. Так, паводле ўмоваў Дзявулінскага замірэння ад 1 снежня 1618 года, Вялікаму Княству вярталіся Смаленск, Дарагабуж, Белы, Старадуб, Невель, Себеж, Красен, Ноўгарад-Северскі, Вяліжская воласць і Манастырскае гарадзішча.

Пра незвычайнасць асобы Л. Сапегі, яго глыбокі патрыятызм асабліва сведчыць той факт, што ў часе вайны Вялікага Княства са Швецыяй, у 1625—1629 гадах, ён ахвяраваў амаль усю сваю маёмасць на ўтрыманне войскаў, зрабіўшы ўсё магчымае дзеля выратавання Бацькаўшчыны ў тую чорную часіну.

Дзякуючы чыннасці Л. Сапегі нашае старадаўняе гаспадарства не толькі здолела захаваць сваю незалежнасць у складаны гістарычны момант, але й перажыло новы перыяд эканамічнага ды культурнага росквіту, які з поўным правам можна назваць «эпохаю Лева Сапегі».



*Леў Сапега. Гравюра пачатку XVII стагоддзя*

# 45. Хто заснаваў кнігадрукаванне ў Маскве?



Первое убо слово сотворихъ о всехъ,
о Феофиле. о нихже начатъ Іс, тво
рити же и учити. до негоже дне,
заповедавъ апломъ Дхомъ стымъ,
ихже избра вознесеся. пред нимиже
и постави себе жива по страданіи
своемъ. во мнозехъ истинныхъ знаме
ніихъ. дньми четыридесятьми являя
ся имъ и глаголя яже о цртвіи Бжіи. сни
миже и ядый, повелеваше имъ от Иерусали
ма не отлучатися. но ждати обетованія
отчее, еже слышасте от мене. яко Іоаннъ
убо кртилъ есть водою. вы же имате кре
ститися Дхомъ стымъ, не по мнозехъ
сихъ днехъ. они же убо сшедшеся, вопрашаху

*Першая старонка «Апостала» 1564 года — маскоўскага першадруку*

Кнігадрукаванне ў Маскве заснавалі нашыя таленавітыя продкі — Пётра Мсціславец ды Іван Федаровіч (Фёдараў). Першы, як відаць з яго прозвішча, паходзіў з горада Мсціслава, а другі, на думку аўтарытэтных даследчыкаў, належаў да беларускага шляхецкага роду, што меў герб «Шранява».

Невымерная заслуга П. Мсціслаўца і І. Федаровіча ў тым, што яны першымі ў Маскоўшчыне надрукавалі ў 1564 годзе Апостал, а яшчэ праз год-два Часоўнікі, адкрыўшы такім чынам новую старонку ў гісторыі маскоўскай культуры, далучыўшы нашых усходніх суседзяў да аднаго з найважнейшых дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі — кнігадрукавання. Вельмі паказальны і той факт, што ўсё друкарскае начынне нашы асветнікі прывезлі ў Маскву з радзімы. Гэта засведчыў тагачасны ангельскі пасол у Маскве Джыльс Флэтчар, які ў адным са сваіх твораў зазначыў, што друкарскі варштат і літары былі прывезеныя ў Маскву.

На жаль, кансерватыўнае маскоўскае духавенства ды неадукаванае баярства варожа

сустрэлі пачынанні беларускіх асветнікаў, яны абвінавацілі нашых суайчыннікаў у «пашырэнні ерасі». Вынік гэтых беспадстаўных паклёпаў не прымусіў доўга чакаць. У 1566 годзе раз'юшаны натоўп, падбухтораны шматлікімі непрыяцелямі П. Мсціслаўца і І. Федаровіча, дарэшты разбурыў іхную друкарню і ледзьве не расправіўся з яе гаспадарамі. Убачыўшы, што ў Маскве яшчэ не выспелі ўмовы для ўспрыняцця друкаванага слова, яны вымушаны былі вярнуцца на радзіму. Тут, вядома, ім не давялося доўга сядзець без справы. Беларускі магнат Рыгор Хадкевіч, які даўно марыў аб адкрыцці ўласнай друкарні, запрасіў П. Мсціслаўца і І. Федаровіча да сябе ў мястэчка Заблудаў (цяпер Беластоцкае ваяводства ў Польшчы).



***Герб Івана Федаровіча, змешчаны ў "Новым Запавеце" 1580 года***

Дзякуючы падтрымцы па-еўрапейску адукаванага гетмана Р. Хадкевіча, друкары ўтварылі ў Заблудаве літаратурна-выдавецкі гурток, плёнам дзейнасці якога сталіся ўнікальнае Евангелле вучыцельнае (1569) і Псалтыр з Часаслоўцам (1570).

Пазней шляхі П. Мсціслаўца і І. Федаровіча разышліся. Мсціславец пераехаў у Вільню, дзе з дапамогаю Мамонічаў заснаваў новую друкарню і падрыхтаваў яшчэ тры шыкбўныя выданні — Часоўнік (1574—1576), Евангелле напрастольнае (1575) і Псалтыр (1576).

А Іван Федаровіч накіраваўся ў Львоў, дзе ў 1574 годзе надрукаваў Апостал і «Азбуку». Затым ён перабраўся ў Астрог да князя Канстанціна Астрожскага (сына славутага гетмана). Там ён выдаў яшчэ адну «Азбуку» (1578), Псалтыр і Новы Запавет (1580), «Храналогію» нашага таленавітага паэта Андрэя Рымшы і славутую Астрожскую Біблію 1581 года, якая сталася агульнапрызнаным сімвалам небывалага росквіту ўсходнеславянскай культуры эпохі Адраджэння.

# 46. Што такое Берасцейская вунія?

Берасцейская вунія — гэта пагадненне, падпісанае ў кастрычніку 1596 года на царкоўным саборы ў Берасці паміж найвышэйшымі праваслаўнымі і каталіцкімі іерархамі Вялікага Княства Літоўскага.

Галоўная прычына, дзеля якой праваслаўная і каталіцкая цэрквы Вялікага Княства імкнуліся да ўз'яднання, — агульная патрэба процістаяць даволі моцнаму на той час рэфармацыйнаму руху, які прыкметна ўплываў на жыццё вернікаў. Беларуская праваслаўная царква імкнулася да вуніі з каталіцкай яшчэ й таму, што над ёю паўстала пагроза з боку ўтворанай у 1589 годзе Маскоўскай патрыярхіі, што абвясціла сябе пераемніцай улады Канстанцінопаля (у 1453 годзе ён быў заваяваны туркамі) і прэтэндавала на падпарадкаванне земляў, населеных праваслаўнымі.

Урад Вялікага Княства гэтаксама падтрымліваў ідэю царкоўнае вуніі, бо разлічваў праз яе дасягнуць спакою ў гаспадарстве, спыніць нарастанне канфліктаў на рэлігійнай глебе.

Паводле ўмоваў пагаднення 1596 года, праваслаўныя іерархі атрымлівалі некалькі месцаў у Радзе Вялікага Княства, а гэтаксама прызнавалі над сабою выключную ўладу папы рымскага, дзякуючы чаму пазбаўляліся адусялякіх прэтэнзіяўз боку маскоўскіх патрыярхаў. Разам з тым у праваслаўнай царкве Княства захоўвалася ўсходняе грэцка-візантыйскае набажэнства і рытуалы, заставаліся непарушнымі ўсе зямельныя ўладанні, у царкоўнай практыцы па-ранейшаму прадугледжвалася карыстанне старым юліянскім календаром.

Аднак не ўсе праваслаўныя дзеячы падтрымалі ідэю вуніі. Тады ж, у кастрычніку 1596 года, яны правялі ў Берасці свой сабор пад кіраўніцтвам патрыяршага экзарха Нічыпара, на якім адмежаваліся ад новай вуніяцкай царквы. Праўда, пазней, на працягу XVII стагоддзя, амаль усе праваслаўныя жыхары Вялікага Княства схіліліся да вуніяцтва.



***Мікалаеўская царква ў Берасці, дзе была падпісана царкоўная вунія***

# 47. Што такое вуніяцтва?

Вуніяцтва — гэта адзін з накірункаў хрысціянства, што паўстаў на Беларусі ў выніку Берасцейскае вуніі 1596 года.

Пераход праваслаўных беларусаў у вуніяцкую веру адбываўся паступова і расцягнуўся на шмат гадоў, што дазволіла (нягледзячы на даволі значнае яа першым часе непрыняцце і нават супраціўленне) пазбегнуць крывавых рэлігійных войнаў, як гэта было ў шэрагу краін Заходняй Еўропы. Пры канцы XVIII стагоддзя, напярэдадні анексіі Расейскай імперыяй нашых земляў, абсалютная большасць насельнікаў Беларусі былі вуніятамі.

Да вуніяцтва людзей цягнула яго ўвага да мясцовых нацыянальна-культурных традыцый, шырокае выкарыстанне ў рэлігійным жыцці, асабліва ў часе казанняў, беларускай мовы. Існавала вялікая вуніяцкая літаратура на беларускай мове: творы Іпата Пацея, Язэпа Руцкага, Язафата Кунцэвіча. У вуніяцкіх друкарнях — Віленскай і Супраслеўскай — друкаваліся шматлікія богаслужэбныя кнігі. Вуніяцкія манастыры, якіх у XVIII стагоддзі налічвалася блізу 90, з'яўляліся буйнымі асяродкамі нашае старадаўняе культуры.

Вуніяты ў адрозненне ад беларусаў праваслаўнай і каталіцкай канфесій былі найбольш устойлівыя і да паланізацыі, і да русіфікацыі. Гэта добра ведалі найсвяцейшы ўрадавы Сінод і афіцыйныя ўлады Расейскай імперыі. Таму, калі на парадак дня была пастаўлена суцэльная русіфікацыя карэннага насельніцтва анексаванай Беларусі, яны ў першую чаргу вырашылі нанесці смяротны ўдар па вуніятах. Пачалі са схілення ў праваслаўную веру самых высокіх кіраўнікоў вуніяцкай рэлігіі. І не памыліліся. У лютым 1839 года тыя падпісалі акт аб «уз'яднанні» беларускай вуніяцкай царквы з расейскай праваслаўнай. Шматлікія культурныя каштоўнасці, кананічная літаратура вуніяцкай царквы сталі аб'ектам вынішчэння, ахвярай агню.



***Полацкі Сафійскі сабор — вуніяцкая бажніца, пабудаваная на месцы зруйнаванай у 1710 годзе старажытнай царквы***

Вернікі з абурэннем сустрэлі вестку аб далучэнні даправаслаўя, яныне жадалі маліцца паводле яго правілаў і яшчэ доўга прытрымліваліся сваіх былых царкоўных рытуалаў. Асабліва не пагаджаліся, што ў часе літургіі гучала малазразумелая для іх царкоўнаславянская мова, а казанні выконваліся па-расейску. Значная частка вуніятаў, нездаволеных учыненым гвалтам, добраахвотна далучылася да каталіцкай рэлігіі.

На ўсіх пераломах гісторыі — і пад час паўстання К. Каліноўскага, і ў пару нашага Адраджэння пачатку XX стагоддзя, і ў другую сусветную вайну — у прагрэсіўнай частцы беларускага народа заўсёды ўзнікала думка аб адраджэнні вуніяцкай рэлігіі. Нямала ў яе прыхільнікаў і сёння, асабліва сярод моладзі.

# 48. Чаму нашы магнаты пакідалі праваслаўе і пераходзілі ў каталіцтва?

Усходні (пазней — «праваслаўе») і заходні (пазней — «каталіцтва») абрады з другой паловы X стагоддзя з моманту прыняцця хрысціянства на Беларусі існавалі ў нас паралельна. Гэтае суіснаванне наклала асаблівы адбітак на ментальнасць і культуру нашага народа, абумовіўшы наяўнасць некаторых «заходніх» рысаў нашага праваслаўя і «ўсходніх» у нашым каталіцтве. Спалучэнне гэтых дзвюх магутных традыцыйных плыняў датычыць не толькі ўсяе культуры, але кожнага паселішча (праваслаўны і каталіцкі храм на адной плошчы), кожнае сям'і (адзін сужэнец — праваслаўны, другі — каталік), кожнае асобы (прыйманне і талеранцыя іншага веравызнання, прызнанне ягонай слушнасці). Гэткая «двуеднасць» і спалучэнне двух пачаткаў, іхнае ўзаемапранікненне прывяло з часам да спробаў збліжэння дзвюх канфесіяў і ўзнікнення вуніі.

Здопьнасць бачыць ісціннасць у іншай канфесіі, спасцігаць еднасць па-за рознасцю, разуменне таго, што і каталікоў і праваслаўных яднае вялікая ахвяра Хрыста — усё гэта дазваляе думаць, што пераход з аднае канфесіі ў другую звычайна не ўспрымаўся як адыход ад веры бацькоў. Відаць, гэтак жа памяркоўна ставіліся даўней да змены паганства на хрысціянства, і наадварот.

Частка беларускіх магнацкіх і шляхецкіх родаў прыйшла ў каталіцтва непасрэдна з паганства яшчэ ў часе першых місіяў і навяртанняў XI—XII стагоддзяў. У 1252 годзе разам з каранаваным навагародскім каралём Міндоўгам хрысцілася 300 беларускіх паганскіх нобіляў. Пад час другога агульнага «Ягайлавага хросту» ў 1387 годзе ў каталіцтва навярнулася яшчэ большая колькасць паганскае знаці.

Заняпад гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», які праходзіў праз землі Беларусі, падзенне астоі праваслаўя — Канстанцінопаля абумовілі пераарыентацыю палітыкі нашых валадароў на больш шчыльныя сувязі з заходнімі краінамі. І для адукаванае часткі знаці, асабліва з часоў Міндоўга і Вітаўта, значна больш прыцягальным сталася каталіцтва. У пэўныя перыяды гэтаму спрыялі і прывілеі, якія даставала каталіцкая шляхта Вялікага Княства.

Яшчэ болей заходнія сімпатыі ўзмацніліся ў часе войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскаю дзяржаваю, асабліва ў XVII стагоддзі, калі маскоўскія войскі вынішчалі на Беларусі і катапікаў, і вуніятаў, і праваслаўных, катуючы нават праваслаўнае духавенства. Тым часам духовая залежнасць беларускіх праваслаўных ад Маскоўскае патрыярхіі давала падставу Маскові для ўмяшання ва ўнутраныя справы Беларусі, да маніпуляцыі настроямі праваслаўных вернікаў у Княстве, што змушала нашую дзяржаву да спрыяння каталіцтву і заахвочвання каталіцкае шляхты.

# 49. Што такое «Літоўская метрыка»?

Такую назву меў дзяржаўны архіў канцыляры Вялікага Княства Літоўскага. У ім захоўваліся дакументы з сацыяльна-эканамічнай гісторыі Вялікага Княства, а таксама палітычных, царкоўна-рэлігійных і культурных дачыненняў у XIV—XVIII стагоддзях. Кнігі метрыкі падзяляюцца на судовыя і публічных спраў, дзе змяшчаюцца вялікакняскія прывілеі, уставы, соймавыя пастановы, перапісы войска ды інш.; кнігі запісаў, у якіх пераважаюць вяпікакняскія граматы; пасольскія, што ўтрымліваюць міждзяржаўныя пагадненні, дыпламатычную перапіску, «навукі» паслам і да т. п.; кнігі перапісаў са звесткамі пра замкі і дзяржаўныя зямельныя ўладанні; кнігі арэндаў; кнігі данін і некаторыя іншыя. Мова дакументаў да пачатку XVIII стагоддзя ў асноўным беларуская, пазней пераважна польская, сустракаецца таксама лаціна.



*Літоўская метрыка. Старонка з дыпламатычнага дакумента XVI стагоддзя*

Сёння фонд «Літоўскай метрыкі» — гэта энцыклапедыя беларускага Сярэднявечча, без матэрыялаў якой не можа абысціся ніводны даследчык нашай мінуўшчыны. На працягу XIX—XX стагоддзяў частка матэрыялаў метрыкі была апублікаваная ў зборніках. Архіў канцыляры Вялікага Княства Літоўскага напачатку захоўваўся ў Троках, затым у Вільні, Варшаве, а зараз у асноўным у Маскве, у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў. Да сённяшняга дня дайшло каля 600 тамоў «Літоўскай метрыкі». У сучасны момант ажыццяўляецца міждзяржаўная праграма (Беларусь, Расея, Польшча, Украіна, Летува) па яе выданні.

# 50. Калі быў заснаваны першы ўніверсітэт на Беларусі?

Першай гуманітарнаю школай універсітэцкага тыпу была яшчэ «грэка-лаціна-руская» акадэмія ў Смаленску, заснаваная блізу 1130 года, і першым яе рэктарам стаў грэк Мануіл. Вышэйшаю навучальнаю ўстановаю з гуманітарным ухілам была і Віленская катэдральная каталіцкая школа, закладзеная ў 1387 годзе.

Аднак першым сапраўдным універсітэтам у Беларусі сталася Віленская езуіцкая акадэмія. Езуіты, запрошаныя ў Вялікае Княства Літоўскае віленскім біскупам Валяр'янам Пратасевічам у 1569 годзе, праз год адчынілі ў Вільні — старадаўнім цэнтры беларускае культуры і дзяржаўнасці — свой калегіум, які ў 1579 годзе прывілеем вялікага князя Сцяпана Батуры быў ператвораны ў акадэмію з усімі правамі еўрапейскага ўніверсітэта.

Кантынгент студэнтаў Віленскае акадэміі складаўся пераважна з беларусаў. Выхадцамі з беларускіх земляў былі і большасць з выкладчыкаў. Там вучыліся або выкладалі выдатныя дзеячы навукі і культуры: прапаведнік і красамоўца Пётра Скарга, паэт і тэарэтык літаратуры, «хрысціянскі Гарацый» Мацей Казімір Сарбеўскі, гісторык Альберт Віюк Каяловіч, педагог Арон Аляксандр Алізароўскі, лексікограф Рыгор Кнапскі, матэматык Освальд Кругер, філасаф Марцін Сміглецкі, выдатны класічны паэт Міхал Карыцкі, архітэктар Лаўрын Гуцэвіч, гонар беларускае барочнае паэзіі Сымон Полацкі ды інш. У розны час вучнямі акадэміі былі дзеці беларускіх магнатаў ды знанае шляхты: Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Завішаў, Валовічаў...



***Віленскі ўніверсітэт — першая вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі. Гравюра XIX стагоддзя***

Да сярэдзіны XVII стагоддзя ў езуіцкіх навучальных установах (як, дарэчы, і ў іншых каталіцкіх, вуніяцкіх, праваслаўных і пратэстанцкіх) мовамі навучання былі беларуская і лацінская. Але па меры паланізацыі шляхты з другое паловы XVII стагоддзя адбываўся пераход на польскую мову.

Апрача акадэміі да сярэдзіны XVIII стагоддзя на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі не менш як 16 толькі езуіцкіх школаў гуманітарнага профілю, з іх 9 вышэйшых — у Полацку, Пінску, Нясвіжы, Горадні,



***Будынак Полацкай акадэміі — выйэйшай ліквідаванай царскімі ўладамі ў 1820 годзе***

Амсціславе, Новагародку, Воршы, Віцебску, Берасці — ды 7 поўных сярэдніх — у Менску, Магілеве, Слоніме, Слуцку, Жодзішках, Бабруйску, Мерачы. Прычым вышэйшыя калегіумы адрозніваліся ад акадэміі (універсітэту) не ўзроўнем адукацыі, а толькі адсутнасцю некаторых правоў, напрыклад, не былі аўтаномныя, не вызваляліся ад падаткаў, не маглі надаваць вучоныя ступеняў.

На Беларусі, апроч таго, існавалі шматлікія праваслаўныя (як, напрыклад, вышэйшая Брацкая школа ў Вільні), вуніяцкія, пратэстанцкія навучальныя ўстановы, а таксама школы іншых каталіцкіх ордэнаў — піярскія, дамініканскія, бернардынскія.

У 1812 годзе ў акадэмію з правамі ўніверсітэта быў ператвораны вышэйшы езуіцкі калегіум у Полацку (заснаваны ў 1580 годзе). Полацкая акадэмія праіснавала да 1820 года і была зачыненая царскім урадам як «неблаганадёжная».. Следам за ёю быў зліквідаваны Віленскі ўніверсітэт (у 1832 г.) і іншыя даўнія гуманітарныя ўстановы. У Беларусі не засталося ніводнае вышэйшае школы. Замест пазачыняных навучальных асяродкаў пачалі стварацца расейскія «народные училища» ды іншыя русіфікатарскія ўстановы з даволі нізкім узроўнем навучання. Дэструкцыя адукацыйнае сістэмы ішла поруч са спыненнем дзеяння Статута і дэмакратычных інстытутаў, заменай адміністрацыі, фальшаваннем гісторыі краю. Беларусь такім чынам ператваралася ў задворкі Расейскае імперыі.

# 51. Ці быў «залаты век» у гісторыі Беларускай дзяржавы?




*Тытульны аркуш "Бібліі Францішка Скарыны — першай друкаванай кнігі на беларускай мове (Прага, 1517)*

Уздымны, апагейны перыяд развіцця нашае дзяржавы і культуры прыпаў на XV—XVI стагоддзі. Першадаследчыкі залатога веку, перадусім Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Максім Гарэцкі, звязвалі яго з найбуйнейшым росквітам «ашае старадаўняе культуры, найперш з дзейнасцю Францішка Скарыны, яго выданнем кніг у Празе (1517—1519) і ў Вільні. Сучасныя ж даследчыкі ў актыў плёну прыгожага пісьменства нашага залатога веку залічваюць багатую спадчыну не толькі на старабеларускай і царкоўна-славянскай мовах, але й на лаціне — мове ўсёй сярэднявечнай Еўропы. Пры гэтым маюцца на увазе такія выдатныя творы, як «Пруская вайна» (1516) Яна Вісліцкага і «Песня пра зубра» (1519) Міколы Гусоўскага.

Залатая пара нашае культуры была знітаваная не толькі з Рэнесансам, але й з Рэфармацыяй, дзейнасцю такіх слынных асобаў, як Мікалай Радзівіл Чорны, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі.



*Дабравешчанская царква ў Супраслі — выдатны ўзор беларускага дойлідства XУІ стагоддзя.*

У XVI стагоддзі на Беларусі ўзнікла мноства навучальных установаў. У Вільні, Нясвіжы, Берасці, Лоску, Любчы, Цяпіне ды Венграве паўсталі друкарні, вакол якіх утвараліся цэлыя літаратурныя школы. Прадукцыя нашых друкароў карысталася шырокім попытам не толькі ў Вялікім Княстве, але і ў краінах Заходняй Еўропы.

Значнымі былі дасягненні нашых продкаў у навуцы. Асабліва развіваліся лінгвістыка, гісторыя, геаграфія, астраномія, матэматыка і медыцына. А юрыдычная думка Беларусі ў XVI стагоддзі, як вядома, дасягнула найвышэйшага ў Еўропе ўзроўню. Ніводная з тагачасных краінаў не мела гэткага дасканалага заканадаўства, як Беларусь, аб чым красамоўна сведчыць змест Статутаў 1529, 1566 і 1588 гадоў.

Эпоха Адраджэння на Беларусі пазначана небывалым уздымам мастацтва. У нас у тым часе ўзніклі першыя прафесійныя тэатры, развіваецца музычнае мастацтва, з'яўляецца свецкі партрэтны жывапіс — прыкмета высокага ўзроўню развіцця мастацкай творчасці. У XVI стагоддзі ўдасканальваецца іканапіс, скульптура, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, гравёрнае майстэрства.

У залатую пару нашае дзяржавы надзвычай хуткімі тэмпамі развіваецца горадабудаўніцтва і дойлідства. Менавіта тады былі пабудаваныя жамчужыны нашае архітэктуры: Траецкі касцёл у Ішкалдзі, Святадухаўская царква ў Кодзені, Барысаглебская царква ў Навагародку, фарны касцёл у Горадні, касцёлы Святой Ганны і бернардынцаў у Вільні, шэдэўры сусветнага дойлідства цытадэлі-бажніцы ў Супраслі, Мураванцы, Сынковічах, рэфармацкія зборы ў Смаргоні, Заслаўі, Асташыне, абарончыя сістэмы замкаў у Міры, Нясвіжы, Навагародку...

У эпоху Адраджэння ў Беларусі адбывалася далейшае развіццё металургічнай і цагельнай вытворчасці, шматлікіх рамёстваў. Узнікла новая, больш дасканалая арганізацыя працы, утварыліся рамесніцкія цэхі, дзе існаваў прынцып спецыялізацыі і падзелу працы.

Такім чынам, залаты век у гісторыі беларусаў быў. І быў ён залаты найперш багаццем творчага плёну, яго шматграннасцю, абсягам, пафаснасцю ўсяго створанага, светлай ідэяй Асветніцтва, высокім патрыятызмам, чалавекалюбствам; быў і застаўся залатым сваёй векапомнасцю, аграмаднасцю традыцый, грунтоўнасцю зацвярджання беларусаў у свеце.

# 52. Чым славуты Ян Кароль Хадкевіч?

Як Кароль Хадкевіч (1560—1621) быў адным з самых славутых гетманаў Вялікага Княства Літоўскага. Вайсковую чыннасць пачаў удзелам у задушэнні бунту Налівайкі (1596), які з аддзелам казакаў рабаваў гарады на Беларусі. Ад пачатку вайны са шведамі змагаўся ў Інфлянтах, дзе утрымліваў войска на ўласны кошт. У 1601 годзе. разграміў шведаў пад Какенгаўзэнам, у 1604 — пад Белым Каменем, дзе з 2 тысячамі жаўнераў разбіў 7 тысяч непрыяцеля.

Найвялікшую ж славу Хадкевічу прынесла бітва пад Кірхгольмам (цяпер Саласпілс у Латвіі), дзе ягоны 4-тысячны корпус 27 верасня 1605 года дазвання разграміў 14-тысячную шведскую армію, страціўшы ўсяго блізу 100 сваіх жаўнераў. З гэтым вялікапышным трыумфам віншавалі гетмана еўрапейскія манархі і сам папа Павел V. Па якім часе пра бітву пад Кірхгольмам пісалі, што нашчадкі будуць хутчэй дзівіцца гэтаму трыумфу, чым верыць у яго.

У 1611 годзе ён ужо вёў харугвы на Маскву ў падмогу абложаным там сілам Вялікага Княства Літоўскага. У 1617—1618 гадах быў фактычным кіраўніком апошняга маскоўскага паходу. Прызначаны начальнікам войска Вялікага Княства і Польшчы, у 1621 годзе пад Хоцінам мусіў з 70 тысячамі процістаяць утрая большай ардзе туркаў ды татараў — і здабыў бліскучую перамогу. Слаўны



***Ян Кароль Хадкевіч. Партрэт XVII стагоддзя***

сын быхаўскай галіны роду Хадкевічаў па смерці стаў узорам самаахвярнасці і патрыятызму.

Пра вялікую папулярнасць яго ў народзе, мабыць, найкрасамоўней сведчыць тое, што дзеці тады гулялі ў ваенныя гульні, героем якіх быў Ян Хадкевіч.

# 53. Чым вызначыўся Януш Радзівіл?

Найвышэйшы гетман і віленскі ваявода Януш Радзівіл (1612—1655) меў надзвычайны вайсковы талент і быў гарачым прыхільнікам незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ ў маладосці ў Вільні ў прысутнасці манарха кінуў польскім сенатарам: «Прыйдзе час,— паны-палякі да дзвярэй не патрапяць: праз вокны іх выкідваць будзем». Ужо ў 1 649 годзе ён стаў шукаць кантакту са Швецыяй у мэтах умацавання пазіцый Вялікага Княства. Яшчэ будучы палявым гетманам, князь Януш паспяхова правёў свае першыя кампаніі супраць казацкіх аддзелаў, якія засыляліся Багданам Хмяльніцкім на Беларусь. У 1649 годзе пад Лоевам ён разграміў 15-тысячнае казацкае злучэнне палкоўніка Крычэўскага, праз два гады паканаў войска Нябабы ды заняў Кіеў. Між тым украінскія казакі тады былі магутнай вайсковай сілай. Нездарма ж яны шматкроць дазвання разбівалі польскую армію.

З пачаткам маскоўскай агрэсіі ў 1654 годзе на Янушу як найвышэйшым гетмане трымалася абарона ўсёй краіны. Маючы толькі 10 тысяч жаўнераў, ён мусіў стрымліваць наступ ледзь не 100-тысячнай арміі Маскоўскай дзяржавы. Першую вялікую бітву з ворагам у жніўні пад Шкловам выйграў, але па якім часе аточаны пад Шапялевічамі пацярпеў паразу — першую паразу ў сваім жыцці. Страціўшы надзею абараніць дзяржаву, у кастрычніку 1655 года Януш Радзівіл у Кейданах падпісаў пагадненне са Швецыяй, разлічваючы такім шляхам надалей бараніць нашу Бацькаўшчыну ад польскай экспансіі і агрэсіі з боку Масквы. Але давесці да канца распачатую справу яму не ўдалося, бо неўзабаве ён памёр (паводле некаторых звестак, быў атручаны).



***Януш Радзівіл. Гравюра XVII стагоддзя***

# 54. Якая мова была сродкам дыпламатычных дачыненняў ва Усходняй Еўропе даўней?

Як і ва ўсёй Еўропе, на Беларусі дзеля дыпламатычнага ліставання з іншымі дзяржавамі карысталіся лацінскаю мовай. Аднак у дачыненнях з суседнімі краінамі гэтую ролю выконвала беларуская мова.

У самім Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова была не толькі моваю асноўнага народа гэтае дзяржавы, не голькі дзяржаўнаю моваю, але й моваю міжэтнічных дачыненняў. Ёю сумовіліся летувісы (жамойты), габраі, татары, расейцы-стараверы, цыганы.

У часы Сярэднявечча, напрыклад, Малдова і Валахія (сучасная Румынія) у дзяржаўнай дыпламатычнай перапісцы карысталіся афіцыйнаю моваю Вялікага Княства Літоўскага, г.зн. беларускаю (дарэчы, іхныя манархі, як і нашыя, называліся гаспадарамі). Ведалі беларускую і карысталіся ёю людзі з маскоўскага Пасольскага прыказа, службоўцы канцылярыі нямецкага вялікага магістра з Рыгі. Пасля таго, як каралём Польшчы стаў беларускі князь Ягайла, у значнай ступені беларускамоўным зрабіўся кракаўскі каралеўскі двор Польшчы. Польская і расейская сталіцы вялі перапіску між сабой па-беларуску. Калі ў 1646 годзе польскія дыпламаты скіравалі маскоўскім ліст па-польску, тыя рашуча запатрабавалі пісаць, як «издавна повелось», па-беларуску. Такім чынам, беларуская мова была моваю міждзяржаўных дачыненняў, міжнароднаю моваю.

# 55. Хто вынайшаў шматступеневую ракету?




***Тытульны аркуш кнігі Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі» ў перакладзе на французскую мову (Амстэрдам, 1651)***

У 1650 годзе ў сталіцы Нідэрландаў Амстэрдаме, славутым асяродку рамёстваў, гандлю і кнігадрукавання, пабачыла свет кніга «Вялікае мастацтва артылерыі». Напісаў яе на лаціне — мове тагачаснай навукі — наш суайчыннік (як ён называў сябе, «шляхціч-ліцьвін з Вялікага Княства Літоўскага») Казімір Семяновіч. Нарадзіўся ён на Віцебшчыне ў пачатку XVII стагоддзя.

Кнігу К. Семяновіча з вялікай зацікаўленасцю і ўвагай сустрэлі ў Еўропе. На працягу больш як паўтара стагоддзя яна была найбольш грунтоўнай і аўтарытэтнай працай па артылерыі і піратэхніцы, перавыдавалася на французскай, нямецкай, ангельскай ды іншых еўрапейскіх мовах. У прадмове да ангельскага выдання 1729 года ёсць красамоўнае сведчанне: «Аўтарытэт К. Семяновіча быў і да сённяшняга дня застаецца для ракетчыкаў і феерверкераў нечым святым».

У адрозненне ад піратэхнікаў-рамеснікаў свайго часу К. Семяновіч быў сапраўдным піратэхнікам-вучоным, у сваёй працы абапіраўся на апошнія, найноўшыя дасягненні тагачаснай навукі, на вынікі ўласных эксперыментаў. Ён зрабіў шэраг цікавых перспектыўных вынаходак. Гэта і стабілізатар тыпу «дэльта», і арыгінальныя канструкцыі ракет у тым ліку і шматступеневай.

Такім чынам, даўняя спрэчка пра тое, хто вынайшаў шматступеневую с раакету — расейскі вучоны К. Цыялкоўскі, бельгійскі інжынер Р. Бінг ці амерыканскі вучоны Р. Годард, — развязваецца для многіх нечакана: канструкцыю такой ракеты больш чым за 250 гадоў да іх апісаў у сваёй кнізе беларускі вучоны Каз мір Семяновіч, паклаўшы гэтым важкую цагліну ў падмурак будучага ракетабудавамня.

Дарэчы, варта адзначыць, што К. Семяновічу, прафесійнаму вайскоўцу, быў уласцівы гуманістычны светапогляд: войны ён лічыў найвялікшым няшчасцем для чалавецтва.

Пакінуў ён гэты свет, напэўна, неўзабаве пасля выхаду французскага выдання сваёй кнігі ў 1651 годзе. Што сталася прычынаю смерці, невядома. Ці памёр ён ад якой хваробы, ці загінуў пад час доследаў з выбуховымі рэчывамі — пэўна сказаць немагчыма.



***Малюнак з кнігі «Вялікае мастацтва артылерыі» з выяваю канструкцыі шматступеневай ракеты***

# 56. Што рабілі беларусы ў Маскве ў XVII стагоддзі?

Уплыў беларусаў на духоўную і матэрыяльную культуру Маскоўшчыны быў адчувальны ўжо з часоў Сярэднявечча. У XVII стагоддзі ён стаў вызначальным і абымаў літаральна ўсе сферы жыцця.

Перасяленні беларусаў на Маскоўшчыну ў XVII стагоддзі адбываліся з розных прычынаў: у 30—40-х гадах шмат нашых суайчыннікаў змушаныя былі выехаць туды ў выніку наступу паланізацыі, а пад час вайны 1654—1667 гадоў іх у вялікай колькасці (блізу 300 тысяч) забралі ў палон.

Беларусы жылі ў Маскве ў розных месцах. У 1672 годзе яны засялілі гэтак званую Мяшчанскую (Новамяшчанскую) слабаду. Да прыкладу, у 1685 годзе тут жыло 612 сем'яў, што выехалі з розных куткоў Беларусі. Шмат беларусаў жыло па-за межамі Мяшчанскай слабады. Так, у Новадзявочым манастыры знаходзілася блізу 300 беларускіх манашак, што перасяліліся сюды з Куцеінскага манастыра. Наогул, паводле падлікаў вучоных, у другой палове XVII стагоддзя беларусы складалі каля 20 працэнтаў насельніцтва Масквы.

Надзвычай важкім быў уклад беларусаў у развіццё маскоўскага дойлідства, яскравым пацверджаннем чаго з'яўляецца пабудаваны нашымі продкамі шэдэўр архітэктуры — Каломенскі палац.




***Царскі палац у Каломенскім пад Масквою, пабудаваны і аздоблены беларускімі майстрамі ў 1667—1668 гадах***

Менавіта беларусы прынеслі ў Маскву аб'ёмную, ажурную, высокарэльефную рэзь. Разная драўляная паверхня, выкананая ў стылі барока, пакрывалася сусальным золатам па спецыяльным грунце і старанна паліравалася. Сярод унікальных твораў беларускай рэзі ў Маскве можна назваць іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра — помнік культуры сусветнага значэння. Кіравалі гэтымі работамі Клім Міхайлаў, Герасім Акулаў, Восіп Андрэеў, Андрэй Фёдараў, Яўсей Сямёнаў.

Прыкметную ролю ў развіцці рамяства ў Маскве адыгралі беларускія кафляры, якія прынеслі сюды сакрэт вырабу рэльефнай шматколернай кафлі. Найбольш славутымі кафлярамі былі вучні беларускага майстра Пятра Заборскага з Вільні — выхадзец з Копысі Ігнат Максімаў і мсціславецСцяпан Іванаў. Гэтыя майстры разам зрабілі кафляныя фрызы царквы Рыгора Неакесарыйскага ў Маскве, а потым паліхромную кафлю для фасадаў Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве. Сцяпан Іванаў (па мянушцы Палубес) стварыў унікальныя маёлікавыя рэльефы Апосталаў для барабана царквы Успення ў Ганчарах (1691 год). Зараз некаторыя яго творы можна пабачыць у музеі народнага мастацтва ў Каломенскім.

Беларускія майстры працягвалі традыцыі гарматніцкай справы, закладзеныя яшчэ Андрэем Чохавым (Чэхавым), таксама беларусам з паходжання, які ў 1586 годзе адліў славутую «Цар-гармату». У Маскве ў XVII стагоддзі асабліва цаніліся беларускія збраёўнікі, якія выраблялі халодную і агнястрэльную зброю; яны працавалі ў складзе Збраёвай (Аружэйнай) палаты.

Сярод беларусаў-ювеліраў вылучаліся спецыялісты па апрацоўцы срэбра, якія выраблялі разнастайны багата аздоблены посуд і царкоўнае начынне.

Менавіта дзякуючы нашым таленавітым продкам высокага ўзроўню ў Маскве дасягнула майстэрства апрацоўкі косці. Асаблівымі здольнасцямі ў гэтай галіне вылучаліся былыя віцебскія майстры, якія выраблялі дзівосныя па прыгажосці шахматныя фігуркі са слановай косці, а таксама шахматныя дошкі і столікі.

Стваральная праца беларусаў у Маскве ў XVII стагоддзі не абмяжоўвалася толькі сферай матэрыяльнай культуры. Вельмі плённым было ўздзеянне нашых продкаў на духоўнае жыццё Масковіі. Дастаткова прыгадаць імя Епіфана Славінецкага, які быў адной з ключавых асобаў у часе вядомых царкоўных рэформаў Нікана. Ён пераклаў і выдаў шматлікія творы айцоў царквы, склаў грэцка-славянска-расійскі лексікон. Дзякуючы ягонаму перакладу твора заснавальніка навуковай анатоміі А. Везалія «Пра будову чалавечага цела» маскоўскія медыкі далучыліся да вяршыняў анатамічнай навукі Заходняй Еўропы.

Выключнае месца ў маскоўскай культуры заняў Сымон Полацкі — вядомы асветнік, таленавіты паэт, непаўторны драматург, унікальны багаслоў, тонкі перакладчык і выдатны педагог. Яму належыць гонар укладальніка і аўтара першага Статута Маскоўскай акадэміі. Пад яго кіраўніцтвам доўгі час дзейнічала маскоўская друкарня. Ён жа, дарэчы,

быў і незаменным выхавальнікам царскіх дзяцей, аддаваў шмат увагі ўзгадаванню Пятра І — будучага цара-рэфарматара.

Акрамятаго, беларусы заклалі асновы расейскага тэатра. Яны былі акторамі тэатральнай трупы пры двары Аляксея Міхайлавіча. Нават касцюмы для тэатра рыхтавалі ў асноўным беларускія краўцы і шаўцы. Вельмі шмат беларусаў было і сярод царкоўных спевакоў ды вайсковых музыкаў; яны зрабілі моцны ўплыў на развіццё расейскага музычнага мастацтва.

# 57. Хто стварыў літары, якімі мы сёння карыстаемся ?

Беларусы карысталіся і карыстаюцца двума альфабэтамі — кірыліцай ды лацінкай. Акрамя таго, беларускія татары, што жывуць на гэтай зямлі ўжо 600 гадоў, свае кнігі пісалі па-беларуску арабскімі літарамі.

Асабліва вялікі ўклад зрабілі беларусы ў развіццё кірыліцы. Гэтую азбуку, створаную ў 863 годзе хрысціянскімі прапаведнікамі Кірылам і Мяфодам для тагачаснай мовы паўднёвых славянаў, удасканалілі і спрасцілі беларускія перапісчыкі. Яны адкінулі лішнія і стварылі новыя літары, якіх не было ў пачатковай кірыліцы: **э**, **й**, а таксама адмысловую літару **ґ** (ґанак, мазґі).

Францішак Скарына стварыў прыгожы друкарскі шрыфт, а канчаткова наблізіў формы літараў да сучасных Галляш Капіевіч (родам з Амсціслава), выпускнік Слуцкае гімназіі, кнігавыдавец і перакладчык. У 1700 годзе ў Амстэрдаме ён заснаваў друкарню і стварыў акругленыя, падобныя да лацінскіх, літары кірыліцы для тытульных аркушаў кніг. Шрыфты Капіевіча ўпадабаў расейскі цар Пётр І, які тады быў у Нідэрляндах, і замовіў майстру літары для кніг.

Новы шрыфт на аснове Капіевічавых літараў Пётр І зацвердзіў у 1708 годзе. Так адбылася рэформа расейскай азбукі — увядзенне **грамадзянскіх**, г. зн. нецаркоўных літараў. Новыя літары яшчэ доўга звалі «амстердамские литеры» ці «белорусская азбука». Менавіта гэтымі літарамі цяпер карыстаюцца беларусы, расейцы, украінцы, македонцы, баўгары, сэрбы ды іншыя народы, што ўжываюць кірыліцу. Мовазнавец Ян Станкевіч назваў гэты шрыфт капіеўкаю.

# 58. Што такое «лібэрум вета»?

Лібэрум вета (у перакладзе з лаціны азначае «свабода забароны») — гэта права кожнага пасла (дэпутата) сумеснага Сойму Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага выказаць нязгоду з той ці іншай пастановай, і гэтага было дастаткова, каб адхіліць яе, нават калі ўсе астатнія дэпутаты прагаласавалі «за». Такім чынам аднаму дэпутату дазвалялася сарваць работу ўсяго Сойму.

Упершыню такое здарылася ў 1652 годзе, і з таго часу да 1764 года (калі былі ўведзеныя частковыя абмежаванні правоў шляхты) з 55 соймаў было сарвана 48. Шляхта лічыла «лібэрум вета» адным з галоўных сваіх набыткаў. Але на справе яно ў значнай ступені спрычынялася да праяваў палітычнай анархіі, прыкметна паралізавала дзяржаўную ўладу. Гэтым часта карысталіся суседнія дзяржавы (Расея, Аўстрыя, Прусія), зацікаўленыя ў аслабленні нашага гаспадарства.

Лібэрум вета канчаткова было зліквідаванае Канстытуцыяй 3 траўня 1791 года.

# 59. Якія былі прычыны заняпаду Вялікага Княства Літоўскага?

Падзеі, што прывялі да глыбокага заняпаду Вялікага Княства Літоўскага, пачаліся ў сярэдзіне XVII стагоддзя. У 1654 годзе Маскоўская дзяржава, ажыццяўляючы свае даўнія планы захопу Беларусі, распачала пад сцягам абароны адзінаверцаў чарговую вайну. За 1 3 гадоў гэтай страшэннай вайны ў выніку баявых дзеянняў і акупацыйнай палітыкі маскоўскіх уладаў (дзікія спусташэнні, гвалт, масавы вывад людзей у няволю) краіна была ўвергнутая ў катастрафічны стан.

Бадай, ніводны народ Еўропы не перажываў гэтакага дэмаграфічнага рэгрэсу, як беларусы: з 2,9 мільёна даваеннага жыхарства ацалела толькі каля 1 мільёна 400 тысяч. Ва ўсходніх і паўночных паветах Беларусі не засталося і трэці насельніцтва.

Гаспадарка краіны апынулася ў жудасным стане, а для аднаўлення яе не ставала ні людзей, ні сродкаў. Пусткаю ляжала палова ранейшага ворыва. На Віцебшчыне ды Амсціслаўшчыне закінутымі былі ледзь не ўсе землі.

Зруйнаваная Беларусь не паспела акрыяць, як зноўку, на самым пачатку XVIII стагоддзя, стала пабаявішчам чарговай вайны, цяпер ужо Расеі са Швецыяй. Паўночная вайна 1700 — 1721 гадоў забрала яшчэ блізу 800 тысяч жыццяў беларусаў. І зноў пуставал ворыўныя землі, стаялі разбураныя бязлюдныя гарады, дзічэлі і зарасталі песам вёскі. Вытворчыя сілы нашае краіны былі такім чынам зведзеныя на нішто.

У тым становішчы глыбокі заняпад ахапіў усе сферы жыцця. Абвастрыліся міжканфесійныя канфлікты. Да таго ж наша праваслаўная царква дыскрэдытавала сябе супрацоўніцтвам з акупантамі. З другога боку, узмацняліся працэсы апалячвання, якія ішлі праз наш каталіцкі касцёп, што падпаў да таго часу пад моцныя польскія ўплывы і быў фактычна паланізаваны.

Акрамя таго, унутраны разладу краіне паглыбляўся ў выніку абсалютызацыі «шляхецкіх вопьнасцяў», якія жывілі палітычную анархію. Замест таго каб ратаваць знясіленую дзяржаву, магнаты і шляхта зрывапі. Соймы, стварапі палітычныя групоўкі ды ваявалі паміж сабою.

Усё гэта і спрычынілася да заняпаду, а пазней і страты нашае дзяржаўнасці.



***Спусташэнне краю пад час вайны ў другой паловеXVII стагоддзя. З тагачаснай гравюры.***

# *60. Якая роля ў нашай гісторыі належыць Пятру І?*

На пачатку XVIII стагоддзя, у часы Паўночнай вайны, Беларусь зноў, у каторы ўжо раз, зрабілася тэатрам ваенных дзеянняў. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі, немец з паходжання Аўгуст II дзеля сваіх дынастычных інтарэсаў стаў у гэтай вайне, якую Расея вяла са Швецыяй, хаўруснікам Пятра І. Частка ж беларускіх магнатаў незалежніцкага кірунку на чале з Сапегамі падтрымала шведскага караля Карла XII і дапамагала яму войскам і грашыма.

Пётр І паслаў у Беларусь 70-тысячнае войска. Каб пазбавіць шведаў правіянту і фуражу, расейцы выпальвалі беларускія вёскі і рабавалі гарады. Яны паводзілі сябе на нашай зямлі не як саюзнікі, а як сапраўдныя захопнікі.

У чэрвені 1705 года расейскі імператар прыехаў у Полацак. У кафедральным Сафійскім саборы ён з Меншыкавым ды іншымі прыдворнымі ўласнаручна ўчыніў нечуванае злачынства: тут былі закатаваныя і забітыя пяцёра вуніяцкіх святароў і манахаў. Найстаражытнейшы беларускі храм Святой Сафіі цар зрабіў парахавым сховішчам. Напярэдадні адыходу расейцаў з горада, 1 траўня 1710 года, порах узарвалі, і саборператварыўся ў руіны.

Расейскія войскі вызначыліся жорсткасцю ды рабункамі і ў іншых беларускіх гарадах. Чорныя ўспаміны засталіся ад «саюзнікаў» у Магіпеве. Горад, які лічыўся тады адным з найпрыгажэйшых гарадоў Еўропы, быў зрабаваны і выпалены дашчэнту. На загад Пятра І казакі спалілі і Віцебск. Згарэлі замкі, ратуша, крамы, 4 касцёлы, 12 цэркваў. Менавіта Пётр І загадаў знішчыць замак у Смалянах пад

Воршай, руіны якога і сёння нагадваюць нам пра тое злачынства. У Менску царская кавалерыя разам з казакамі і калмыкамі абчысціла вуніяцкі кляштар Святой Тройцы, Святадухаўскую царкву на Высокім рынку ды іншыя вуніяцкія і праваслаўныя манастыры і храмы. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала месцічаў да зброі, і на Нямізе нашы продкі далі адпор расейскім зладзеям.

Падзеі Паўночнай вайны, Гаспадаранне на нашай зямлі расейцаў, звязаныя з гэтым эпідэміі і голад сталіся сапраўдным няшчасцем для Беларусі. За тыя гады беларускі народ паменшаў амаль на трацінy — блізу на 800 тысяч чалавек.



***Руіны замка ў Смалянах. Малюнак XIX стагоддзя***

Пад час царавання Пятра І нібыта дзеля абароны рэлігійных правоў насельніцтва пачалося актыўнае ўмяшанне Расеі ва ўнутраныя справы Вялікага Княства. З 1717 года Пётр І фактычна кантраляваў колькасны склад нашага войска. Ён дамогся па сутнасці і падпарадкавання праваслаўнай царквы Беларусі маскоўскай патрыярхіі.

Такім чынам, як сведчаць факты, роля Пятра І у беларускай гісторы бясспрэчна адмоўная, бо ён доўгі час бязлітасна рабаваў нашыя землі і шмат у чым спрычыніўся да заняпаду беларускае дзяржаўнасці.

# *61. Як беларусы страцілі сваю дзяржаўнасць ?*

Беларускае гаспадарства было зліквідавана ў канцы XVIII стагоддзя. Да гэтага спрычыніліся нашы як заходнія, гэтак і ўсходнія суседзі.

Увесну 1791 года ў часе Вальнага Сойму польскія магнаты і апалячаная беларуская шляхта, імкнучыся ўмацаваць Польшчу, над якой навісла пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расеі, заявілі пра неабходнасць увядзення спадчыннай манархіі і зліквідавання адметных дзяржаўных структураў Вялікага Княства. Так здзейснілася шматвяковая мара нашых заходніх суседзяў. Беларускае гаспадарства з гэтага моманту дэ юрэ ўвайшло ў склад Польшчы. Праўда, ненадоўга. У траўні 1792 года расейская армія пад камандаваннем Крачэтнікава захапіла Вільню і ўсталявала кантроль над нашымі землямі. А ў 1793 годзе Расейская імперыя анексавала цэнтральную частку Беларусі (усходнія землі былі захопленыя яшчэ раней — у 1772 годзе).

Часовае аднаўленне беларускай дзяржаўнасці адбылося ў 1794 годзе ў перыяд супрацьрасейскага паўстання пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага. Але створаная тады Найвышэйшая Літоўская

Рада, якой належалі ўсе паўнамоцтвы, праіснавала толькі некалькі месяцаў: паўстанне было жорстка задушана.

У 1795 годзе, калі Расея дарэшты захапіла Беларусь, распараджэннем Кацярыны ІІ нашыя землі ўвайшлі ў тры створаныя тады адміністрацыйныя адзінкі — генерал-губернатарствы: Беларускае (Полацкая і Магілеўская губерні), Літоўскае (Слонімская і Віленская губерні ды дзве вобласці — Ковенская і Гарадзенская) і Падольскае (Менская, Валынская і Падольская губерні).

Спробы аднавіць Вялікае Княства Літоўскае былі ў 1811 і ў 1812 гадах. Хоць гэтыя праекты і не мелі прыкметных гістарычных вынікаў, аднак яны з'яўляюцца красамоўным сведчаннем геапалітычнай неабходнасці існавання адметнай дзяржавы ў геаграфічным цэнтры Еўропы.

Такім чынам, аніякага «ўз'яднання» Беларусі з Расеяй, як гэта тэндэнцыйна сцвярджалася ў савецкай гістарычнай літаратуры, не было. Меў месца гвалтоўны захоп, у выніку якога тэрыторыя Беларусі была далучаная да Расеі і наш народ на дзвесце гадоў трапіў у маскоўскую няволю.

# 62. Калі пасяліліся на Беларусі расейцы?

У Маскоўскай дзяржаве спрадвеку панавалі парадкі, пры якіх не дазвалялася аніякага рэлігійнага або іншага вальнадумства, а чалавечае жыццё зусім не мела каштоўнасці. Нават самыя знакамітыя баяры мусілі называць сябе «холопами государевыми».

Вялікае Княства Літоўскае ў адрозненне ад усходняга суседа было краінай верацярпімаю. Хоць часам сутычкі паміж вернікамі розных канфесій і здараліся, але на працягу стагоддзяў у нашай дзяржаве мірна жылі побач праваслаўныя і каталікі, вуніяты і юдзеі, пратэстанты і мусульмане. Шляхта, што складала ў нас блізу 15 працэнтаў жыхарства, мела шырокія грамадзянскія правы. Статут 1588 года, паводле якога жыла нашая Бацькаўшчына, быў дэмакратычным у адрозненне ад расейскіх законаў.

Нядзіва, што з канца XV стагоддзя жыхары Масковіі пачалі перасяляцца на беларускія землі. Сюды ўцякалі ад праследу апальныя князі і вальнадумцы. Пад Віцебскам жыў, напрыклад, вядомы расейскі прапаведнік Фядосій Касой. Ад цара Івана Жахлівага ўцёк у Вялікае Княства князь Андрэй Курбскі.

З другой паловы XVII стагоддзя ў Беларусь ад здзекаў і ўціску перасяляюцца дзесяткі тысяч расейскіх стараабрадцаў. Каб вярнуць уцекачоў, расейскі ўрад наладжваў карныя экспедыцыі. Вядома, што ў 1735 годзе царскі палкоўнік Сыцін напаў на памежны беларускі горад Ветку, дзе сяліліся старaверы, і пагнаў 14 тысяч перасяленцаў назад у Расею.

У Беларусі знаходзілі прытулак і тыя сяляне ды гараджане, што ратаваліся ад дзікага маскоўскага беззаконня і жорсткага феадальнага ўціску. Гэтак, у другой палове XVIII стагоддзя яны ўцякалі сюды сотнямі тысяч. Урад імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1754 годзе вымагаў ад уладаў Вялікага Княства вярнуць мільён (!) уцекачоў.



***Старонка рукапіснай кнігі веткаўскіх стараавераў «Святы» пачатку XIX стагоддзя***

Калі беларускія землібылі захопленыя Расеяй, перасяленне набыло зусім іншы характар. Царскія ўлады пачалі накіроўваць сюды святароў і чыноўнікаў дзеля ажыццяўлення сваёй імперскай палітыкі. Асабліва масавым такое перасяленне зрабілася пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года. Усе дзяржаўныя пасады маглі займаць толькі расейцы. Яны мелі павышаныя аклады, разнастайныя прывілеі і былі чыннымі русіфікатарамі і праваднікамі гэтай палітыкі. Істотным фактарам русіфікацыі з'яўлялася расейскае войска, шматлікія гарнізоны якога пастаянна размяшчаліся ў беларускіх гарадах і мястэчках.

Такая практыка захоўвалася і ў савецкай імперыі. Пасля другой сусветнай вайны на Беларусь абрынулася новая магутная хваля перасяленцаў з Расеі. Камуністычныя ідэолагі адводзілі ім важную ролю ў канчатковай русіфікацыі Беларусі і стварэнні «новой этнической общности» — бяспамятнага, абязмоўленага народа, з якім можна праводзіць любыя эксперыменты.

# 63. Хто такі Тадэвуш Касцюшка?

У шэрагу выдатных барацьбітоў за свабоду ганаровае месца належыць нашаму суайчынніку Андрэю Тадэвушу Банавентура Касцюшку. Чалавеку, які змагаўся за вызваленне ад чужаземнага панавання народаў Паўночнай Амерыкі і Усходняй Еўропы, рабіў незабыўнае ўражанне сваёй энергіяй, мужнасцю, адданасцю ідэі свабоды.

Нарадзіўся Касцюшка ў 1746 годзе ў сям'і беларускага шляхціча, фамільны маёнтак якога знаходзіўся ў вёсцы Сяхновічы Кобрынскага павета (цяпер у Жабінкаўскім раёне). У 1760 годзе скончыў піярскую (каталіцкую) школу, а ў 1769 годзе — Варшаўскі кадэцкі корпус. Затым 5 гадоў вучыўся ў



***Сядзіба ў Мерачоўшчыне, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка. Гравюра XIX стагоддзя***

Парыжскай ваеннай акадэміі. Па вяртанні дадому яму не знайшлося пасады ні ў войску, ні на цывільнай службе. Т. Касцюшка вымушаны быў пакінуць радзіму і падацца ў 1 776 годзе ў Паўночную Амерыку, дзе тым часам пачалася вайна за вызваленне ад ангельскага ўладарання. На працягу сямі гадоў ён змагаўся ў шэрагах амерыканскай арміі, дзе атрымаў званне генерала і быў узнагароджаны самым высокім ордэнам Злучаных Штатаў — ордэнам Цынцынаці. Перамога ў бітве пад Саратогай у 1777 годзе ў многім была заслугаю Касцюшкі.

Вярнуўшыся ў 1784 годзе на радзіму, Касцюшка доўгі час жыў у Сяхновічах. І хоць імкнуўся служыць у войску Вялікага Княства Літоўскага, яму там не знайшлося пасады, і ён змушаны быў у 1789 годзе пайсці ў польскае войска на камандзіра брыгады. Другі падзел Польшчы



*Тадэвуш Касцюшка. Гравюра XIX стагоддзя*

Вялікага Княства, умяшанне суседніх дзяржаў у іх унутраныя справы, а таксама незадаволенасць значнай часткі насельніцтва самавольствам феадалаў выклікалі абурэнне, якое ў сакавіку 1794 года перарасло ў народнае паўстанне. Кіраўніком яго быў прызначаны Тадэвуш Касцюшка.

Задачамі паўстання было не толькі змаганне з акупантамі, але і ўстанаўленне права кожнага чалавека набываць зямлю, права выбіраць і быць абраным, ліквідацыя залежнасці сялян, вольнасць і роўныя правы для ўсіх і г. д. Аднак намер зрабіць уступкі сялянам выклікаў супраціўленне шляхты, ісці на канфлікт з якой Т. Касцюшка не адважыўся. Гэта звузіла сацыяльную базу паўстання. На першым часе яно мела некаторы поспех, але пасля таго, як Расея і Прусія накіравалі вялікую колькасць войскаў, паўстанне было задушанае. 10 кастрычніка 1794 года Касцюшка, цяжка паранены ў бітве каля Мацяёвіцаў, быў узяты ў палон і зняволены ў Петрапаўлаўскай цытадэлі ў Пецярбурзе. Пасля смерці царыцы Кацярыны II Павел I вызваліў Касцюшку і дазволіў яму выехаць за мяжу. Памёр Касцюшка ў Швейцарыі ў 1817 годзе.

# 64. Які след у гісторыі Беларусі пакінуў А. Сувораў?

Нікога, акрамя Сталіна, Леніна і Берыі, не шанавапі ў БССР гэтак заўзята, як Суворава. Але калі помнікі Сталіну разбураныя, імя Берыі аддадзенае анафеме, няпюдскі твар Леніна ўжо праявіўся праз бронзавыя і гіпсавыя маскі, дык культ Суворава-героя па-ранейшаму квітнее на нашай зямлі. У 35 гарадах і 24 мястэчках Беларусі яго імем названыя вуліцы. Дзейнічае Кобрынскі музей, прысвечаны Сувораву. Менскае сувораўскае вучылішча, як і раней, прышчапляе сваім выхаванцам сувораўскія прынцыпы. «Сувораўцамі» сталі нават калгаснікі 23 калгасаў, названых ягоным імем.

За што ж былы бальшавіцкі ўрад Беларусі гэтак дзякаваў «графу Рымнікскаму, князю Італійскаму, прынцу Сардзінскаму, генералісімусу ўсіх сардзінскіх армій і генералісімусу ўсіх расійскіх войскаў»? Мабыць, за бязлітаснае задушэнне паўстання Тадэвуша Касцюшкі, за карныя аперацыі супраць паўстанцаў на Беларусі. Менавіта ж за пралітую беларускую кроў Кацярына II «пожаловала в вечное потомственное владение» Суવораву Кобрынскую воласць з 13.279 душамі сялян. На душы лічылася мужчынскае працаздольнае насельніцтва, так што не меней за 50 тысяч беларусаў атрымаў у падарунак расейскі палкаводзец за разбіты пад Крупчыцамі корпус паўстанцаў Серакоўскага. Увесь ягоны ўклад у беларускую гісторыю — кроў нашых продкаў.

Сувораў ніколі не ўдзельнічаў у вызваленчых войнах, ён быў тым палкаводцам, які старанна выконваў волю і пажаданні Кацярыны II і Паўла I у пашырэнні Сувораў дапамог здзейсніцца адвечнай мары расейскіх цароў аб захопе беларускіх земляў. Тыя з беларусаў, хто шануе Суворава, шануюць заваёўніка нашай зямлі. Афіцыйны ж удзел у кульце Суворава — сведчанне вернасці імперскаму хамуту.

Сувораў дапамог здзейсніцца адвечнай мары расейскіх цароў аб захопе беларускіх земляў. Тыя з беларусаў, хто шануе Суворава, шануюць заваёўніка нашай зямлі. Афіцыйны ж удзел у кульце Суворава — сведчанне вернасці імперскаму хамуту.

# 65. На чыім баку былі беларусы ў вайне 1812 года?

У тыя трагічныя для Беларусі паўгода, ад Купалля да Капядаў 1812 года, пакуль ішла вайна, нашы прадзеды апынуліся на абодвух — і на расейскім, і на французскім баках. У расейскае войска яны трапілі з папярэдніх рэкруцкіх набораў. Пасля канчатковай анексіі Беларусі толькі за 1796—1799 гады ў расейскае войска ўзялі 49 тысяч бепарусаў, а з 1801 да 1812 года — 130 тысяч (гэта апрача шляхты, якая папаўняла расейскі афіцэрскі корпус). Тэрмін службы рэкрутаў быў тады 25 гадоў, так што ўлетку 1812 года ў расейскіх шыхтах стаялі яшчэ рэкруты набору 1788 года, які праводзіўся на Полаччыне, Віцебшчыне, Магілеўшчыне, акупаваных Расеяй яшчэ ў 1772 годзе. Служылі беларускія рэкруты ў 3—7, 11, 12, 1 4—1 8, 21, 23 і 27-й пяхотных дывізіях. Гэтыя дывізіі ўваходзілі ў склад армій Барклая-дэ-Толі і Баграціёна і прынялі на сябе галоўны цяжар ваенных дзеянняў і Барадзінскай бітвы.

Паколькі землі былога Вялікага Княства Літоўскага Напалеон лічыў вызвапенымі з-пад расейскага прыгнёту, была ўтвораная Камісія Часовага Ураду Вяпікага Княства. Яна прысягнула на вернасць імператару, гэта значыць, што Бепарусь фармальна была абвешчаная саюзніцай Францыі. Камісія Часовага Ураду з дазволу імператара пачала ствараць уласныя узброеныя сілы, якія далучаліся да напалеонаўскай арміі. Мелася на мэце стварыць 100-тысячнае войска, але рэапьна паспелі выставіць для дзейнай арміі 5 палкоў пяхоты і 4 уланскія’ палкі. Пяхотныя палкі атрымалі нумарацыю з 18-га да 22-га, уланскія — з 17-га да 20-га. Акрамя таго, быў сфармаваны лёгка-конны полк пад камандаваннем слонімскага ўраджэнца генерала ЯнаКанопкі, да якога далучыўся эскадрон беларускіх татараў на чапе з Мустафой Ахматовічам. Да корпуса Ю. Панятоўскага далучылася беларуская артылерыйская батарэя. Асобны полк уланаў, лікам 3 тысячы шабляў, выставіў сваім коштам князь Дамінік Радзівіл. На Палессі фармаваўся 6-ты пяхотны полк. Трэба ўзгадаць яшчэ і конныя харугвы шляхты, якія сабраліся ўжо пад канец вайны, у снежні, на заклік да паспалітага рушання. Усяго на баку Напалеона былі 24 тысячы беларускіх жаўнераў — тое, што здолеў абмундзіраваць і ўзброіць Часовы Урад.



***Беларусь у вайне 1812 года. Пажар у Бешанковічах 29 ліпеня, пад час наступу французаў. Тагачасны малюнак***

Гэтак беларусы, апранутыя ў мундзіры расейскай і французскай армій, у многіх сутычках і бітвах той вайны вымушаныя былі забіваць адзін аднаго — сусед суседа, сваяк сваяка, крэўны крэўнага.

# 66. Як беларусы змагаліся супраць расейскага панавання?

Існуё думка пра нібыта адвечную санлівую пакорлівасць нашага народа. Аднак не хто-небудзь іншы, а якраз нашы продкі на працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі Расеяй тройчы браліся за зброю, каб вырвацца са смяротных абдымкаў імперыі.

Увесну 1794 года беларусы разам з палякамі і жамойтамі падняліся на паўстанне, якое ўзначаліў наш зямляк Тадэвуш Касцюшка. На беларускіх землях барацьбой кіраваў палкоўнік Якуб Ясінскі. Ён хацеў знішчыць прыгон, пісаў па-беларуску звернутыя да сялян вершаваныя праклагмацыі. Змагары спявалі «Песню беларускіх жаўнераў»:

***Помнім добра, што рабілі,***
***Як нас дзёрлі, як нас білі.***
***Докуль будзем так маўчаці?***
***Годзе нам сядзець у хацеі***
***Нашто землю нам забраліі***
***Пашто ў путы закавалі?***
***Дочкі, жонкі нам гвалцілі.***
***Трэ, каб мы ім заплацілі!***
***Коней нам пазаязджалі,***
***Што хацелі, то і бралі.***
***Пойдзем жыва да Касцюшкі,***
***Рубаць будзем маскалюшкі!***



*Паўстанцы ў сутычцы з царскімі войскамі. 1863 год*

Паўстанцы ўзялі ўладу ў Вільні, Горадні, Наваградку, Берасці, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Кобрыні, Ашмяне, Лідзе, Браславе. Але сілы былі няроўныя. Загартаваная ў захопніцкіх паходах царская армія, на чале якой стаяў А. Сувораў, задушыла паўстанне.

Барацьба з царскай уладаю, што зрабіла Беларусь калоніяй, не спынялася. Віленская студэнцкая моладзь стварыла таемнае таварыства філаматаў, моцная філія якога дзейнічала ў Полацкай піярскай вучэльні. Беларускі паэт і рэвалюцыянер Францішак Савіч у 1836 годзе арганізаваў у Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства», якое працягвала традыцыі разгромленых царызмам у 1823 годзе філаматаў.

У 1831 годзе Беларусь падтрымала антырасейскае паўстанне ў Польшчы. Найбольш чынная барацьба разгарнулася ў Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісненскім і Віленскім паветах, а таксама ў ваколіцах Белавежскай пушчы. Трохтысячны шляхецка-сялянскі аддзел заняў і колькі дзён утрымліваў горад Дзісну. Царызм задушыў паўстанне і ўзмацніў каланіяльны ўціск. Былі зачыненыя Віленскі ўніверсітэт і іншыя навучальныя ўстановы, а таксама шэраг вуніяцкіх кляштароў, бо беларускае грэка-каталіцкае духавенства падтрымлівала паўстанцаў.



*Якуб Ясінскі. Гравюра XIX стагоддзя*

Але рэпрэсіі не паставілі народ на калені. У студзені 1863 года беларусы, як і іх браты па няволі ў Жамойці і Польшчы, зноў узяліся за зброю. На Беларусі паўстаннем кіраваў Кастусь Каліноўскі. Разам са сваімі паплечнікамі ён выдаваў па-беларуску газету «Мужыцкая праўда», якая выкрывала расейскую палітыку на паняволенай зямлі і клікала народ на змаганне. ***«Падумайце добра да, памаліўшыся Богу, станьма дружна за нашу вольнасць! Нас цар ніц не падмане,— не падвядуць маскалі: няма для іх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба, для іх мы глухія і нямыя — нічога не бачылі і не чулі»,***— пісаў ён у адным з нумароў газеты пад псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні».

Напачатку паўстанцы здолелі атрымаць некалькі значных перамогаў. Аддзел начальніка Магілеўскай губерні Людвіка Звяждоўскага заняў горад Горкі. Паўстанцы авалодалі мястэчкам Свіслач і напалі на Ружаны.

Расейскім уладам удалося падмануць значную частку беларускага сялянства (асабліва на ўсходзе Беларусі), якое паверыла, што «паны змагаюцца за вяртанне прыгону», а таму не падтрымала паўстанцаў. Ва ўсходне-беларускіх губернях паўстанне было задушана ў траўні, але на захадзе асобныя невялікія аддзелы змагаліся з карнікамі да канца 1863 года.

Царызм жорстка расправіўся з барацьбітамі за свабоду Бацькаўшчыны. Пакараных ваенна-палявымі судамі і без судоў у «Паўночна-Заходнім краі» налічвалася 18,5 тысячы. 128 паўстанцаў былі расстраляныя або павешаныя, 853 пайшлі на катаргу, 11.502 — у ссылку.

Нягледзячы на рэпрэсіі, жорсткі прыгнёт і русіфікацыю, ідэя нацыянальнага вызвалення, за якую змагаліся беларусы, працягвала жыць. У 1884 годзе ў Пецярбурзе пачаў выходзіць часопіс «Гомон», які быў органам беларускай фракцыі рэвалюцыйнай арганізацыі «Народная воля». «Гоманаўцы» вялі гаворку пра існаванне беларускай нацыі і патрабавалі яе самастойнасці пасля знішчэння царызму. Заснавальнікам сваёй фракцыі яны лічылі нашага земляка шляхціча Ігната Грынявіцкага, які ў 1881 годзе, выконваючы прысуд «Народнай волі», забіў цара Аляксандра II.



*Ігнат Грынявіцкі. Здымак канца 70-х гадоў XIX стагоддзя*

# 67. Хто такі Кастусь Каліноўскі?

Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі (1838— 1864) — наш нацыянальны герой, правадыр паўстання на Беларусі ў 1863—1864 гадах.

Нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і ў вёсцы Мастаўляны (цяпер тэрыторыя Польшчы). У 1852 годзе скончыў Свіслацкую павятовую навучальню, а затым, у 1856—1860 гадах, вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Пад час навучання ўвайшоў у нелегальны гурток, дзе гартаваліся будучыя змагары за волю нашае Бацькаўшчыны. Вялікі ўплыў на станаўленне Кастуся як асобы зрабіў ягоны старэйшы брат Віктар — выдатны знаўца гісторыі Беларусі і адзін з лідэраў рэвалюцыйнай арганізацыі, які, на жаль, рана памёр, не паспеўшы здзейсніць свае планы і задумы.

З мэтаю шырокай прапаганды сваіх ідэяў К. Каліноўскі разам з паплечнікамі В. Урублеўскім і Ф. Р.ажанскім наладзіў напярэдадні паўстання выпуск першай беларускай нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда» (1862—1863 гады, выйшла 7 нумароў). Газета заклікала сялян да барацьбы за нацыянальную і сацыяльную волю, да вяртання бацькоўскае веры — вуніі, да вызвалення ад Маскоўшчыны з яе ненажэрным чынавенствам і абрыдлым рэкрутчвам.

Зямлю меркавалася перадаць сялянам без выкупу. Гэтая акалічнасць ад самага пачатку паўстання падзяліла яго кіраўнікоў на «чырвоных», прыхільнікаў радыкальных зменаў, і В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім наладзіў напярэдадні паўстання выпуск першай беларускай нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда» (1862—1863 гады, выйшла 7 нумароў). Газета заклікала сялян да барацьбы за нацыянальную



*Друкарскі варштат паўстанцаў 1863 года*



*Кастусь Каліноўскі. Здымак 1862 года*

і сацыяльную волю, да вяртання бацькоўскае веры — вуніі, да вызвалення ад Маскоўшчыны з яе ненажэрным чынавенствам і абрыдлым рэкрутчвам.

Зямлю меркавалася перадаць сялянам без выкупу. Гэтая акалічнасць ад самага пачатку паўстання падзяліла яго кіраўнікоў на «чырвоных», прыхільнікаў радыкальных зменаў, і «белых», гатовых да кампрамісу з царызмам. Кансерватыўная пазіцыя «белых», якія не хацелі ісці на ўступкі сялянам, спрычынілася да звужэння сацыяльнай базы паўстання.

З восені 1862 года Кастусь Каліноўскі ўзначаліў гэтак званы Літоўскі правінцыйны камітэт, дзе рашуча праводзіў ідэю незалежнасці нашай зямлі ад Польшчы. Увесну 1863 года ён заняў пасаду рэвалюцыйнага камісара Гарадзеншчыны, а ўлетку вярнуўся ў Вільню і ўзначаліў краёвы паўстанцкі цэнтр, які ў выніку жорсткіх карных акцыяў Мураўёва-Вешальніка быў тады моцна аслаблены. Наладжаная дзейнасць цэнтра, дзякуючы намаганням К. Каліноўскага, дала магчымасць утрымацца паўстанцкай арганізацыі да вясны 1864 года.

Уначы 10 лютага 1864 года К. Каліноўскага арыштавалі ў Вільні, у Святаянскіх мурах, дзе ен знаходзіўся на канспіратыўнай кватэры пад імем Ігната Вітажэнца. Ваенна-палявы суд прысудзіў яго да пакарання смерцю, і 22 сакавіка 1864 года Кастуся Капіноўскага публічна павесілі ў Вільні на гандлёвай плошчы Лукішкі. Перад смерцю ён здолеў пераслаць з-за турэмных кратаў «Ліст з-пад шыбеніцы» — свой духоўны запавет, у якім выказаў пэўнасць, што толькі тады «народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе».

Ёсць звесткі, што цела легендарнага «караля Літвы», як называлі яго ў народзе, было пахаванае на Замкавай гары ў Вільні.

# 68. Як здарылася, што Жамойць пачала называцца Літвою?

Жамойць (лацінская форма — Самагіція, польская — Жмудзь) — гэта гістарычная вобласць па ніжнім цячэнні Нёмана і ўзбярэжжы Балтыйскага мора, заселеная плямёнамі балтаў. У 1422 годзе, у часе княжання Вітаўта, яна была канчаткова далучаная да Вялікага Княства Літоўскага і стала яго неад'емнай часткай. З часам нашы продкі пачалі называць жамойтамі не толькі насельнікаў уласна Жамойці, але і роднасныя ім плямёны.

Умовы для замацавання за Жамойцяй назову «Літва» склаліся ў XIX стагоддзі. Дзеячы жамойцкага нацыянальнага адраджэння для забяспечання свайму руху гістарычнай асновы выкарысталі — у якасці этнічнага — найменне старадаўняй беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, а не сваю, спрадвечную, назву Жамойць (якая, дарэчы, шырока ўжывалася і ў XIX стагоддзі, але не асацыявалася з уяўленнямі пра развітую старажытную дзяржаўнасць).

Зразумела, яны прысвоілі не толькі найменне «Літва», але і заявілі пра свае выключныя правы на гістарычную і культурную спадчыну нашае старадаўняе дзяржавы і, у прыватнасці, на яе сімволіку. А паколькі ў жамойцкай мове не было нават слова для абазначэння гапоўнага дзяржаўнага сімвала Вялікага Княства, жамойцкія адраджэнцы прыдумалі яго. Зрабіў гэта гісторык С. Даўкантас у 1845 годзе, назваўшы нашую «Пагоню» наватворам «Віціс».

Тым часам нашы прадзеды аж да канца XIX стагоддзя захоўвалі саманазоў «ліцьвіны». Але, на жаль, беларускае нацыянальнае адраджэнне запазнілася, пачалося значна пазней за жамойцкае. Нашы адраджэнцы, пачынаючы з Ф. Багушэвіча, ужо не маглі карыстацца спрадвечным саманазовам «ліцьвіны» і змушаныя былі прыняць найменне, якое тады было ўжо даволі пашыранае на Смаленшчыне, Віцебшчыне, Магілеўшчыне і выкарыстоўвалася расейскім друкам,— «беларусы».

Канчаткова назва «Літва» ў форме «Летува» афіцыйна была замацаваная за Жамойцяй 16 лютага 1918 года актам аб незалежнасці, і, такім чынам, быў пастаўлены знак роўнасці паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Летувой. Усё гэта і спрычынілася да таго, што ў грамадскай свядомасці ўкаранілася думка, нібыта сучасная Рэспубліка Летува — спадкаемка Вялікага Княства Літоўскага.

# 69. Адкуль узяліся на Беларусі палякі?

Папякі на Беларусі ніколі не былі карэннымі жыхарамі. Паводле законаў нашай старадаўняй дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, усім іншаземцам (у тым ліку й папякам) забаранялася займаць нас дзяржаўныя і царкоўныя пасады, купляць зямлю. Таму ў старажытныя часы прыкметнай міграцыі палякаў на Беларусь не было.

У другой палове XVII стагоддзя дзеля розных сацыяльна-палітычных прычынаў на Беларусі пакрысе пачаўся працэс паланізацыі (г. зн. апапячвання) шпяхты і найвышэйшых станаў грамадства. Пазней, у XIX стагоддзі, хваля паланізацыі часткова закранула і сялянства, пераважна праз каталіцкі касцёл. Ксяндзы, часта наўмысна атаясамліваючы нацыянальнасць і веравызнанне, прапаведавапі заганную формулу: хто трымаецца «польскай» (каталіцкай) веры — той паляк.

У выніку гэтых працэсаў, паводле перапісу 1897 года, палякамі запісалася 12 працэнтаў насельніцтва Беларусі. Гэтаксама, згодна з дадзенымі Кракаўскага статыстычнага камітэта, у 1912 годзе сярод жыхароў Гарадзенскай губерні было 10,07 працэнтаў палякаў, а ў Віленскай яшчэ меней — 8,17 працэнтаў.

У Заходняй Беларусі ў часе яе знаходжання ў складзе Польскай дзяржавы ў 20—30-х гадах праводзілася дзяржаўная палітыка апалячвання, якая суправаджалася праследамі ўсяго беларускага. Польскія ўлады маніпулявапі

статыстычнымі дадзенымі, штучна завышаючы лік польскага насельніцтва. Не абмяжоўваючыся гэтым, яны праводзілі палітыку прамой каланізацыі, перасяліўшы блізу 300 тысяч чалавек гэтак званых асаднікаў у Заходнюю Беларусь з этнічнай Польшчы.

На тэрыторыі Усходняй Беларусі (БССР) палякі тады складалі не больш за 3 працэнты насельніцтва, або 97,5 тысячы чалавек (дадзеныя 1926 года).

Пасля далучэння Заходняй Беларусі, у 1940 годзе, у выніку сталінскіх рэпрэсіяў блізу 600 тысяч чалавек каталіцкага веравызнання (у іх ліку практычна ўсе асаднікі) быпі высланыя ў Сібір.

Пасля другой сусветнай вайны, у 40 — 50-х гадах лік польскага насельніцтва ў Беларусі яшчэ болей зменшыўся. У выніку польска-савецкіх міждзяржаўных пагадненняў каля 500 тысяч каталікоў (пераважна сялян, што ўцякалі ад калгасаў) выехала на сталае жыхарства ў Польскую Народную Рэслубліку.

Як ні парадаксальна, але і пасля гэтага ў БССР, паводле перапісу 1989 года, жыло 418 тысяч палякаў, з якіх 13,3 працэнта лічылі роднай мовай польскую. Дык адкуль жа яны ўзяліся? Мы ж ведаем, што на працягу ўсёй нашай гісторыі значнага перасялення папякаў на нашыя землі не было (за выключэннем з'явы асадніцтва, якое, аднак, не пакінула на сабе этнадэмаграфічнага следу).

Значыць, яны «прадукуюцца» тут, на Беларусі. І «прадукуе» іх, без сумнення, польскі каталіцкі касцёл. Менавіта ён сёння, як і дзвесце гадоў назад, робіць палякаў з беларусаў-каталікоў, прышчапляючы ім польскую нацыянальную свядомасць.

Усё гэта пацвярджаецца і дадзенымі антрапапогіі, вывучэннем мовы і культурных традыцыяў польскай меншасці ў нашай рэспубліцы. Яны пераканаўча сведчаць, што пераважная колькасць тых, хто лічыць тут сябе палякамі, — беларусы паводле свайго паходжання.

Такім чынам, не адмаўляючы наяўнасці на Беларусі этнічных палякаў, даводзіцца прызнаць: у абсалютнай болшасці мясцовыя палякі, як, дарэчы, і тыя, што жывуць на Віленшчыне,— гэта апалячаныя беларусы.

# 70. Хто такі Браніслаў Эпімах-Шыпіла?

Браніслава Эпімаха-Шыпілу (1859 — 1934) справядпіва называюць патрыярхам беларускага Адраджэння. Ён пераняў эстафету ад свайго сучасніка Францішка Багушэвіча — стваральніка беларускай нацыянальнай ідэалогіі — і ахвяраваў сябе цалкам дзеля рэалізацыі гэтых ідэяў, паставіўшы справу нашага Адраджэння на практычны грунт.

Нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і ў фальварку Будзькаўшчына Лепельскага павета (цяпер Полацкі раён). У 1880 годзе скончыў Рыжскую гімназію, у 1885 годзе — Пецярбургскі ўніверсітэт, дзе праз два гады абараніў кандыдацкую дысертацыю. Быў высокаадукаваным вучоным, дасканала ведаў болей за 20 моваў, у тым ліку санскрыт, лаціну, старагрэцкую. У 1891 годзе ўладкаваўся на пасаду памочніка бібліятэкара (г. зн. намесніка дырэктара) бібліятэкі Пецярбургскага ўніверсітэта.

Немалыя ўласныя сродкі Б. Эпімах-Шыпіла ахвяраваў на выданне беларускіх кніг. Ён быў адным з заснавальнікаў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1906—1914 гады), якая складае цэлую эпоху ў адраджэнні беларусаў. Ягоная пецярбургская кватэра на Васілеўскім востраве была не толькі сядзібаю гэтай суполкі, але па сутнасці цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця ў тагачаснай сталіцы Расейскай імперыі. У 1912 годзе Б. Эпімах-Шыпіла ўзначаліў створаны ім у Пецярбургскім універсітэце Бепарускі навукова-літаратурны гурток; ён быў клапатлівым настаўнікам і апекуном студэнтаў-беларусаў.



*Браніслаў Эпімах-Шыпіла*

Невымерная заслуга Б. Эпімаха-Шыпілы перад нашай гісторыяй — у згуртаванні і выхаванні сведамай моладзі. З яе асяроддзя выраслі буйныя дзеячы нацыянальна-вызваленчага руху, намаганнямі якіх беларускі народ аднавіў сваю дзяржаўнасць. Сярод іх Янка Купала, Тамаш Грыб, Язэп Варонка, Лявон Заяц, Браніслаў Тарашкевіч, Зміцер Жылуновіч, Клаўдусь Душэўскі.

Працуючы выкладчыкам Пецярбургскай рымска-каталіцкайдухоўнай акадэміі, Б. Эпімах-Шыпіла ўзгадаваў плеяду беларускіх святароў, якія пачалі адраджаць нацыянапьны касцёл (Апяксандр Астрамовіч, Адам Станкевіч, Казімір Стаповіч, Фабіян Абрантовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Андрэй Цікота, Віктар Шутовіч, Францішак Будзька, Францішак Грынкевічды інш.).

Б. Эпімах-Шыпіла склаў першую хрэстаматыю з беларускай літаратуры, уратаваўшы ад нябыту шмат якія творы пачынальнікаў нашага новага пісьменства. Намерваўся ён стварыць і Беларускі нацыянальны музей. Дзеля гэтага на Полаччыне ўжо быў пабудаваны дом і нават размешчаныя некаторыя экспанаты, але пажар перакрэсліў гэтую задуму.

Неўзабаве пасля стварэння БССР, у 1924 годзе, Б. Эпімах-Шыпіла быў абраны правадзейным сябрам Інстытута беларускай культуры І, пераехаўшы ў Менск, працаваў рэдактарам, а затым дырэктарам Камісіі Інбелкульту па складанні слоўніка жывой беларускай мовы. Перадаў Беларускай акадэміі навук сваю ўнікальную бібліятэку — бопьш за 5000 тамоў. Пры канцы 20-х гадоў, з пачаткам бальшавіцкіх рэпрэсій супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, быў высланы за межы БССР. Змушаны вярнуцца ў Пецярбург, дзе неўзабаве памёр у галечы, не маючы нават сталага прытулку.

# 71. Калі паўстала першая беларуская палітычная партыя?

Увосень 1902 года група студэнтаў-беларусаў (В. Іваноўскі, А. Пашкевічанка, І. Луцкевіч і інш.) пачала ствараць у Пецярбурзе падпольную арганізацыю пад назвай Беларуская Рэвалюцыйная Партыя. Узімку 1902/03 года адбыўся з'езд прадстаўнікоў студэнцкіх і вучнёўскіх гурткоў Менска, Вільні і Пецярбурга, на якім была ўтвораная Беларуская Рэвапюцыйная Грамада, пазней перайменаваная ў Беларускую Сацыяпістычную Грамаду. Да піку заснавальнікаў БСГ акрамя названых асобаў належалі А. Луцкевіч, А. Бурбіс, К. Кастравіцкі, А. Уласаў, В. Ластоўскі і інш. Сваёй найбліжэйшай задачай БСГ ставіла звяржэнне самаўладдзя і заваёву дэмакратычных свабодаў у хаўрусе з іншымі народамі Расейскага гаспадарства, а канцовай мэтай — пабудову сацыялізму. Па нацыянальным пытанні ў першай праграме (1903 год) выказапася за стварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, а ў другой (1906 год) — за дзяржаўную аўтаномію Беларусі з Соймам у Вільні (у складзе Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі) і культурна-нацыянальную аўтаномію для нацыянапьных меншасцяў.

Лідэры БСГ прычыніліся да заснавання выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбурзе і першых легапьных газет на беларускай мове — «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», якія выдаваліся ў Вільні. Пасля паразы першай расейскай рэвалюцыі БСГ фактычна спыніла дзейнасць і як партыя часова перастала існаваць. Яе актыў засяродзіўся вакол «Нашае Нівы», якая сталася цэнтрам згуртавання і выхавання нацыянальна сведамай інтэлігенцыі і нацыянальна-культурнага адраджэння народа.

Пасля акупацыі Вільні кайзераўскімі войскамі (1915 год) частка лідэраў БСГ (браты Луцкевічы, В. Ластоўскі) узначаліпа «Бепарускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны» і выступіла з ідэяй адраджэння Вялікага Княства Літоўскага з Соймам у Вільні.

На тэрыторыі Беларусі, што знаходзіпася пад упадай Расеі, БСГ аднавілася адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Яна была галоўным арганізатарам з'езда прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый у Менску ў сакавіку 1917 года, на якім былі прынятыя рашэнні аб стварэнні краёвай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Аднак Часовы расейскі ўрад адклаў развязанне гэтага пытання да Устаноўчага сходу.

Улетку 1917 года БСГ значна вырасла. Акрамя Беларусі яе арганізацыі дзейнічапі ў Петраградзе, Маскве, Кіеве, Адэсе, Саратаве, Казані, Гельсінгфорсе і іншых гарадах. Лідэрамі яе ў гэтым часе былі В. Адамовіч, П. Бадунова, Я. Варонка, Я. Дыла, З. Жылуновіч, А. Прушынскі, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, Б. Тарашкевіч, А. Чарвякоў. Тады яна была найбольш масавай і ўплывовай партыяй у беларускім нацыянальным руху.

БСГ была адным з галоўных арганізатараў Першага Усебеларускага кангрэса ў Менску. Пасля

яго разгону дзеячы нацыянапьна-дэмакратычнага кірунку зрабілі высновы аб немагчымасці дзяржаўна-палітычнага развязання беларускага пытання ў хаўрусе з бальшавікамі і ўзялі ўдзел у стварэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчаная 25 сакавіка 1918 года), арыентуючыся на падтрымку спачатку Германіі, а пазней — Антанты. У сярэдзіне 1918 года з гэтага крыла БСГ аформіліся Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя і Партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Дзеячы левага кірунку на чале з А. Чарвяковым і З. Жылуновічам, выказаўшы пратэст супраць разгону Усебеларускага кангрэса, усё ж пайшлі на супрацоўніцтва з бальшавіцкімі ўладамі і настойліва пераконвалі іх у неабходнасці стварэння беларуокай аўтаноміі на савецкай платформе ў рамках РСФСР. З гэтага крыла БСГ, якое складалі ў асноўным арганізацыі беларусаў-бежанцаў, рабочых, вайскоўцаў, інтэлігентаў, што жылі і працавапі ў Савецкай Расеі, увесну 1918 года пачалі ўтварацца беларускія секцыі РСДРП(б), якія групавапіся вакол Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамнацы РСФСР. Такім чынам, да лета 1918 года БСГ канчаткова распалася.



Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).

Вильня. 1 сенцября 1906 г.

№ 1.

Год I.

# Наша Доля

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.

Адрэс рэдакции и администрации: Вильна, Виленская вулица 32

Цана: з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—3 руб., на 6 месяцоу—1 руб. 50 кап., на 3 мес.—75 кап., на 1 мес.—25 кап. Без дастауки и перасылки: на 1 год — 2 р. 40 к., на 6 мес.—1 р. 20 к., на 3 мес.—60 кап., на 1 мес. — 20 кап. За границою: на 1 год—4 руб., на 6 мес.—2 р., на 3 мес.—1 руб. Перамена адрэсу—20 кап.

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцца на паследний страницы па 20 кап. за линейку петиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамилиею и адрэсомъ таго, хто их присылае. Адрэсъ тольки для ведама Рэдакции.

## Наш палетак.

Наш палетак памиж межау,
З-за каторых цвяце збожа;
А наш скравак штось залежау;
Наш загоE зысци ня можэ.
Ци то глеба да ничога?
Ци то руки у нас слабые,
Што ня маем й зерня свога,
Што мы ходзим як сляпые?
Глеба чорна, у руках сила,
Тольки наших гаратаяу
Некасць мара усё звадзила
Гэн замежы да выраяу.
Наш сявец не раз там кидау
Залатое зерне з жмени,
Ён не раз там плёны выдау.

А у нас расли камени.
Наш палетак негараны,
Палынами цвяце нива.
Нука, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гараци добра зможэ,
Хто разоры скоро ладзиць,
Хто шчасливе сее збожа,
Хто гароды добра садзиць
Жыво, жыво за работу
Без аглядки хто што можэ.
Усе роуны без расчоту
Усих праца будзе згожа!

*Мацей Крапиука.*

## Да чытацелёу.

Прачхнууся з цяжкаго сну народ, падняуся як рэка на вясну за вялікае дзело свабоды и лепшае доли. Тольки з пад стрэхи цёмное хаты мужыка беларуса як дауней, як сотни гадоу таму назад веець холадом магильнаго сну. Там нядоля, цямнота и голад, яго прадауные вороги, звили сабе кропкое гняздо, разраслися, распладзилися. Бывали таки и гэтакіе минуты у гисторыи апошних гадоу, што прасынауся и беларус.

Галодны и цёмны будзіуся ён з цяжкаго сну и дзивавауся, и слухау як з далёкаго свету з усих старон ляцели да яго разваліушаеся хаты радосные весьци аб зямли, аб сва-

*«Наша Допя» — першая легальная беларуская дэмакратычная газета*

# 72. Хто такія Іван і Антон Луцкевічы?



*Браты Луцкевічы і Аляксандр Уласаў у часе выдання “Нашае Нівы”*

У гісторыі беларускай культуры і нацыянальна-вызваленчага руху неаднойчы здаралася, што плячом да пляча ў шэрагі змагароў станавіліся браты: Апяксандр і Іван Цвікевічы, Якуб Колас і Антон Галіна, Язэп і Антон Лёсікі... Гэтак і браты Луцкевічы.

Іван Герман Луцкевіч (нарадзіўся 28 траўня 1881 года) быў паводле адукацыі археолагам. З дзяцінства цікавіўся гісторыяй Беларусі. Сабраў вяпікую калекцыю помнікаў беларускай культуры, у якой былі ўнікальныя зборы слуцкіх паясоў, нясвіжскіх дываноў, старажытных пячатак, манет, медалёў, рыцарекай зброі, карціны старых майстроў, граматы і старадрукі. Сярод найкаштоўнейшых экспанатаў — ілюстраванае Жухавіцкае евангелле XIV стагоддзя, першае выданне Статута 1588 года, святая кніга беларускіх мусульманаў Аль-Кітаб XVI стагоддзя, пячаткі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, сцяг беларускіх паўстанцаў 1863 года. На аснове гэтай калекцыі ў 1921 годзе быў створаны Віленскі беларускі музей. Іван Луцкевіч з'яўляўся таксама ініцыятарам заснавання беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, Беларускага навуковага таварыства, Віленскай беларускай гімназіі.

Антон Луцкевіч (нарадзіўся 30 студзеня 1 884 года) вывучаў матэматыку і права. Ён быў

публіцыстам, літаратурным крытыкам, педагогам і гісторыкам. 3-пад яго пяра выйшлі рэцэнзіі і артыкулы пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М.Гарэцкага, З. Бядулі. У. Жылкі, У. Дубоўкі. М. Чарота. Н. Арсенневай. Склаў першыя падручнікі па беларускай мове, выкладаў на настаўніцкіх курсах у Віпьні, у Віленскай беларускай гімназіі. Апублікаваў працы пра Ф. Скарыну, Статут Вялікага Княства Літоўскага, дзейнасць беларускіх нарадавольцаў ды іх часопіс «Гомон». Быў заснавальнікам Віленскага беларускага музея, старшынёю Беларускага навуковага таварыства і Беларускага выдавецкага таварыства.

Браты Луцкевічы ўвайшлі ў гісторыю таксама як палітычныя дзеячы. У 1903 годзе яны былі сярод заснавапнікаў Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, якая ў 1905 годзе ўзяла назву Беларуская Сацыя- лістычная Грамада. Абодва ўваходзілі ў ЦК гэтай партыі. Бралі актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. У 1906 годзе былі ініцыятарамі заснавання першай легальнай беларускай газеты «Наша Доля», а потым — газеты «Наша Ніва», якая сталася трыбунай беларускіх патрыётаў, у 1915—1916 гадах браты Луцкевічы прыйшлі да высновы, што Беларусь павінна стаць незалежнаю дзяржавай у канфедэрацыі з Летувою. Па іх прапанове 25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. 3 верасня 1918 года да лютага 1920 года А. Луцкевіч з'яўляўся Старшынёю Рады Міністраў і міністрам замежных спраў БНР.

Пасля таго як урад Леніна аддаў Польшчы заходнюю частку Беларусі, Антон Луцкевіч, які жыў і працаваў у Вільні, пяром публіцыста змагаўся за нацыянальныя і сацыяпьныя правы беларускага народа. Яго заслугаю з'яўляецца тое, што на выбарах 1922 года 14 беларусаў атрымалі мандаты ў польскі сейм і сенат. Антона Луцкевіча арыштоўвалі царскія жандары, бальшавіцкія камісары. Польскія ўлады двойчы садзіпі яго на лаву падсудных. Змагаючыся супраць антыбеларускай палітыкі польскіх урадаў, А. Луцкевіч адначасова выкрываў сталінскую папітыку ў БССР, Кэлі ў верасні 1939 года ў Вільню прыйшла Чырвоная Армія, яго арыштавалі і, патрымаўшы 20 месяцаў у турмах, асудзілі на 6 гадоў зняволення ў лагерах.

Дакладныя месца і дата смерці А. Луцкевіча невядомыя.

Іван Луцкевіч, хворы на сухоты, памёр яшчэ ў 1919 годзе ў Польскім курортным горадзе Закапанэ. У 1991 годзе ягоны прах перавезены ў Вільню. Тут, на могілках Росы, знаходзіцца цяпер сімвапічная магіла братоў Луцкевічаў.

# 73. Хто такі Вацлаў Іваноўскі?

Вацлаў Іваноўскі — адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Нарадзіўся ён у 1880 годзе ў шляхецкай сям'і ў маёнтку Лябёдка, недалёка ад мястэчка Васілішкі Лідскага павета. Рана ўсвядоміў сябе як беларус. У часе вучобы ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце ў 1902 годзе з групай аднадумцаў (А. Пашкевічанка, І. Луцкевіч і інш.) спрабаваў наладзіць выданне на гектографе падпольнай газеты «Свабода» як перыядычнага органа Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Аднак пры нявысветленых абставінах амаль увесь наклад першага нумара давялося знішчыць. У 1903 годзе Іваноўскі ўдзельнічаў у заснаванні Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады.

У 1906 годзе ўзначаліў славутую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў нашаваконца» ў Пецярбурзе. Першымі кніжкамі суполкі былі падручнікі «Беларускі лемантар, або першая навука чытання» і «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі. Усяго было выдадзена 38 кніг (у тым ліку шэсць першых кніг Янкі Купапы) агульным накладам болей за 1 00 тысяч паасобнікаў.

Суполка і асабіста В. Іваноўскі адыгралі значную ролю ў згуртаванні на грунце нацыянапьна-культурнай дзейнасці беларускай студэнцкай



***Вацлаў Іваноўскі***

моладзі. У ліпені 1913 года В. Іваноўскі пераехаў у Вільню, дзе стаўся старшынёю Беларускага выдавецкага таварыства (Я. Купапа быў яго сакратаром). Паспяховую дзейнасць таварыства спыніў наступ немцаў. За два гады яно выдала 14 кніг агульным накладам блізу 45 тысяч паасобнікаў.

Адначасова з актыўным удзелам у нацыянальна-вызваленчым руху В. Іваноўскі займаўся навуковай дзейнасцю. У 1909 годзе ў Мюнхене абараніў доктарскую дысертацыю і да 1913 года быў дацэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Іваноўскі стварыў першы падручнік неарганічнай хіміі для ВНУ на беларускай мове, шмат зрабіў у распрацоўцы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі. У 20—30-я гады ад беларускага нацыянальнага руху адышоў, займаўся амаль выключна навукай.

Да актыўнай палітычнай дзейнасці вярнуўся ў часе другой сусветнай вайны. Акупацыю Беларусі разглядаў як часовую з'яву. Арыентаваўся на заходніх праціўнікаў Гітлера, а ў сувязі з гэтым — на польскі эміграцыйны ўрад у Лондане, разлічваючы на федэрацыю Беларусі і Польшчы ў паваеннай Еўропе. Аднак паразумецца з палякамі не ўдалося, бо яны ўпарта стаялі на платформе Рыжскага трактату і разглядалі Заходнюю Беларусь як польскія землі.

3 лістапада 1941 года — бургамістр Менска, на гэтай пасадзе шмат зрабіў для ратавання людзей ад рэпрэсій акупантаў. Улетку 1943 года з ініцыятывы групы В. Іваноўскага было створанае нелегальнае Беларускае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднанне дзеля згуртавання сіл, якія мелі на мэце адбудову пасля вайны беларускай дзяржаўнасці.

7 снежня 1943 года В. Іваноўскі быў забіты на адной з вуліц Менска. Ёсць падставы меркаваць, што забойства было ўчынена са згоды гаўляйтэра Беларусі фон Готберга.

# 74. Хто такі Вацлаў Ластоўскі?

Імя і дзейнасць гэтага чалавека доўгія гады выкрэсліваліся з гісторыі Беларусі і свядомасці грамадства. Рэдкія ж згадкі суправаджаліся нязменным ярлыком «буржуазнага нацыяналіста».

Нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі ў 1883 годзе ў фальварку Калеснікі Дзісненскага павета (цяпер Мёрскі раён). Пасля сканчэння народнай школы здольны да гуманітарных навукаў юнак вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. Аднак матэрыяльныя цяжкасці не дазволілі прайсці поўны курс адукацыі, і Ластоўскі мусіў самавукам набываць універсальныя энцыклапедычныя веды.

З 1906 года жыў і працаваў у Вільні. Тады, уступіўшы ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду, абраў шлях служэння свайму народу. Працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва», быў сябрам і паплечнікам Я. Купалы, Я. Коласа, А. Уласава, М. Багдановіча, А. Пашкевічанкі, іншых дзеячаў нашага Адраджэння. Менавіта ў публікацыях на старонках «Нашае Нівы» раскрыўся ягоны талент публіцыста, гісторыка, пісьменніка. Ён аўтар першай «Кароткай гісторыі Беларусі» (1910 год).

У 1916 — 1917 гадах В. Ластоўскі выдаваў газету «Гоман». У 1919 годзе ўступіў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). Быў гарачым прыхільнікам і адным з галоўных ідэолагаў незалежнасці Беларусі. Са снежня 1919 года — Старшыня Рады міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, а з 1920 года — прэм'ер-міністр эміграцыйнага ўрада. Браў удзел у працы міжнародных канферэнцый, форумаў, на якіх ад імя ўрада БНР адстойваў ідэі нацыянальна-дзяржаўнага



***Вацлаў Ластоўскі***

самавызначэння Беларусі, пратэставаў супраць дыскрымінацыі і прыгнёту з боку Польшчы і Савецкай Расеі.

Пасля адыходу ад палітыкі займаўся навуковай, грамадскай І выдавецкай працай. Выдаваў у Коўні часопіс «Крывіч» (1923—1927 гады). У 1926 годзе ўдзельнічаў у працы Акадэмічнай канферэнцыі ў Менску. Аўтар грунтоўнай кнігі «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўня, 1926), якая мае вялікую навуковую каштоўнасць.

У 1927 годзе, пакінуўшы спакойныя ўмовы працы на эміграцыі, В. Ластоўскі на запрашэнне ўрада БССР пераехаў у Менск, каб узяць удзел у нацыянальна-культурным і дзяржаўным адраджэнні Беларусі. Працаваў дырэктарам Дзяржаўнага музея БССР; з 1928 года ён неадменны сакратар і акадэмік АН БССР. Праводзіў не толькі ўласныя даследаванні, але і шмат энергіі аддаваў на арганізацыю новых кірункаў беларускае навукі і ўзгадаванне мападых навуковых кадраў.

У 1930 годзе разам з іншымі выдатнымі дзеячамі навукі і культуры Вацлаў Ластоўскі быў арыштаваны і засуджаны па сфабрыкаванай НКВД справе гэтак званага Саюза Вызвалення Беларусі на высылку за межы БССР. На пачатку 1938 года лаўторна арыштаваны ў Саратаве і 23 студзеня расстраляны.

# 75. Чаму час нашага Адраджэння пачатку ХХ стагоддзя называецца «нашаніўскім кругабегам»?

Штотыднёвая грамадска-палітычная газета «Наша Ніва» выдавалася ў Вільні з 10 лістапада 1906 да 7 жніўня 1915 года, калі была зачыненая ў сувязі з падзеямі першай сусветнай вайны. Арганізавалі выданне і кіравапі ім лідэры Беларускай Сацыялістычнай Грамады Іван і Антон Луцкевічы і Аляксандр Уласаў, які са снежня 1906 года быў афіцыйным рэдактарам. У сакавіку 1914 года яго змяніў на гэтай пасадзе Янка Купала.

«Наша Ніва» адыграла выключную ролю ў нацыянальным абуджэнні беларусаў, у згуртаванні і выхаванні нашай інтэлігенцыі, у барацьбе за грамадскае прызнанне самога факта існавання беларускага народа і яго роўнасці з іншымі народамі, у развіцці беларускай літаратуры І сучаснай літаратурнай мовы. На старонках газеты публікаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага, Каруся Каганца, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна, Лявона Гмырака, дзесяткаў іншых пісьменнікаў і публіцыстаў.

Газета выступала супраць афіцыйнай царскай палітыкі, накіраванай на раскол беларускага народа паводле веравызнання (на «рускіх» і «палякаў»), выкрывала рэакцыйны характар дзейнасці расейскіх і польскіх шавіністычных арганізацый, якія з дапамогаю праваслаўнае царквы і каталіцкага касцёла займаліся русіфікацыяй і папанізацыяй беларускага насельніцтва, настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і касцёл беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі.



Cena asobnaho numeru 5 kap.

Hod druhi. Wilnia, 10 (23) listapada 1907 r. №. 33.

Cena z pieras. i dast. da chaty:
na 1 hod . 3 r. — k.
na 6 m. . 1 . 50 .
na 3 m. . 75 .
na 1 m. . 25 .
Bez dast. i pieras.:
na 1 hod. . 2 r. 40 k.
na 6 m. . 1 . 20 .
na 3 m. . 60 .
na 1 m. . 20 .
Za hranicej:
na 1 hod . 4 r. — k.
na 6 m. . 2 . — .
na 3 m. . 1 . — .
Pieramiena adresu: 20 kap.

# Nasza Niwa

Biełaruskaja Hazeta.

Wychodzić raz u tydzień

POLSKIMI I RUSKIMI LITERAMI.

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Zawalnaja wulica № 30.

Padpiska prinimajecca i prad. addzielnyje numery hazety:
1) U kantory „Naszaj Niwy" — Zawalnaja wulica № 30.
2) U bibliotecy „Znanije"—Georgijeuski prosp. № 4.
3) Litouskaja kniharnia M. Piaseckoj-Szłapelis — Dominikanskaja № 13

Abjaulennia pinimajucca na pasiedniaj stranicy pa 20 kap. za liniejku małymi literami. Rukapisy i korespondencii, prysłanyje u redakciju, musiać być czytelnie napisany z praudziwaju familjeju i adresom taho, chto jaje prysyłaje. Można także padpisać swaje prozwiszcze razom z familjeju, kali nie zachoczecie, kab była nadrukowana wasza praudziwaja familija. Adres i familija tolki dla wiedama redakcii.

*Ad redakcii.* Drukarnia Kuchty, hdzie drukawałaś „Nasza Niwa". na niejaki czas zakryta hieneral-hubernatorom. U druhoj drukarni nima usich patrebnych liter. niechaj czytacieli wybaczajuć za abmyłki u hazeci i za toje. szto jana spaźniłasia.

## TRECIAJA DUMA.

Pra Pierszuju Dumu kazali. szto heta była Duma hniewa narodnaho; Druhaja Duma była mużyckaja; pra ciapieraszniuju Dumu można skazać, szto jana bolsz dwaranskaja. pamieszczyckaja i duchounaja.

I praudy: u Dumie ciapier usiaho deputatou 437, a adnych dwaranou, pamieszczykou miež imi 219, duchounych—48 (u tym szczoci 2 archirei); mużykou tolki 87 czał., mieszczan—30, „raznoczyncou" i kazakou—53. Tym czasam u Druhoj Dumie mużyckich deputatou było 196.

U nowaj Dumie najbolsz „prawych" deputatou: „sajuza 17 akciabra", monarchistou. „sajuza russkaho naroda" i „okrainnaho sajuza" (u hetym kamanduje wiadomy usim minski Szmid). Prawych bolsz pałowy—279 czał., i jany—hłaunyje haspadary u Dumie: Duma u ich rukach.

Da oppozycii (da „lewych") należyć usia-

kratou—16, prosta lewych—9 trudawikou—7 partii „narodnaj swabody"—48, musulmanou—16, polskaho koła—16, roznych biezpartyjnych prohresistou—33.

Uwieś „prezydium"—prawy. Na pradsiedaciela Dumy prawyje wybrali „akciabrysta" *Chomiakowa*, pamieszczyka Smalenskaj hub.; niejaki czas jon służyu czynounikam u Piecierburhu. Na tawarysza pradsiedaciela sprawiedliwiejszyje s-pamiež akciabrystou chacieli wybrać ka-deta (z partii „narodnaj swabody") Makłakowa. ale heta nie udałosia wybrany byli czlen „sajuza russkaho naroda" kniaź Wołkonskij i akciabryst baron Mejendorf, niemiec.

Czaho može czakać narod ad prawoj Dumy?

Atkaz na hetaje pytannie można užo ciapier znajści u „dekłaracii" partii „17 akciabra" (akciabrystou). Woś szto piszecca u dekłaracii.

„Hłaunaje žadannie partii — zrabić u Dumie „*bolszynstwo*": jano nie zachocze, kab ministry naznaczalisia z jaho czlenou i addawali atczot Dumie... tak paczynajecca dekłaracija heta znaczyć akciabrysty choczuć mieć najbolszuju siłu i niedapuścić, kab ministry naznaczalisia z najbolszej Dumskaj partii dyj zaležali ad Dumy.

Ab nowym wybarnym zakonie, pa katoramu wybiralasia Treciaja Duma, akciabrysty kažuć, szto jon dobry. mieniać jaho nia treba (chacia jon adabrau prawa wybirać ad wialikaj szaści naroda).

Chacia manifest 17 akciabra jasna hawo-

Пры рэдакцыі газеты, дзякуючы намаганням Івана Луцкевіча, ствараўся Беларускі нацыянальны музей. На яе базе паўсталі сельскагаспадарчы часопіс «Саха» і часопіс для мопадзі «Лучынка», выдаваўся вельмі папулярны штогадовы «Беларускі каляндар», дзейнічала кніжнае выдавецтва.

Такім чынам, паняццем «нашаніўскі кругабег» вызначаецца выдатная роля газеты «Наша Ніва» ў нацыянальным адраджэнні беларусаў пачатку XX стагоддзя.

У 30-х гадах бальшавіцкія ідэолагі ацанілі «Нашу Ніву» як кулацкае, буржуазна-ліберальнае, нацыяналістычнае выданне і фактычна выкраслілі з гісторыі. А пазней некаторыя савецкія «гісторыкі» нават далучалі яе да чарнасоценна-акцябрысцкага лагера. Узапраўды ж газета была цэнтрам беларускага нацыянальнага руху, заклала падмурак адраджэння нашае дзяржаўнасці. «Наша Ніва» змагла адыграць ролю абуджальніка народа і падрыхтаваць найбольш актыўныя і сведамыя сілы Беларусі да барацьбы за яе нацыянальныя інтарэсы ў пазнейшых выпрабаваннях.

# 76. Чаму бальшавікі разагналі Першы Усебеларускі кангрэс?

Ва ўмовах сусветнай вайны патрыятычна настроеныя дзеячы склікалі 18 снежня 1917 года ў Менску Першы Усебеларускі кангрэс палітычных сіл. Сабраліся 1872 дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, усіх грамадскіх і палітычных арганізацый, у тым ліку пасланцы губернскіх земстваў, органаў мясцовага самакіравання, прафесійных саюзаў і кааператыўных таварыстваў. Былі там прадстаўнікі і бежанцаў, і тых, хто служыў у арміі ці на флоце, і хто жыў у Петраградзе або ў Маскве. Яны з энтузіязмам абмяркоўвалі найважнейшыя праблемы жыцця і лёсу Бэларусі. А на нашай зямлі ў той час гаспадарылі бальшавікі, якімі кіравалі Мяснікян (Мяснікоў), Кнорыньш (Кнорын), Ландэр, Рэзаўскіды іншыя прышэпьцы з розных куткоў Расейскай імперыі.

Бальшавіцкія кіраўнікі «Западной области» (так яны афіцыйна называлі Беларусь), пераканаўшыся, што ўдзельнікі кангрэса абмяркоўваюць толькі нацыянальныя праблемы жыцця беларускага народа і не збіраюцца падпарадкоўвацца іх дыктату, уначы з 30 на 31 снежня, выкарыстаўшы ваенную сілу, разагналі кангрэс. Ордэр на разгон падпісаў Ландэр.



***Менскі гарадскі тэатр (цяпер Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), у якім распачаўпрацуПершыУ себеларускікангрэс. Здымак пачатку XX стагоддзя***

Кангрэс, аднак, паспеў стварыць Выканаўчы камітэт, які з гэтага часу кіраваў нацыянальна-вызваленчым рухам беларускага народа і падрыхтаваў абвяшчэнне ў сакавіку 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці.

# 77. Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?

Стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі было заканамерным этапам у развіцці нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі пачатку XX стагоддзя. Усебеларускі кангрэс (з’езд), які адбыўся ў снежні 1917 года, выказаўся за аўтаномную рэспубліку Беларусь у складзе федэратыўнай савецкай Расеі. Але нават такая пастанова выкпікала абурэнне кіраўнікоў бальшавіцкай партыі, і яны, як вядома, выкарыстапі сілу. У 1918 годзе лідэр бальшавікоў «Западной областн» В. Кнорын пісаў: «Мы лічым, што беларусы не з’яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддаляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжытыя. Нашай задачай з’яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак». Рада і Выканаўчы камітэт, абраныя кангрэсам, былі тады адзінымі прадстаўнікамі інтарэсаў беларускага народа.

У лютым—сакавіку 1918 года гэтая Рада быпа папоўненая прадстаўнікамі з месцаў і ператвораная ў беларускі парламент — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР, які называўся Народным Сакратарыятам.

25 сакавіка 1918 года ў 3-й Устаўной грамаце Рады БНР Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень; лясы, азёры і нетры нацыяналізаваліся; зямля без выкупу перадавалася тым, хто на ёй

працуе. Абвяшчалася вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнання, незачэпнасць асобы і памяшкання. Нацыянапьным мяншыням на беларускай зямлі не было гвалту: яны мелі права на нацыянапьна-персанальную аўтаномію.

Пры канцы лютага ў Менск, дзе знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыйшлі войскі кайзераўскай Нямеччыны. Яны забралі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі з яго будынка бел-чырвона-белы сцяг, выгналі службоўцаў. Лідэры БНР былі папярэджаныя, што акупацыйныя ўпады не дапусцяць на Беларусі сур'ёзнай палітычнай дзейнасці. Паводле дамоўленасці ў Берасці, немцы абавязаліся не прызнаваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расейскай імперыі.

Урад БНР не прытрымліваўся ў сваёй дзейнасці і польскіх інтарэсаў. Ён катэгарычна адхіляў прэтэнзіі заходняга суседа на беларускія землі. «Старшыня Беларускай рады п. Луцкевіч, прыбыўшы нядаўна ў Варшаву, хоча выратаваць фікцыю беларускай дзяржаўнасці і вядзе перамовы з польскім урадам. Урад без асаблівай ахвоты вядзе перамовы», — гэтак, пагардліва для беларусаў, адзначалася на з’ездзе інструктараў польскай ваенізаванай арганізацыі «Страж крэсова» ў верасні 191 9 года.



*Пячатка БНР*

Такім чынам, урад БНР дбаў толькі пра інтарэсы сваіх грамадзян, беларускага народа. Лічыць Бепарускую Народную Рэспубліку марыянеткай Нямеччыны, Польшчы ці якой іншай дзяржавы няма ніякіх падставаў.

# 78. У якіх межах былі абвешчаныя Беларуская Народная Рэспубліка і БССР?

У 3-й Устаўной грамаце Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 года, якая абвясціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, тэрытарыяльныя межы БНР вызначапіся ў агульнай форме. «Беларуская Народная Рэспубліка, — гаворыцца ў дакуменце, — павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ, а менавіта: Магілеўшчыну, беларускія часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, населеных беларусамі». Гэтыя межы былі дакладна акрэсленыя на карце Беларускай Народнай Рэспублікі, выдадзенай у 1918 годзе і прадстаўленай Надзвычайнай місіяй БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі.

У пастанове 1 з’езда Камуністычнай партыі бапьшавікоў Беларусі ад 30 снежня 1918 года «асноўным ядром» Беларускай рэспублікі абвяшчаліся губерні Менская, Смаленская, Магілеўская, Віцебская і Гарадзенская «з часткай прылеглых да іх мясцовасцяў суседніх губерняў, насе- леных пераважна беларусамі». Такімі прызнаваліся частка Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні, Вілейскі павет, частка Свянцянскага і Ашмянскага паветаў Віленскай губерні, Суражскі, Імглінскі, Старадубскі і Навазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губерні. З’езд адзначыў, што са складу Смаленскай губерні «могуць быць выключаны» паветы Гжацкі, Сычоўскі, Вяземскі і Юхноўскі, а з Віцебскай губерні — часткі Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага паветаў. У пастанове гаварылася, што ў тых частках Віцебскай і Віленскай губерняў, дзе «мяжа носіць спрэчны характар з прычыны насельнасці ў аднолькавай ступені некалькімі народнасцямі», пытанне аб ёй павінны былі вырашыць спецыяльныя камісіі, складзеныя ўрадамі зацікаўленых савецкіх рэспублік.

У складзе БССР пастановай з’езда прадугледжвалася стварэнне 7 раёнаў (замест губерняў) і 54 «падраёнаў»: Менскі раён —падраёны Менскі, Барысаўскі, Вілейскі, Свянцянскі, Ашмянскі, Ігуменскі, Бабруйскі і Слуцкі; Смаленскі раён — падраёны Смаленскі, Бельскі, Духаўшчынскі, Парэцкі, Дарагабужскі, Ельнінскі, Красненскі і Рослаўскі; Віцебскі раён — падраёны Віцебскі, Вяліжскі, Невельскі, Гарадоцкі, Себежскі, Дрысенскі, Дзісенскі, Сенненскі, Лепепьскі і Полацкі; Магілеўскі раён — падраёны Магілеўскі, Варшанскі, Горацкі, Амсціслаўскі, Быхаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі; Гомельскі раён — падраёны Гомельскі, Клімавіцкі, Суражскі, Імглінскі, Старадубскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі і Мазырскі; Гарадзенскі раён — падраёны Гарадзенскі, Лідскі, Аўгустоўскі, Сакольскі, Беластоцкі, Ваўкавыскі; Баранавіцкі раён — падраёны Баранавіцкі, Слонімскі, Пружанскі, Навагрудскі, Берасцейскі, Кобрынскі і Пінскі.

# 79. Як дзялілі Беларусь у Берасці, Маскве і Рызе?




***Палітычная карыкатура 1921 года на Рыжскі мір і гвалтоўны падзел Беларусі***

Адразу пасля прыходу да ўлады бальшавікі пачалі сепаратныя перамовы з немцамі аб міры. Месцам іх правядзення было абранае Берасце. Паколькі лінія фронту праходзіла па тэрыторыі Беларусі, расейска-германскія перамовы не маглі не турбаваць беларускіх патрыётаў. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на Усебеларускім кангрэсе, што праходзіў у снежні 1917 года. Быў зроблены запыт кіраўніку расейскай дэлегацыі Л. Троцкаму, які ў адказ запэўніў, што лёс Беларусі не будзе вырашацца без згоды беларусаў. Як мы ведаем, гэта была хлусня.

Бальшавікі несумленна паводзілі сябе на перамовах, выкарыстоўвалі іх для прапаганды, падбухторвалінямецкіх салдатаў на «рэвалюцыйныя дзеянні». Урэшце 18 лютага 1918 года немцы пачалі наступ. Бальшавікам, якія развалілі старую армію, нічога не заставалася, як шукаць замірэння. На пачатку сакавіка ў Берасці быў падпісаны мірны трактат, у выніку чаго пад немцамі апынулася большая частка нашай зямлі. Урад Леніна абавязаўся выплаціць Германіі 6 мільярдаў рублёў кантрыбуцыі, і Бепарусь (акупацыйная зона) разглядалася як заклад пад гэтую кантрыбуцыю. Немцы ж паабяцалі бальшавікам, што не прызнаюць новых дзяржаў на тэрыторыі быпой Расейскай імперыі. Абодва бакі «шчыра» выконвалі ўзятыя на сябе абавязкі: бальшавікі абдзірапі сялян і ў лік кантрыбуцыі вывозілі ў Нямеччыну збожжа, а ўрад Нямеччыны не прызнаваў Беларускай Народнай Рэспублікі і не даваў ёй арганізаваць сваё войска.

Другі раз нашу краіну бальшавікі падзялілі з Летувою, якая, дарэчы, сама толькі што выйшла з-пад каланіяльнай залежнасці.

Гэта было 12 ліпеня 1920 года. Рыхтуючы наступленне на польскія вонскі, што акупавалі Беларусь да Дзвіны і Бярэзіны, урад Леніна падпісаў у Маскве дамову, паводле якой пад юрысдыкцыю Летувіскай Рэспублікі перадаваліся нашы паўночна-заходнія землі: значная частка сучасных Віцебскай, Менскай ды Гарадзенскай абласцей, а таксама Беласточчына і ўся Віленшчына.

Бальшавікі дайшлі да Віслы, аднак усталяваць сваю ўладу ў Польшчы не здолелі. Карыстаючы з патрыятызму польскага народа, Ю. Пілсудскіпры дапамозе Антанты арганізаваў контрнаступ і захапіў захад Беларусі. На расейска-польскія мірныя перамовы, якія праходзілі ў Рызе, у кастрычніку 1920 года ад імя Савецкай Беларусі выехаў А. Чарвякоў. Але бальшавіцкія і польскія дыпламаты за стол перагавораў яго не пусцілі. 18 сакавіка 1921 года быў падпісаны мірны дагавор, паводпе якога нашы заходнія землі перадаваліся пад уладу Польшчы.

Гандаль нашымі землямі выклікаў пратэст усёй сведамай беларускай інтэлігенцыі. Якубу Коласу належаць напісаныя тады гнеўныя радкі:

***Нас падзялілі...***
***Хто? Чужаніцы, Цёмных дарог махляры.***
***К чорту іх межы!***
***К чорту граніцы!***
***Нашы тут гоні, бары!***

# 80. Чаму бальшавікі пайшлі на стварэнне БССР?

Бальшавікі, хоць і не прызнавалі беларускае нацыі, двойчы стваралі БССР (называлася яна тады ССРБ): 1 студзеня 1919 года і ў канцы ліпеня 1920 года.

Першы раз — каб супрацьпаставіць яе Беларускай Народнай Рэспубліцы, якая з'яўлялася рэальным цэнтрам нацыянальна-вызвольнага руху. Аднак праз месяц самі ж ліквідавалі рэспубліку, разагнаўшы першы беларускі савецкі ўрад на чале са Зміцерам Жыпуновічам (літаратурны псеўданім Цішка Гартны). Усходнія беларускія губерні перадалі ў склад РСФСР. Рэшту далучылі да Летувы і ўтварылі так званы Літбел (Літоўска-Беларускую рэспубліку) са сталіцай у Вільні. У кіраўніцтве Літбела не аказалася ніводнага беларуса. Ні ў ССРБ, ні ў Літбеле беларуская мова не дапускалася ні ў друку, ні ў дзяр жаўным ужытку, не было ніводнае газеты на беларускай мове.

31 ліпеня 1920 года бальшавікі адрадзілі ССРБ з прапагандысцкімі мэтамі, каб паказаць, што яны прызнаюць права нацыйна самавызначэнне на бальшавіцкай палітычнай платформе. Першапачаткова беларуская мова не дапускалася да афіцыйнага ўжытку. Але праз нейкі час пачалася шырокамаштабная палітыка бепарусізацыі, каб працоўныя Заходняй Беларусі бачылі тут сваю радзіму і змагаліся за далучэнне да Савецкай Беларусі. Захапіўшыся магчымасцямі працы на роднай ніве і паверыўшы бальшавіцкай прапагандзе, у 20-х гадах у БССР пераехапі выдатныя беларускія дзеячы з-за мяжы: Зміцер Жылуновіч, Максім Гарэцкі, Францішак Аляхновіч, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Цвікевіч, Палута Бадунова і іншыя. Праз нейкі час усе яны разам з тымі, што бралі ўдзел у стварэнні ССРБ (Усеваладам Ігнатоўскім, Зміцерам Жылуновічам, Аляксандрам Чарвяковым І іншымі), былі знішчаныя сталінскай рэпрэсіўнай машынай.



***Зміцер Жылуновіч, старшыня першага , ўрада БССР***

# 81. Якія землі былі адабраныя ад БССР Масквою ў 1919 годзе і не вернутыя дагэтуль?

Праз паўмесяца пасля абвяшчэння БССР, 16 студзеня 1919 года, ЦК РКП(б) з удзелам У. І. Леніна пастанавіў «выдзеліць» з БССР Смаленскую, Віцебскую і Магілеўскую губерні, далучыўшы іх да РСФСР, а на тэрыторыі Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губерняў утварыць Літоўска-Беларускую ССР. Такім чынам, БССР фактычна ліквідавалася. Анексія Смаленшчыны, Віцебшчыны і Магілеў шчыны была афармленая на пачатку 1919 года рашэннямі адпаведных губернскіх з'ездаў Саветаў. Пагадзіўся з ёю пад націскам бальшавікоў і І Усебеларускі з'езд Саветаў, які адбыўся на пачатку лютага 1919 года ў Менску. У ліпені 1920 года БССР была абвешчана бальшавікамі другі раз, але толькі ў межах 6 паветаў былой Менскай губерні агульнай плошчай 52,4 тыс. кв. км.

***Далі шэсць паветаў...***

***Ну, дзякуй за гэта,*** — засталіся з таго часу ў памяці людзей словы Янкі Купалы.

На пачатку 20-х гадоў уся ўсходняя Беларусь заставалася ў складзе РСФСР. Толькі ў сакавіку 1924 года ў адказ на настойлівыя патрабаванні ўрада БССР Усерасійскі ЦВК прыняў пастанову аб передачы Беларусі шэрагу паветаў Віцебскай Смаленскай і Гомельскай губерняў (Полацкага, Віцебскага, Гарадоцкага, Магілеўскага, Горацкага, Рагачоўскага, Быхаўскага, Клімавіцкага, Чавускага, паловы Амсціслаўскага). У снежні 1926 года да БССР былі дапучаныя Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Аднак і пасля гэтага ў складзе РСФСР засталіся значныя тэрыторыі Віцебшчыны, Смаленшчыны і Браншчыны з беларускім насельніцтвам. Не вернутыя яны Беларусі да сённяшняга дня.

# 82. Дзе ў Беларусі былі арганізаваныя паўстанні супраць бальшавікоў?

Як вядома, паводле Берасцейскай мірнай дамовы, з сакавіка да верасня 1918 года пад уладай бальшавікоў заставалася толькі частка беларускіх земляў: Смаленшчына, усходнія паветы Магілеўскай ды паўночна-усходнія Віцебскай губерняў. Тут бальшавікі праводзілі так званую «продовольственную разверстку» (адбіралі ў сялян практычна ўсё збожжа). Гэта выклікала сялянскія паўстанні ў Варшанскім, Віцебскім, Горацкім, Клімавіцкім, Амсціслаўскім, Полацкім, Сенненскім ды Чэрыкаўскім паветах. У Сянно на чале паўстанцаў стаяў будучы народны камісар земляробства БССР Зміцер Прышчэпаў. Сенненскія ды варшанскія паўстанцы на пэўны час узялі ў свае рукі ўладу ў гэтых паветах.

Пасля адыходу немцаў (верасень — лістапад 1918 года) бальшавікі захапілі цэнтральную частку Беларусі. Яны па-ранейшаму абдзіралі сялян. У лістападзе супраць іх упады паўставаў Глыбоцкі павет, а ў сакавіку — красавіку 1919 года паўстанні прайшлі ў ваколіцах Гомеля, Кармы, Рагачова, Рэчыцы, Нясвіжа, Слуцка, Старобіна ды іншых гарадоў і мястэчак.

Антыбальшавіцкія паўстанні ўспыхнулі і ў 1920 годзе. Найбольшыя з іх Койданаўскае ды асабліва Слуцкае. У ліпені 4 дні трымалася так званая Койданаўская Незалежная Рэспубліка. У лістападзе — снежні Рада Случчыны, узначаленая беларускімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, падняла 10 тысяч чалавек, арганізавала іх у два палкі. Цэлы месяц паўстанцы трымалі ўладу Баларускай Народнай Рэспублікі ў 15 валасцях.




*Сцяг 1-га Слуцкага палка (справа — Антон Сокал-Кутылоўскі)*

У 1921 годзе на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі партызанскія аддзелы (агулам каля 3,5 тысячы чалавек).

Узброены супраціў бальшавікам аказваўся і пазней. У прыватнасці, у літаратуры згадваецца Лепельскае паўстанне «аднаасобнікаў» перыяду калектывізацыі, дэталі якога нам дасюль невядомыя, бо савецкі друк наўмысна замоўчваў народныя выступленні.

Як бачна, беларускі народ не пакорліва і тым больш не з радасцю, як сцвярджала бальшавіцкая прапаганда, прымаў іхную ўладу, а паўсюль аказваў пасіўны ці адкрыты супраціў.

# 83. Што такое Слуцкі збройны чын?

Увосень 1920 года, калі Расея і Польшча падпісалі замірэнне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы—Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну. Варта адзначыць, што Случчына была адной з найбагацейшых і найбольш нацыянальна сведамай беларускай правінцыяй. Тут традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызвольнага руху.

Гэты час міжуладдзя, калі палякі адступілі, а бальшавікі яшчэ не прыйшлі, беларускія дзеячы ў Слуцку выкарысталі для арганізацыі змагання за самастойную Беларусь, за ўсталяванне ўлады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай у сакавіку 1918 года.

14 лістапада 1920 года быў скліканы з’езд Случчыны, які выбраў часовы ўрад — Раду Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам. З’езд пастанавіў распачаць збройнае змаганне супраць чужынцаў. Рада пачала стварэнне вайсковых фармаванняў, была аб’яўленая мабілізацыя, якая прайшла вельмі актыўна сярод насельніцтва Слуцкага павета — Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава і іх ваколіцаў.

У кароткім часе сабралася блізу 10 000 чалавек. Беларускія жанчыны з Горадні прыслалі для случакоў сцяг з прыгожа вышытаю «Пагон採» і надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Былі сфармаваныя два палкі: 1-шы Слуцкі полк на чале з падпалкоўнікам Ахрэмам Гаўрыловічам і 2-гі Грозаўскі полк пад камандаю капітана Семянюка,

аб'яднаныя ў Слуцкую брыгаду, якую ўзначальваў Антон Сокал-Кутылоўскі. У сувязі з наступам Чырвонай арміі штаб паўстання быў перанесены са Слуцка ў Семежава.

27 лістапада пачаліся баі. Асабліва адчувальныя для бальшавікоу былі ўдары па лініі Капыль — Цімкавічы — Вызна. Супраць случакоў была кінутая Омская дывізія. Яны мужна зм.агаліся, іх шырока падтрымлівала мясцовае насельніцтва, але сілы былі ня.роўныя. Пасля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры змушаныя былі адысці за раку Лань, дзе былі раззброеныя палякамі і змешчаныя ў спецыяльны лагер для інтэрнаваных асобаў.

Сярод найбольш актыўных удзельнікаў змагання былі Павел Жаўрыд, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў (аўтар ваяцкага марша «Мы выйдзем шчыльнымі рада мі»), Васіль Русак, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Янка Біруковіч. Многія са змагароў вярнуліся пазней на радзіму, паверыўшы ў магчымасць адбудовы Беларускага гаспадарства пад бальшавікамі, але былі знішчаныя ў часе рэпрэсій.

Падзеі 1920 года ўвайшлі ў гісторыю пад назовам Слуцкі збройны чын, або Слуцкі збройны ўздым (часам гэта называюць паўстаннем, але такі назоў не зусім адпавядае сутнасці падзей). Яны з'яўляюцца яскравым сведчаннем няз гаснага імкнення беларускага народа да незалежнасці, яго рашучасці ў змаганні за волю.



***Уладзімір Пракулевіч, старшыня Рады Случчыны***

# 84. Якія пласты беларускага народа найбольш пацярпелі ад бальшавіцкага тэрору?

Прозба да правадыра, Иосифа Виссарионевича Сталина
Просим дарагога таварища Сталина.
Просим кап нам парадиу як жыць, што ми
Маленькия татку нашага забрали.
А нас засталося пять маленьких Малычикад
мамаша бальная работить не могат. Бабушка
тоже старана лет маить 70. Весна приходит
земли нет кому работать. Дарагй Иосиф
Виссарионвич Сталин просим мы вас рук ноги
цалуим. У просилиб Можа як узлитавауся
над нами беднами сиротами, можаб нам
было можна вернуть свайго татку.
Дараги наш Иосиф Виссарионавич Сталин
пиреправшаим мы Вас можа што мы
и нитак написали.

Савастян Лавонтвич

*Ліст да Сталіна ад дзяцей арыштаванага Ю. А. Севасцяна з вёскі Слукі Мядзельскага раёна*

У бапьшавіцкай ідэалогіі рэпрэсіі супроць так званых класавых ворагаў займалі адно з галоўных месцаў. Гвалт для дыктатуры пралетарыяту быў проста неабходны. На думку У. Леніна, толькі з дапамогай «узброеных рабочых» маг чыма ажыццяўляць сацыяльнае развіццё, дзеля чаго можна праліць і «мора крыві». Рэпрэсіі пачаліся амаль з першых месяцаў існавання савецкай дзяржавы. У 1917—1921 гадах яны былі накіраваныя галоўным чынам супроць «класавых ворагаў», якія вызначаліся паводле сацыяльнага стану ці партыйнай прыналежнасці. На Беларусі, дзе з прычыны нямецкай і польскай акупацыі савецкая ўлада ўсталявалася значна пазней, чыму Расеі, галоўны ўдар быў накіраваны супроць дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, праваслаўных і каталіцкіх святароў, сяброў партыі беларускіх эсэраў.

Пастановай ВЦПК ад 11 красавіка 1919 года ва ўсіх губернскіх гарадах утвараліся «канцэнтрацыйныя лагеры» (гэтак яны называліся ў дакуменце) на 300 месцаў. У Менску такі лагер быў арганізаваны ў жніўні 1920 года.

Але сапраўды масавымі рэпрэсіі сталіся ў 30-х гадах. У 1930—1934 гадах у асноўным вынішчалася заможнае сялянства, так званыя кулакі, або тыя, хто аказваў супраціў утварэнню калгасаў. «Кулацкімі ідэёлагамі» была названа значная частка беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сотні тысяч сялян (паводле розных крыніцаў, ад 4 да 15 працэнтаў усяго беларускага сялянства) былі высланыя ў папраўча-працоўныя лагеры, іх сем'і выселеныя за межы БССР.

Каб мець «падставу» для прыцягнення да крымінальнай адказнасці творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, органамі ГПУ—НКВД у 1930 годзе былі сфабрыкаваныя справы контррэвалюцыйных арганізацый — «Саюза вызвалення Беларусі», Беларускага філіяла «Працоўнай сялянскай партыі», у 1933—1934 годзе — «Беларускай народнай грамады», «Беларускага нацыянальнага цэнтра» ды іншых. Бып асуджана «на перавыхаванне» ў папраўча-працоўных лагерах і выслана ў Сібір і Казахстан больш за тысячу чалавек: навукоўцы, пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, выкладчыкі ВНУ.

У 1933—1934 гадах былі рэпрэсаваныя практычна ўсе святары як каталіцкай, так і праваслаўнай канфесіі, а таксама царкоўныя актывісты, абвінавачаныя ў антысавецкай дзеннасці.

Шмат было асуджана і расстраляна гаспадарнікаў — кіраўнікоў і простых работнікаў розных галін народнай гаспадаркі. Калі інтэлігенцыю, святароў, сялян абвінавачвалі ў асноўным па палітычных матывах, то гаспадарнікі «выкрываліся як шкоднікі». Па справах шкодніцтва ў сістэме Дзяржплана, жывёлагадоўлі, Трактарацэнтра, запалкавай прамысловасці ды іншых былі асуджаныя тысячы людзей.

У 1935 — 1936 гадах была ажыццёўленая «ачыстка» мяжы БССР ад «патэнцыяльных» ворагаў. У «аддаленыя мясцовасці СССР» было выслана больш за 20 тысяч чапавек.

Найбольшы размах рэпрэсіі набылі ў 1937—1938 гадах. Беларусь была «ачышчана» ад «контррэвалюцыйных элементаў і шпіёнаў». Толькі пры «выкрыцці» гэтак званага «Аб'яднанага антысавецкага падполля» было асуджана больш за 2,5 тысячы чалавек, значная частка з іх расстраляна.

У 1937—1938 гадах праводзіцца масавая акцыя «па выкрыцці» польскіх, нямецкіх і латышскіх «шпіёнаў». Было арыштавана блізу 23,5 тысячы чалавек, больш як 21 тысяча з іх расстраляна.

Рэпрэсіі 1938 года закранулі ўсе пласты грамадства, у тым ліку і арганізатараў гэтых рэпрэсій. Былі арыштаваныя 99 сакратароў райкомаў КП(б) Б са 101, больш за 50 старшыняў райвыканкомаў, сакратары ЦК КП(б)Б.

Усе гэтыя працэсы паўтараліся пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі. Прыпыненыя вайною, рэпрэсіі набылі там асаблівы размах у другой палове 40-х гадоў у сувязі з правядзеннем татальнай калектывізацыі і працягваліся аж да 1953 года..

Вынікі «праведзенай працы» на Беларусі жахлівыя: ліквідавана найбольш дзейнае, працавітае і прадпрымальнае сялянства, практычна знішчана нацыянальная інтэлігенцыя, зачыненыя або зруйнаваныя цэрквы і касцёлы.

# 85. Як бальшавікі рэфармавалі беларускую мову?

Бальшавікі імкнуліся да стварэння імперыі, у якой усё было б аднолькавае, стандартнае. Ім належыць ідэя «зліцця моваў», г. зн. пераходу ўсіх народаў на расейскую мову. Першы этап «зліцця» — «збліжэнне» моваў, якое праводзілі прымусовымі, рэпрэсіўнымі метадамі.

Беларуская літаратурная мова адрадзілася ў XIX — пачатку XX стагоддзя. Складаліся граматыкі, слоўнікі, стваралася навуковая тэрміналогія. Але праца гэтая не быпа завершаная. Пры канцы 20-х гадоў бальшавіцкія ўлады абвінавацілі мовазнаўцаў у «шкодніцтве» і за некалькі хваляў рэпрэсіяў вынішчылі фізічна. Сярод знішчаных — Браніслаў

Тарашкевіч, Вацпаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Сцяпан Некрашэвіч, Мікола Байкоў ды іншыя.

«Варожымі» былі абвешчаныя і іхныя працы, у тым ліку пастановы Акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе правапісу 1926 года, праектрэформы правапісу 1930 года. У 1933 годзе беларускай мове спешна, без грамадскага абмеркавання, дэкрэтам навязапі бальшавіцкую рэформу. Мэтай яе было «ліквідаваць штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі», г. зн. спыніць развіццё беларускае мовы, пазбавіць яе непаўторнага аблічча. Скасавалі мяккі знак, які абазначаў памякчэнне (**песьня** — **песня**, **зьява** — **з'ява**), сталі пісаць не як чуецца, а на расейскі лад (**чэскі** — **чэшскі**, **ня быў** — **не быў**), у выніку чаго пачало страчвацца характэрнае для беларусаў вымаўленне. Запазычаныя словы мелі пісацца ўжо не на заходнееўрапейскі, а на расейскі ўзор (**дакляраваць** — **дэклараваць**, **газэта** — **газета**). Нават скланяць і спрагаць словы беларускай літаратурнай мовы цяпер даводзілася аналагічна расейскім (**у садох**, **у палёх** — **у садах**, **у палях**; **не ганеце** — **не ганіце**). Уводзіліся зусім не ўласцівыя беларускай народнай мове дзеепрыметнікі, «асабліва калі яны азначаюць сацыяльны сэнс» (**эксплуатуючы і эксплуатуемы клас**). Востры пратэст супраць рэформы выказала інтэлігенцыя Заходняй Беларусі, з ціхім незадавальненнем успрынялі гвалт над мовай у самой сталінскай БССР.

Пад канец 30-х гадоў прыхільнікі «зліцця моваў» падрыхтавалі чарговую рэформу з напісаннямі тыпу **весна**, **братскі**, **бібліатека**. Яшчэ ў адным праекце (1951) прапаноўвалася пісаць **снегі**, **цеатр**, **басціон**. Толькі відавочная абсурднасць гэтых прапановаў уратавала нашую мову ад іх прыняцця.

Русіфікацыя перайначыла слоўнікі нашае мовы. Асаблівую нянавісць у бальшавікоў выкпікалі спрадвечныя і самабытныя беларускія словы, якія яны называлі «нацдэмаўскімі», «кулацкімі». Партыйныя загады патрабавалі ўкладаць слоўнікі паводле «пралетарска-інтэрнацыянальнага» прынцыпу. Вяршыняй такіх «дасягненняў» стаў слоўнік пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча (1937), дзе знаходзім словы **забыўчывы**, **неўстрашымы**, **брадзячы**. Рукапісы ж раней падрыхтаваных слоўнікаў пайшлі пад нож, і для нашчадкаў загінулі шматтомны «Слоўнік жывой беларускай мовы», двухтомныя расейска-беларускі і беларуска-расейскі слоўнікі, польска-беларускі і беларуска-польскі, эсперанцка-беларускі і беларуска-эсперанцкі, латышска-беларускі, гістарычны, арфаграфічны...

На загад з партыйных кабінетаў зрусіфікавалі расейска-беларускі слоўнік 1953 года. Да беларускіх словаў дапісвалі расейскія сінонімы, ставячы іх часта нават на першае месца: рас. **батрак** — бел. **батрак, парабак**; **большак** — **гасцінец, бальшак; поезд** — **поезд, цягнік; минута — мінута, хвіліна**. Яшчэ далей пайшоў слоўнік 1980 года, які рэкамендаваў ужываць поруч са словамі вавёрка, бусак таксама **белка**, **багор** і г. д. У 50-х гадах беларускія мовазнаўцы «прывезлі» з Масквы новы загад русіфікаваць граматыку беларускае мовы, што і здзейснілі ў двухтомнай акадэмічнай «Граматыцы».

Сёння расейскія моўныя элементы пранізваюць словаўтваральную сістэму нашае мовы. Пад чужаземным уплывам мы і цяпер страчваем нацыянальны сінтаксіс, фразеалогію, тэрмінапогію (**дзялімае і прэдзел** у матэматыцы, **засядацель** у юрыспрудэнцыі). Гэта служыць для шавіністаў падставаю зневажаць беларускую мову, называць яе «испорченным русским языком», «грубым диалектом русского языка», заяўляць пра яе нярвзвітасць. Пара пазбыцца цяжкой бальшавіцкай спадчыны і аднавіць самабытнасць нашае мовы.

# 86. Якія былі мэты польскага змагання з беларускім нацыянальным рухам у Заходняй Беларусі?

Польскія ўлады ў 20—30-х гадах праводзілі ў Заходняй Беларусі палітыку паланізацыі карэннага насельніцтва, каб зрабіць край этнічна польскім і такім чынам назаўсёды замацаваць сваё панаванне на нашых земпях. «Крэсы Усходнія» — як яны называлі заходнебеларускія землі — мелі для тагачаснае Польшчы выключнае, перадусім эканамічнае, значэнне. Так, у бюджэце на 1924 год першыя два месцы ў структуры польскага экспарту займалі беларускі лес і ўкраінская нафта. Бепаруская сыравіна і прадукцыя сельскае гаспадаркі фактычна трымалі канверсаванасць польскай залатоўкі ў Еўропе. Вывозячы з беларускіх земляў каштоўную сыравіну, Польшча навадняла яе неканкурэнтаздольнымі на еўрапейскім рынку нізкаякаснымі таварамі.

Беларускае насельніцтва было пастаянным чыннікам нестабільнасці, а пры пашырэнні нацыянальна-вызваленчых ідэй станавілася адкрыта пагрозлівай і варожай для польскай акупацыі сілай. «Вогнішча беларушчыны», паводле

словаў аднаго з ідэопагаў польскай каланізацыі Заходняй Беларусі У. Студніцкага, стварала б сур'ёзную пагрозу каланіяльным ппанам Польшчы. Таму невыпадкова дзейнасць у Заходняй Беларусі нацыянальных арганізацыяў па выхаванні сама-свядомасці, прапагандзе ідэі аб'яднання ўсіх беларускіх земляў у адну дзяржаву, выданне беларускамоўнай пітаратуры, адкрыццё школ і навуковых установаў, іншыя формы працы выклікаЛІ рэпрэсіі з боку польскай улады. Арышты беларускіх настаўнікаў і дзеячаў культуры, канфіскацыя газет і часопісаў, зачыненне беларускіх гімназій у Барунах, Навагрудку, Клецку, Радашкавічах ды іншых месцах, пубпічныя палітычныя судовыя працэсы над нашымі патрыётамі, катаванні беларускіх дзеячаў у турмах Лукішкі, Вронкі, у Картуз-Бярозе ды інш., дыскрымінацыйнае ў дачыненні да беларускага насельніцтва школьнае, аграрнае, рэпігійнае заканадаўства — вось няпоўны пералік рэаліяў з жыцця Заходняй Беларусі пад польскай уладай.

Уціск і дыскрымінацыя беларусаў набылі такія памеры, што супраць гэтага пачала выказваць свой пратэст міжнародная грамадскасць і нават некаторыя польскія дзеячы, як, напрыклад, С. Жаромскі, а таксама паасобныя палітычныя арганізацыі.



***Браніслаў Тарашкевіч, адзін з лідэраў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі***

# 87. Як Вільня сталася жамойцкім горадам?

У міжваенным перыядзе (1921 —1939 гады) Вільня была палітычным і культурным цэнтрам Заходняй Беларусі, яе неафіцыйнай сталіцай. Тут знаходзіліся сядзібы ўсіх беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, працавалі беларуская гімназія, беларускі музей, шэраг навуковых і культурна-асветных установаў, рэдакцыі газет і часопісаў. Праўда, становішча ўвесь час змянялася да горшага, і напярэдадні другой сусветнай вайны колькасць іх у выніку шавіністычнае палітыкі польскіх уладаў значна зменшылася.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР беларускае грамадзянства Вільні было перакананае, што горад будзе нарэшце ў складзе беларускае рэспублікі. Пачала нават выходзіць, як у іншых абласных цэнтрах, газета «Віленская праўда» на беларускай мове. Але сталася іначай.

10 кастрычніка 1939 года Сталін перадаў Вільню з Віленскім краем (гэта быў абшар з насельніцтвам 457 тысяч чалавек) Летуве. Нарком замежных спраў СССР Молатаў адзначаў тады: «Мы ведаем, што бальшыня насельніцтва гэтага абшару не летувіская. Але гістарычнае мінулае ды імкненні летувіскага народа цесна звязаныя з горадам Вільня, і ўрад СССР уважаў за неабходнае шанаваць гэтыя маральныя фактары». Зразумела, што такое «дабрадзейства» мусіла быць аплочанае. Напачатку Масква атрымала права на размяшчэнне ў Летуве вайсковых базаў, а неўзабаве, як вядома, і ўвогупе «праглынула» яе.

Пасля далучэння Віленшчыны да Летувыжамойцкае насельніцтва горада стала імкліва ўзрастаць за кошт перасяленцаў з этнічных жамойцкіх земляў. Адбывалася гэта і дзякуючы прытоку рабочых рук у прамысловасць, і ў выніку наплыву масы чынавенства, паліцыі, войска.

Становішча беларусаў тут сталася яшчэ горшае, чым пры папяках. Летувіская прапаганда сцвярджала, што яны не беларусы, а «страчаныя летувісы», што ім трэба толькі змяніць прозвішча, дадаўшы «-ас», «-іс» або «-ус», ды навучыцца жамойцкай мове. Беспрацоўе сярод беларусаў павялічылася, яны дыскрымінаваліся пры ўладкаванні на дзяржаўную службу. Тыя ж з іх, хто нарадзіўся па-за Віленшчынай, увогуле не маглі атрымаць летувіскае грамадзянства.

У часе вайны ініцыятарамі карных захадаў з боку немцэў супраць нацыянэльнэ сведамых белэрусэў нярэдкэ былі польскія шавіністы. Гэтэ рэзэм з перэдвэеннымі сталінскімі рэпрэсіямі спрычынілася да катэстрэфічнага змяншэння колькасці беларускай

інтэлігенцыі ў Вільні. І тым не менш у вайну тут яшчэ працэвэлі белэрускэя гімнэзія, нэстэўніцкэя семінэрыя, пачатковыя шкопы, выдавапася газетэ.

Паводле «Каляндарных нататак» Адама Станкевіча, пры канцы вайны летувісы панічна баяліся беларусаў, справядпіва мяркуючы, што іхны актыўны калабарацыянізм, з аднаго боку, і шырокі супраціў беларусаў фашысцкай акупэцыі і іх кэласальныя ахвяры — з другога, могуць даць падставу дпя паваеннага перагляду лёсу Вільні. Але Сталін не палічыў патрэбным вяртаццэ дэ гэтага пытання.



***Вострая брама ў Вільні з выяваю нашага старажытнага дзяржаўнага герба, якая натхніла Максіма Багдановіча на стварэнне славутага верша «Пагоня»***

Канчэтковае знішчэнне беларускага культурнага асяродку ў Вільні адбылося адразу пасля вайны. Летувіскі ўрад у асобе міністра асветы Ю. Жугжды не дазволіў адчыніць тут ніводнай беларускэй школы, чэго дамагаліся А. Станкевіч ды іншыя беларускія дзеячы. Былі ліквідавэныя беларуская гімназія, славуты музей імя І. Луцкевіча. Усё гэта адбывалэся адначасна з новэй хваляй рэпрэсій супраць нашай інтэлігенцыі.

Па ўзгадненні з Мэсквой і Варшавэй замест беларускіх школаў пачалі насаджацца польскія і расейскія, было наладжанае выданне газеты «Чэрвоны штандар» на польскай мове. Як і рэней, польскія ксяндзы стараліся ўбіць у галовы беларусам-каталікам, што ўзапраўды яны палякі. У гэтым былі зацікаўленыя і летувіскія ўлады. Яны, відаць, не бачылі іншагэ шляху дэнацыяналізацыі беларусаў Віленшчыны, бо разумелі, што перавярнуць іх на жамойтаў досыць праблематычна.

Тым не менш, маючы на мэце змяніць дэмаграфічную сітуацыю на сваю карысць, яны адначасна імкнупіся накінуць на беларусаў хоць бы сваю вонкавую абалонку: дзе толькі магчыма, запісвапі іх жамойтамі, перакручвалі імёны і прозвішчы на свой капыл (Міцкявічус замест Міцкевіч, Васіпяўскас замест Васілеўскі, Астраўскайтэ замест Астроўская, Жвірбліс замест Верабей і г. д.).

Праводзілася тэтальная летувізацыя тапанімікі Вільні і Віпенскэгэ краю (Меднікі сталі Мядзінінкай, Свянцяны — Швянчоніс, Салечнікі — Шальчынінкай, Вострая Брама — Аўшрас і г. д.). Увыніку тут не засталося амапь ніводнай беларускай назвы.

Такім чынам Вільня набыла нязвыклае дпя сябе аблічча, упершыню за сваю шматсотгадовую гісторыю стаўшы жамойцкім горадам.

# *88. Што такое СБП?*

Гэта Саюз Беларускіх Патрыётэў, што ўзнік нэ пэчэтку 1946 годэ перэвэжнэ нэ тэрыторыі былой Зэходняй Беларусі як стыхійны пратэст нацыянальна сведамэй моладзі супроць гвалтоўнай русіфікацыі і разбурэння беларускэй культуры і мовы бэльшавікамі. На пачэтку лета 1946 года з'явілася падпольнэя патрыятычная арганізацыя ў Слоніме з канспірэцыйнай назвай «Чайка», заснавалі якую маладыя настэўнікі, учарашнія школьнікі. Падобныя групоўкі і аргэнізацыі ў тым часе ствараюцца ў Баранавічах, Берасці, Глыбокім, Навагрудку, Паставах, Жыровічах і іншых гарадах. На стадыі арганізэцыйнага афармлення знаходзяцца суполкі студэнцтва ў Менску і Горадні. Улетку 1946 года асобныя групы з Баранавічаў, Слоніма, Навагрудк'а змаглі аб'яднацца і стварыць Цэнтр Беларускага Вызваленчага Руху. У яго склад увайшлі Агейка, Аляксандр Барэйка, Мікола Макарэвіч, Ракевіч, Васіль Супрун (кіраўнік). Пад канец лета 1947 года рух перакінуўся на Маладзечанскую і Пінскую вобласці. Узніклі абласныя структуры кіравання. Іх узначалілі: Аляксандр Барэйка (Баранавіцкая вобласць), Мікола Макарэвіч (Берасцейская), Сяргей Яноўскі (Маладзечанская), Мікола Ляскавец (Пінская). Назву пры далейшым аб'яднанні суполак прынялі — Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП).

Мэты, якія ставіў перад сабой СБП, былі

абарона нацыянальных правоў і свабод, дасягненне дабрабыту насельніцтва, захаванне і развіццё беларускай культуры і мовы, і ўрэшце — пабудова суверэннай, незалежнай Беларусі. Палітычны накірунак руху — сацыял-дэмакратыя. Сродкі дзейнасці — агітацыя і прапаганда пераважна ў асяроддзі моладзі з мэтай абуджэння і развіцця сацыяльнай свядомасці і нацыянальнай-годнасці народа.

З дапамогай правакатараў узімку 1947 года СБП быў разгромлены органамі савецкай дзяржбяспекі. Адбыліся два закрытыя судовыя працэсы — у Менску і Полацку. Па Цэнтры Беларускага Вызваленчага Руху было некалькі закрытых ваенных трыбуналаў у Баранавічах і Менску. Удзельнікаў патрыятычнага руху ашальмавапі як «фашыстаў» і жорстка пакаралі. Некаторых з іх расстралялі, многія загінулі на бальшавіцкай катарзе.

# 89. Дзе ў свеце жывуць беларусы?




***Некаторыя перыядычныя выданні беларускай эміграцыі***

Акрамя Рэспублікі Беларусь, дзе яны складаюць блізу 80 працэнтаў, найбольш кампактна бепарусы жывуць на памежжы суседніх дзяржаваў, пераважна на Беласточчыне, Віленшчыне, Латгальшчыне, Пскоўшчыне, Смаленшчыне і Браншчыне. Але варта зазначыць, што яны там не эмігранты, а спрадвечныя жыхары на сваёй этнічнай тэрыторыі, на сваёй зямлі.

Пакідаць радзіму беларусаў вымушалі розныя прычыны, але перад усім эканамічныя і палітычныя. Найбольш масавая эміграцыя пачапася пры канцы XIX стагоддзя. Паскоранае развіццё капіталізму абумовіла тады міграцыю сялян і дробных вытворцаў дзеля лепшага заробку і набыцця зямлі. Сотні тысяч беларусаў пераязджалі ў Сібір, у буйныя прамысловыя гарады Расеі (гэтак толькі за перыяд з 1896 да 1912 года ў Сібір перасяліліся з Беларусі 717 тысяч чалавек). За межамі Расейскай імперыі нашых суайчыннікаў найбольш прыцягвалі Злучаныя Штаты Амерыкі, Канада, Аргенціна і Бразілія.

Першая сусветная вайна, гвалтоўная эвакуацыя,

рэвалюцыі і грамадзянская вайна раскідалі масы нашых людзей па абшарах Расеі.

Жорсткасць і помслівасць новай, савецкай улады прымусіла стваральнікаў і актыўных прыхільнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі падацца на эміграцыю ў Летуву, Латвію, Польшчу, Чэхаславаччыну і Нямеччыну.

У міжваенным перыядзе (1921 — 1939 гады) дзесяткі тысяч выхадцаў з Заходняй Беларусі ў пошуках лепшае долі накіраваліся ў Канаду, Аргенціну, Уругвай, Парагвай і Бразілію.

У часе другой сусветнай вайны больш за 300 тысяч беларусаў апынулася ў Нямеччыне, Аўстрыі ды іншых заходне-еўрапейскіх краінах. Многія з іх затым перасяліліся ў ЗША, Канаду і Аўстралію, утварыўшы новыя цэнтры беларускай эміграцыі.

За мяжою засведчылі сваю жыццяздольнасць арганізацыі нашых суродзічаў «Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі». «Згуртаванне беларусаў у Канадзе», «Беларуска-амерыканскае задзіночанне», «Беларускае аб’яднанне ў Аўстраліі», «Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі», «Беларускае нацыянальнае аб’яднанне ў Канадзе», «Беларускі саюз моладзі ў Канадзе».

Найбуйнейшымі цэнтрамі навукова-культурнага жыцця эміграцыі сталіся Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (выдае навуковыя «Запісы»), Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе, Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане, Беларускі (Вялікалітоўскі) фонд імя Л. Сапегі ў ЗША, Англабеларускае таварыства (выдае «Часопіс беларускіх даследаванняў» на ангельскай мове).

Згуртаванню беларусаў на эміграцыі, развіццю іх нацыянальнай свядомасці і культуры спрыяюць і папулярныя перыядычныя выданні, сярод якіх найбольш значныя газета «Беларус» (Нью-Ёрк, выдаецца з 1950 года) і часопіс «Полацак» (Кліўленд, з 1991 года).

Беларуская эміграцыя дала свету таленавітых спевакоў (Пётра Конюх, Міхась Забэйда-Суміцкі, Мікола Стрэчань), кампазітараў (Мікола Равенскі, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Эльза Зубковіч), мастакоў (Віктар Жаўняровіч, Уладзімір Шыманец, Зміцер Чайкоўскі), паэтаў (Натапля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей ды інш.). У сем’ях беларускіх эмігрантаў нарадзіліся і Алія Клеч (Пашкевіч) — вядучы мастак «Дыснэйлэнду», і Уэйн Грэцкі — «зорка» паўночна-амерыканскага хакею.

Можна толькі ганарыцца, што бепарусы паходжаннем гэтакія славутыя вучоныя, як Барыс Кіт — выдатны спецыяліст у галіне ракетнай тэхнікі, узнагароджаны Залатым медалём Германа Оберта, былы дарадчык урада ЗША ў гапіне развіцця астранаўтыкі, акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі; Ілля Прыгожын — прэзідэнт Бельгійскай каралеўскай Акадэміі навук, літаратуры і прыгожых мастацтваў, дырэктар Міжнароднага інстытута фізікі і хіміі ў Сальвэ, лаўрэатНобелеўскай прэміі 1977 года па хіміі.

# 90. Якіх славутых людзей дала свету Беларусь?

Беларуская зямля нарадзіла шэраг выдатных дзеячаў, якія праславіліся далёка за яе межамі. Гэта Казімір Семяновіч, вынаходнік шматступеневай ракеты, і Якуб Наркевіч-Ёдка, адкрывальнік электраграфіі і бяздротавай перадачы электрычных сігналаў; Ігнат Дамейка, народны герой Чылі, даследчык яе прыродных багацця́ў, заснавапьнік універсітэта ў Сант-Яга, і Герман Мінкоўскі, выдатны нямецкі матэматык і фізік; Аляксандр Кавапеўскі, які даказаў эвалюцыйнае адзінства хрыбетных і бесхрыбтовых жывёпаў, бліскуча пацвердзіўшы гэтым тэорыю Ч. Дарвіна, і ягоны брат Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі;

Бенядзікт Дыбоўскі, які ўпершыню апісаў жывёльны свет Байкапа, Амура, Камчаткі, і Ян Чэрскі, геолаг, даследчык Усходняй Сібіры, імем якога названая горная сістэма («хрыбет Чэрскага»), Зыгмунт Мінейка, нацыянальны герой Грэцыі, удзельнік барацьбы супраць турэцкіх захопнікаў, і Мікалай Судзілоўскі, прэзідэнт сената Гавайскіх астравоў; Леў Арцімовіч, выдатны вучоны ў галіне кіраванага тэрмаядзернага сінтэзу, і Аляксандр Чыжэўскі, заснавапьнік геліябіялогіі; Аляксандр Маліноўскі, які сваёй працай стварыў падмурак новай навукі — кібернетыкі, і Оскар Мілаш, французскі і літоўскі пісьменнік.

Са старадаўніх беларускіх родаў паходзяць і такія вядомыя ўсяму свету людзі, як матэматык Соф’я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), падарожнік Мікалай Пржэвальскі (Перавальскі), паэт Гіём Апалінэр (Кастравіцкі), кампазітар Дзмітры Шастаковіч, авіяканструктар Павел Сухі.

# 91. Якія войны прынеслі найбольшыя страты народу Беларусі?

Найбольшай трагедыяй сталася для Беларусі расейскае нашэсце, якое распачаў у 1654 годзе цар Аляксей Міхайлавіч. Тады на знясіленую за 6 гадоў казацкімі наездамі Беларусь рушыла 100-тысячнае войска пад камандаваннем Шарамецева. Актыўныя ваенныя дзеянні цягнуліся 7 гадоў, і гэтыя гады сучаснікі параўноўвалі з патопам. У бітвах, пры асадах гарадоў, ад гвалту загінулі 52 працэнты насельніцтва Беларусі, у некаторых жа паветах — да 70 працэнтаў жыхарства. Расейцы вывелі ў свае гарады і вёскі болей за 300 тысяч беларусаў. Значная частка гэтага палону была прададзеная ў рабства. Былі разрабаваныя палацы, храмы, манастыры, вывезеныя ўсе друкарні, кузні, запасы жалеза. Сельская гаспадарка і прамысловасць былі разбураныя расейскімі войскамі дашчэнту. Вынікам гэтай вайны было і тое, што антымаскоўскія настроі стымулявалі рост паланізацыі. Варта адзначыць, што Батыева нашэсце, з часу якога мінула ўжо сем з паловаю стагоддзяў, расейцы ўзгадваюць дагэтуль, а ў нас пра расейскае нашэсце сярэдзіны XVII стагоддзя забаранялася абмовіцца нават словам.

Кожным трэцім жыццём сваіх дзяцей паплацілася Беларусь за развязаную Пятром I Паўночную вайну. Нашы землі сталі арэнам змагання чатырох дзяржаў і шматгадовай расейскай акупацыі. Зноў вынікам вайны былі паўсюдныя могілкі, спаленыя вёскі і гарады, згалелыя людзі, няшчасныя сіроты.

Шасцімесячная вайна Расеі з Напалеонам каштавала беларусам мільёна чалавек — кожнага чацвертага.

Паўтара мільёна беларусаў загналі ў магілу першая сусветная і грамадзянская войны.

Сталінскі генацыд у 30 — 40-х гадах, паводле падлікаў навукоўцаў, каштаваў беларускаму народу блізу 2 мільёнаў жыццяў.

Другая сусветная вайна, распачатая Гітлерам і Сталіным, забрала на той свет у Беларусі 2 мільёны 250 тысяч чалавек.

Расейцы, немцы, палякі лічылі сябе народамі, якія нясуць крыж Божай місіі, і калі захоплівалі землі суседзяў, дык прымушалі на свой крыж маліцца і лічыць сябе за вызваленцаў. Беларусы ж здаўна нясуць крыж пакуты. У гэтай розніцы крыецца гапоўная несумяшчальнасць псіхалогіі беларусаў з псіхалогіяй расейцаў ці палякаў, якія і сёння не адракліся ўголас ад граху агрэсіўнасці, а праз царкву, касцёл ці вуснамі сваіх шавіністаў выказваюць намер зацвердзіцца на Беларусі з правам непавагі да нашай культуры, мовы, мінуўшчыны.

# 92. Які лёс старадаўніх музейных і бібліятэчных збораў на Беларусі?

Беларусь, відаць, з'яўляецца адзінай краінай у свеце, краінай-выключэннем, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных, на радзіме меней, чым за яе межамі. Прычынай таму ваенныя навалы, што хвалямі пракочваліся праз нашу зямлю, і драпежніцкая палітыка суседзяў.

Цяжка пералічыць усе тыя нацыянальныя багацці, што на працягу стагоддзяў былі вывезеныя з беларускай зямлі ў суседнія краіны. Тут і славутая нясвіжская калекцыя слуцкіх паясоў, і выданні Ф. Скарыны, і багатая калекцыя зброі і рыцарскіх панцыраў, ўнікальны шкляны посуд з Налібоцкай мануфактуры, што апынуліся ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве, і кнігі з нясвіжскай і полацкай бібліятэк, вывезеныя ў Пецярбург, і славутая бібліятэка I. Храптовіча са Шчорсаў, якую ў першую сусветную вайну скпалі ў часовы дэпазіт у Кіеве, і тысячы скрыняў з каштоўнасцямі (старадаўняй бронзай і срэбрам, мармуровымі




***Адзін са славутых Дзвінскіх камянёў — «Сулібораў хрэст», помнік эпіграфікі XII стагоддзя. У 1879 годзе вывезены ў Маскву***

барэльефамі і статуямі, карцінамі старых майстроў, рэдкімі рукапіснымі кнігамі і гравюрамі, дзівоснымі дыванамі і габеленамі, калекцыямі зброі і манет, фарфору і фаянсу), адпраўленых з Менска ў Варшаву, Кракаў, Познань ды іншыя польскія гарады ў 1920 годзе.

Найбольш беларускіх кніг, рукапісаў, карцін, іншых музейных экспанатаў было вывезена — на захад і на ўсход — у часе другой сусветнай вайны. Бясследна загінулі (кажуць, што пасля прагпяду Берыя) бясцэнныя скарбы Магілеўскага абласнога музея і сярод іх найпершая нацыянальная рэліквія — крыж Еўфрасінні Полацкай. У Германію і Аўстрыю трапілі асноўныя зборы Менскага і Баранавіцкага музеяў. Далёка не ўсе яны вярнуліся назад. А некаторыя з іх трапілі ў сховішчы Расеі. Так здарыпася, напрыклад, са старажытнымі каменнымі выявамі жанчын («бабамі»), якія да вайны знаходзіліся ў Менску, у вайну ўпрыгожвалі адзін з паркаў Берліна, а пасля зніклі ва ўсходнім кірунку.



***Лаўрышаўскае евангелле пачатку XIV стагоддзя — выдатны помнік беларускай культуры. Знаходзіцца ў Кракаве.***

І пасля другой сусветнай вайны працягвалася рабаванне нашых культурных скарбаў. Так, некалькі дзесяткаў найкаштоўнейшых карцін з нясвіжскіх калекцый Радзівілаў былі ў строгай таямніцы падараваныя савецкім урадам польскаму ўраду Берута. У Маскву траплялі манетныя скарбы, знойдзенныя ў нашай зямлі. Ленінградскія і маскоўскія экспедыцыі вывозілі каштоўныя археалагічныя знаходкі і рэдкія кнігі.

Асобна трэба сказаць пра лёс Віленскага беларускага музея імя І. Луцкевіча, зборы якога налічвалі блізу 75 тысяч экспанатаў. Пасля яго ліквідацыі ў 1945 годзе большасць іх, у тым ліку Статут 1588 года, Бібпія Францішка Скарыны, багатыя калекцыі старажытных грамат, пячатак, гравюр, картаў, слуцкіх лаясоў, жывапісу, зброі, апынуліся ў літоўскіх музеях і бібліятэках — Гістарычна-этнаграфічным музеі, Дзяржаўным мастацкім музеі (і яго філіяле — Карцінная галерэі), Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук ЛССР і Дзяржаўным мастацкім інстытуце. Цяпер віленскія беларусы робяць намаганні, каб аднавіць тварэнне братоў Луцкевічаў на ранейшым месцы — у Базыліянскіх мурах.

# *93. Як чужынцы скарыстоўвалі існаванне на Беларусі розных рэлігій?*

З даўніх часоў на Беларусі як правіла мірна суіснавалі розныя рэлігіі і вераванні: паганства, хрысціянства, юдаізм ды мусульманства. Да пэўнага часу гэта не супярэчыла нацыянальнай кансалідацыі нашага народа. Усе рэлігіі ў той або іншай ступені спрыялі пашырэнню духоўнасці, асветы, навукі.

Аднак суседнія дзяржавы — Масковія і Польшча — недзе з XV стагоддзя пачалі скарыстоўваць шматканфесійнасць нашага народа дзеля ўласных экспансіяністцкіх мэтаў. Яны абралі шлях распальвання ўзаемнай нянавісці паміж рознымі цэрквамі на нашай зямлі.

Маскоўскія князі, пачынаючы з Івана ІІІ, імкнучыся спраўдзіць сваю царкоўна-палітычную дактрыну «Москва — третий Рим, и четвертому не бывать», прысвойвалі тытул «государь всея Руси», што недвухсэўна сведчыла пра іх намер падпарадкаваць землі нашага гаспадарства. Пасля заснавання ў 1589 годзе Маскоўскае патрыярхіі дзеянні з боку Маскоўшчыны ў дачыненні да Вялікага Княства набылі адкрыта агрэсіўны характар. На працягу XVII—XVIII стагоддзяў Масква спрычынілася да заняпаду нашае дзяржавы і, урэшце, яе зліквідавання.

У сваю чаргу польскія палітычныя колы з даўніх часоў імкнуліся ператварыць наш каталіцкі касцёл у сродак сваёй экспансіі. Яны ўжывалі розныя інтрыгі, дамагаючыся ў абыход законаў Вялікага Княства прызначэння папякаў на духоўныя пасады, каб пакрысе падпарадкаваць наш касцёл, спаланізаваць яго і ўрэшце сцвердзіць думку, што каталіцтва — гэта атрыбут польскасці.

У XIX стагоддзі палітыка Расеі была скіраваная на выкарыстанне любых пра яваў самабытнасці нашага краю. Бепарусам навязвалася формула: «праваслаўны — рускі, каталік — паляк». У 1839 годзе праваслаўнае духавенства і расейскі ўрад зліквідавалі вунію, якая на той час была амаль адзіным апірышчам беларускай мовы.

Выхоўваючы пакаленні беларусаў у духу «польскай» або «рускай» веры, чужынцы пазбаўлялі нас будучыні. Яны пакідалі нам ролю этнічнага матэрыялу, высмоктваючы таленты і багацці нашага краю.

Як бачна, палякі і маскоўцы на працягу стагоддзяў скарыстоўвалі існаванне розных рэлігіяў на Беларусі выключна дзеля панавання ў нашым краі. Рэцыдывы гэтае палітыкі мы, на жаль, бачым і сёння. Нягледзячы на абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, тут мала што змянілася. Рэлігійныя канфесіі пакуль што не сталі дзейсным сродкам кансалідацыі беларускай нацыі.

## 94. Якія выдатныя польскія дзеячы з паходжання беларусы?

Наша зямля ўзгадавала шэраг выдатных дзеячаў літаратуры і мастацтва, палітыкаў і вучоных, якія ўнеслі велізарны ўклад у гісторыю Польшчы, у развіццё яе культуры і навукі.

Сярод іх многія класікі польскай літаратуры эпохі Асветніцтва — Францішак Багамолец, Францішак Князьнін, Адам Нарушэвіч, Юльян Нямцэвіч ды іншыя. Пачынальнік рамантызму. ў польскай літаратуры Адам Міцкевіч (даследчыкі выводзяць ягоны радавод ад беларуса Міцькі) шырока выкарыстоўваў у сваёй творчасці тэмы і вобразы нашага фальклору. Беларуская рэчаіснасць лягла ў аснову паэзіі ўраджэнца Меншчыны Уладзіслава Сыракомпі (Людвіка Кандратовіча) і прозы Элізы Ажэшкі (Паўлоўскай), якая нарадзілася на Гарадзеншчыне.

Беларускім музычным фальклорам напоўніцу карыстаўся заснавальнік нашага опернага мастацтва Станіслаў Манюшка (родам з Меншчыны), якога палякі лічаць «бацькам польскай оперы», і пачынальнік польскага сімфанізму Мечыслаў Карповіч (са Смаргоншчыны). Беларусы з паходжання таксама Рафал Чарвякоўскі — «бацька польскай хірургіі», Язэп Марцінкевіч — выдатны матэматык ды шмат якія іншыя польскія вучоныя.

Ад беларускай праваслаўнай шляхты вядзецца радавод нацыянальнага героя Польшчы Тадэвуша Касцюшкі. З Беларусі паходзіць і Тамаш Ваўжэцкі, які ўзначаліў паўстанне пасля зняволення Т. Касцюшкі. Беларусам (так ён сам называў сябе ў пару рэвалюцыйнай маладосці) з'яўляецца Язэп Пілсудскі, начальнік адноўпенай Польскай дзяржавы. Урэшце, з этнічнай Бепарусі родам І генерал Люцыян Жалігоўскі, стваральнік «Сярэдняй Літвы».

## 95. Якія дзеячы расейскае навукі і культуры з паходжання беларусы?

Беларусы зрабілі надзвычай шмат для расейскай культуры й навукі, пачынаючы ад Івана Фёдарава (Федаровіча, з беларускага роду Рагозаў), Пётры Мсціслаўца ды Самойлы Пятроўскага-Сітняновіча (Сымона Попацкага).

Новыя рамёствы прынеслі ў Маскву Клім Міхайлаў са Шклова, майстар аб'ёмнай разьбы («беларускае рэзі»), які стварыў іканастас Смаленскага сабора ў Маскве; Сцяпан Палубес (Іванаў) з Амсціслава, кафляр і майстар шматколерных рэпьефаў; Андрэй Чохаў (Чэхаў), заснавальнік маскоўскай людвісарскай («пушкарской») традыцыі, які адліў «Цар-гармату».

Сярод беларусаў з паходжання — аўтар першай фундаментальнай «Гісторыі Расійскай» Васіль Тацішчаў (са смаленскіх князёў); літаратары Тадэвуш (Фадзей) Булгарын, Фёдар Глінка, Фёдар Дастаеўскі, Дзмітры Пісараў, Аляксандр Твардоўскі, Міхаіл Ісакоўскі, Яраслаў Смелякоў, а таксама Юры Алеша (з барысаўскае шляхты), Яўген Еўтушэнка (продкі з вёскі Хамічы на Гомельшчыне). З бепарускіх родаў паходзілі пісьменнікі Аляксандр Грыбаедаў (з Грыбоўскіх) і Аляксандр Грын (салраўднае прозвішча Грынеўскі). А Уладзімір Высоцкі — з Мяшчанскае слабады ў Маскве, з XVII стагоддзя заселенай беларусамі (ён і сам згадваў, што ягоныя карані — на беларускім Палессі). Выдатны мовазнавец, галава Ленінградскае фаналагічнае школы Леў Шчэрба паходзіў з Ігумена Менскай губерні.

З Беларусі ў Расею прыйшло прафесійнае тэатральнае і музымнае мастацтва. Балерыны Азарэвічы са Шклова стварылі расейскую балетную школу. А музычнай часткай імператарскіх тэатраў Пецярбурга, дзе танцавапі Азарэвічавы, кіраваў

кампазітар Восіп Казлоўскі, які раней працаваў у Троках і Слоніме. Беларускага паходжання выдатныя кампазітары Міхаіл Глінка, Мадэст Мусаргскі, Ігар Стравінскі (сын саліста Марыінскага тэатра ў Пецярбургзе Фёдара Стравінскага родам з Рэчыцкага павета), Дзмітры Шастаковіч (унук паўстанца 1863 года). Знакаміты актор Васіль Качалаў (Шверубовіч) родам з Вільні, кінаактор Пётра Алейнікаў — з Магілеўшчыны. З беларускіх земляў скульптары Міхайла Мікешын (аўтар помніка ў Б. Хмяльніцкаму ў Кіеве, «1000-годдзе Расеі» ў Ноўгарадзе; лічыў сябе «беларускім панам»), Сяргей Канёнкаў.

У ліку падарожнікаў і ўсходазнаўцаў — першы консул Расеі ў Японіі ды аўтар першага японска-расейскага слоўніка Восіп Гашкевіч; першы расейскі санскрытолаг, стваральнік санскрыта-расейскага слоўніка Каятан Касовіч; укладальнік першага слоўніка якуцкай мовы, «бацька якуцкай літаратуры» Эдвард Пякарскі; падарожнікі МікагТай Перавальскі (Пржэвальскі) ды ягоны наступнік Пётра Казлоў; падарожнік і заолаг Рыгор Гром-Грымайла (Грум-Гржымайла). З беларускай Смаленшчыны паходзіць Васіль Дакучаеў, заснавальнік сучаснага глебазнаўства; з Магілеўшчыны — Пётра Касовіч, вядомы аграхімік і глебазнавец; з Віцебшчыны — Браніслаў Вярыга, вучоны-фізіёлаг.

З беларускага роду Корвін-Крукоўскіх славуты матэматык Соф'я Кавалеўская. З Беларусі таксама матэматык Васіль Ермакоў, фізік Аляксандр Садоўскі, хімік Аляксандр Вярыга, радыёхімік Васіль Барадоўскі, інжынеры, будаўнікі портаў Рыга і Кранштат Ян Багінскі ды Язэп Зарэцкі, заснавальнік расейскай школы доменшчыкаў Міхаіл Курака, стваральнік рэактыўных знішчальнікаў «Су» Павел Сухі.

# 96. Як беларусы называлі сябе і сваю мову ў розныя часы?

Па-рознаму. Найстаражытнейшы гістарычны назоў нашага народу — **крывічы**. Вацпаў Ластоўскі лічыў, што ён роднасны словам **кроўны**, **сваяк па крыві**. Потым, з канца I тысячагоддзя паН. Х., нашыя продкі называлі сябе **Русь**, **русіны** (слова скандынаўскага паходжання; адно з магчымых пачатковых значэнняў — племя тых, хто плавае на чаўнах). Гэтым сповам называлі землі, дзе пашыралася хрысціянства ўсходняга абраду. Была полацкая Русь, кіеўская Русь. Калі ў XV стагоддзі на палітычнай сцэне з'явілася Масква, ейную мову сталі называць **маскоўскаю**, сваю завучы **рускаю**. У Вялікім Княстве Літоўскім пашырыліся назовы **Літва**, **ліцьвіны**. Часам і чужаземцы, і самі беларусы (як навуковец Лаўрэн Зізані) называлі нашую мову **літоўскай або літоўска-рускай**.

«Белай» спачатку называлі ўсходнюю — Уладзіміра-Суздапьскую — Русь. Але ўжо з XIII стагоддзя заходнія вандроўнікі звалі Белаю Руссю (Вайсэн Руссэн, Русія Альба) менавіта бепарускія тэрыторыі. Пазней найменне Беларусь замацавалася было за ўсходнебеларускімі землямі — Віцебшчынай, Смаленшчынай, Магілеўшчынай, а з XIX стагоддзя расейскія ўлады сталі называць Беларуссю ўсю краіну. Лідэры беларускага руху пачатку XX стагоддзя — «нашаніўцы» — канчаткова выбралі і пачалі шырока прапагандаваць назву **беларусы, беларуская мова**.

Вацлаў Ластоўскі ды Ян Станкевіч ад пачатку 20-х гадоў прапагандавалі вяртанне назоваў **крывічы, крывіцкая мова**. Я. Станкевіч, жывучы ўжо на эміграцыі, з 50-х гадоў укараняў назовы **Вялікалітва, вялікаліцьвіны, вялікалітоўская мова**.

# 97. Як узніклі нашы дзяржаўныя сімвалы?

Яшчэ ў старажытнасці, каб адрозніваць сваіх ад чужынцаў у часе ўзброеных сутычак, ужываліся знакі-сімвалы. У славянскіх ппямёнаў такімі знакамі былі кавалкі пераважна чырвонай тканіны на дрэўку — сцягі, або харугвы. Каб не блытацца з аднаколернымі сцягамі, на іх малявалі асабістыя княжыя знакі, што звычайна паходзілі з паганскай сімволікі.

Беларускія войскі і княская ўлада ў полацкім перыядзе нашае гісторыі таксама карысталіся чырвонымі харугвамі.

Праўда, мы не ведаем, якія знакі-гербы былі на іх. Гэта маглі быць выявы хрысціянскіх святых ці полацкі варыянт «Трызуба».

У першай палове XIII стагоддзя на заходняй частцы Полаччыны пачало фармавацца Вялікае

Княства Літоўскае як працяг старажытнай дзяржаватворчай традыцыі беларускага народа. Успрыняўшы полацкую палітычна-эканамічную і культурную спадчыну, князі новае дзяржавы па-ранейшаму карысталіся чырвонымі сцягамі. А пачынаючы з Гедзіміна іх дынастыя мела за герб відазменены «Трызуб» полацкіх Рагваподавічаў, які пазней атрымаў найменне «Калоны» («Калюмны»).

Дзяржаўным жа (упадарным) гербам Вялікага Княства з другой паловы XIII стагоддзя сталася выява збройнага рыцара на кані — «Пагоня». Лічыцца, што напачатку яна была гербам Полацка, а таксама Новагародка.

З пачатку XV стагоддзя на шчыце «Пагоні» ўжо сустракаецца шасціканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Такія крыжы былі тыповымі хрысціянскімі сімваламі на Беларусі ў XI— XIV стагоддзях. Першыя ж звесткі пра сцягі з выявамі «Пагоні» паходзяць з часу Грунвальдскае бітвы (1410 год).

З цягам часу ў Еўропе распаўсюдзілася традыцыя адзначаць на сцягу герб у выглядзе ўмоўнай каляровай палосы. Згодна з законамі геральдыкі, верхнюю частку сцяга павінны быў займаць колер гербавай выявы, а ніжэй змяшчаўся колер самога сцяга. Гэтак не пазней за пачатак XVI стагоддзя і ўзнік наш бел-чырвона-белы сцяг, дзе верхняя палоса — колер «Пагоні», сярэдняя — спрадвечны колер самога сцяга, а ніжняя — колер рыцарскага шчыта на «Пагоні» (адзначым, што, акрамя белага, былі і іншыя варыянты колеру шчыта: чырвоны, сіні). Найбольш старажытная выява беларускага сцяга захавалася на карціне, прысвечанай пераможнай бітве нашых продкаў з маскоўцамі пад Воршай (1514 год).

Пасля акупацыі Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя Расейскай імперыяй «Пагоня» ўжывалася ў гербах некаторых беларускіх гарадоў і адміністрацыйных тэрыторый. Часам выкарыстоўваліся і колеры сцяга як знак адрознення вайсковых фармаванняў, рэкрутаваных з тэрыторыі Беларусі. Падчас антымаскоўскіх выступленняў «Пагоня» скарыстоўвалася паўстанцамі.



***Выява «Пагоні» на пячатцы полацкага князя Глеба. 1330 год***



***Герб «Пагоня» на надмагіллі Ягайлы. Першая палова XV стагоддзя***

У 1918 годзе, з адраджэннем нашае дзяржаўнасці, герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасля ўсталявання на Беларусі бальшавіцкага рэжыму ўжыванне нашай гістарычнай дзяржаўнай сімволікі жорстка каралася, ажно да працягпых тэрмінаў зняволення ў канцлагерах.

# 98. Якія гарады былі сталіцамі Беларусі?

Сталіцамі першых летапісных княстваў у IX—X стагоддзях былі **Полацак**, **Смаленск і Тураў**. Пасля таго як Тураў і Смаленск трапілі ў часовую залежнасць ад кіеўскіх князёў, **Полацак** застаўся адзіным цэнтрам магутнага беларускага гаспадарства — Полацкага княства. Асабліва выдатнае палітычнае значэнне ён набыў у XI стагоддзі пры Усяславе Чарадзеі, а культурнага росквіту дасягнуў пры яго нашчадках у XII стагоддзі. Пасля раздраблення Полацкага княства на захадзе Бепарусі пачала фармавацца новая беларуская дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае. Яе сталіцай вялікі князь Міндоўг зрабіў **Новагародак** (Наваградак). У 1323 годзе вялікі князь Гедзімін сталіцу дзяржавы перанёс у **Вільню**. Вільня заставалася сталіцай Вялікага Княства да канца XVIII стагоддзя. Аднак цэнтрам беларускага палітычнага і культурнага жыцця яна была амаль да сярэдзіны XX стагоддзя. З утварэннем у 1918 годзе Беларускай На- роднай Рэспублікі, а ў 1919 годзе — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі палітычнай сталіцай Беларусі становіцца **Менск**, перайназваны бальшавікамі ў 1938 годзе ў Мінск.

# 99. Якая нацыянальная рэліквія найкаштоўнейшая для беларусаў?

Можа, сыгнет князя Ізяслава, сына Рагнеды, ці пярсцёнак славутага князя Усяслава Чарадзея, пры якім наша старажытная дзяржава — Полацкае княства — дасягнула найвялікшае магутнасці? А можа, рукапіснае Тураўскае евангелле XI стагоддзя ці Бібпія Францішка Скарыны? Хтосьці скажа, што гэта — абраз Маці Божай Вастрабрамскай або Маці Божай Жыровіцкай, якім маліліся шматлікія пакаленні беларусаў. А нехта будзе сцвярджаць, што гэта — пячатка правадыра паўстанцаў 1863 года Кастуся Каліноўскага або ўрадавая пячатка Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але ў нашага народа, пэўна ж, ёсць скарб яшчэ больш каштоўны — крыж, зроблены ў 1161 годзе майстрам-ювелірам Лазарам Богшам для храма Спаса ў Полацку, унікальны помнік беларускага мастацтва. Гэта і хрысціянская рэліквія, бо ў ёй захоўваюцца кроплі крыві Ісуса Хрыста, часцінка ад Божага крыжа ды іншыя хрысціянскія святыні, прысланыя ў старажытнасці ў Полацак з Канстанцінопаля і Ерусаліма. Але найперш яна бясцэнная для нас таму, што гэта — крыж нябеснай заступніцы Беларусі святой Еўфрасінні Полацкай, нашай славутай асветніцы.

У гады другой сусветнай вайны крыж знік з нашай зямлі. Ёсць звесткі, што ён трапіў у адну з прыватных калекцый за акіян. Доўгі час пошукам крыжа займаліся толькі энтузіясты, цяпер яго вядуць улады Рэспублікі Беларусь і Інтэрпол.



***Крыж Еўфрасінні Полацкай***

# 100. Якая нацыянальная рэліквія найкаштоўнейшая для беларусаў?

**25 сакавіка (1918 г.)** — **Дзень Незалежнасці.** У гэты дзень Трэцяя Устаўная грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі абвясціла БНР незалежнаю і вольнаю дзяржаваю.

**15 ліпеня (1410 г.)** — **Свята Грунвальду (Свята перамогі пад Дуброўнай)** — дзень перамогі аб'яднанага войска Бепарускай і Польскай дзяржаваў над крыжакамі.

**6 жніўня (1517 г.)** — **Дзень друку** — выданне ў Празе Францішкам Скарынам першае беларускае друкаванае кнігі.

**25 жніўня (1991 г.)** — **Дзень Адраджэння** — наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі сілы канстытуцыйнага закону, аднаўленне незалежнае дзяржаўнасці.

**8 верасня (1514 г.)** — **Свята Аршанскае перамогі, Дзень беларускай вайсковай славы.** Беларускае войска ўшчэнт разбіла ўтрая большае войска Маскоўшчыны і на пэўны час спыніла расейскую агрэсію на Беларусь.

**27 лістапада (1920 г.)** — **Дзень Слуцкага збройнага чыну — (Дзень Герояў)**. У гэты дзень пачаў баявыя дзеянні супраць бальшавіцкага войска Першы Слуцкі полк Беларускае Народнае Рэспублікі.

Навукова-папулярнае выданне
**100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі**
*Складальнікі Іван Саверчанка, Зьміцер Санько*

Галоўны рэдактар У. Андрыевіч
Рэдактар А. Ціхановіч
Мастак В. Вярцейка
Тэхнічны рэдактар Зм. Бабін
Камп’ютэрнае выкананне С. Ручанаў
Карэктар В. Стальмахова

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 12.01.94.
Фармат 70Х108 1/16. Папера афсетная №2. Афсетны друк.
Гарнітура JournalSans. Умоўна-друк. арк. 7,0.
Тыраж 59 500 экз. Другі завод (29 501 — 59 500). Заказ 22.

Рэдакцыя газеты «Звязда», 220013, Мінск,
вул. Багдана Хмяльніцкага, 10-а.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, праспект
Францішка Скарыны, 79.